# 20-я Вясна

Зборнік эсэ і ўспамінаў
сяброў Праваабарончага цэнтра «Вясна»

Мінск
2016

20-Я ВЯСНА. Зборнік эсэ і ўспамінаў сяброў Праваабарончага цэнтра «Вясна». — Мінск, 2016. — 204 с., 20 іл.

У зборнік «20-Я ВЯСНА» ўвайшлі тэксты 20 сяброў Праваабарончага цэнтра «Вясна» і 20 фотаздымкаў, падрыхтаваныя да юбілейнай выставы «20 імгненняў Вясны», якія ілюструюць дзейнасць арганізацыі за 20 гадоў яе існавання. Зборнік можна назваць своеасаблівым працягам выдання «НАША ВЯСНА», прымеркаванага да 15-годдзя праваабарончай арганізацыі, якое пабачыла свет у 2012 годзе.

ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

## Змест

*Уступ* ......................................*5*

*Алесь Бяляцкі.*
15 гадоў «Вясне» — 15 гадоў экстрыму ............*7*

*Паліна Сцепаненка.*
За «Вясною» вясна ідзе ...............................*21*

*Валянцін Стэфановіч.*
Жыві сёння ..............................................*33*

*Таццяна Ждановіч (Снітко).*
Мая «Вясна» ............................................*39*

*Алег Жлутка.*
Каб людзі былі не праціўнікамі .....................*49*

*Юры Чавусаў.*
Праваабарона ў халодным клімаце: траекторыя развіцця праваабарончай арганізацыі на прыкладзе праваабарончага цэнтра «Вясна» .....*55*

*Уладзімір Лабковіч.*
Рух у бок «Вясны» ......................................*69*

*Аляксей Колчын.*
Размова ...................................................*85*

*Зміцер Салаўёў.*
Пра «Мінімальны спажывецкі бюджэт аспіранта», аб чым думаюць навукоўцы і шмат што іншае .....*99*

*Уладзімір Вялічкін.*
Надзея на адраджэнне ..............................*105*

*Віктар Сазонаў.*
Гонар эпохі ..............................*111*

*Уладзімір Хільмановіч.*
За права «людзьмі звацца» ..............................*119*

*Уладзімір Целяпун.*
Шлях да «Вясны» ..............................*129*

*Алесь Капуцкі.*
Прадвесне ў забраным краі ..............................*147*

*Алесь Дзергачоў.*
Тры крокі да «Вясны», тры крокі да свабоды ....*151*

*Сяржук Русецкі.*
Аптымізм застаецца ..............................*157*

*Тамара Шчапёткіна.*
Пару слоў пра сябе ..............................*161*

*Сяргей Сыс.*
На «Вясне» не бранзавеюць ..............................*167*

*Наста Лойка.*
6/20, альбо Як ужываюцца праваабарончыя пакаленні ..............................*173*

*Алена Лапцёнак.*
Набліжэнне вясны, альбо Вясна на маёй вуліцы ..............................*177*

*Алесь Бяляцкі.*
Дапамагаючы іншым, мы баронім сваю ўласную годнасць ...............*189*

Зборнік эсэ і ўспамінаў вясноўцаў быў задуманы праваабаронцам і літаратарам Алесем Бяляцкім яшчэ ў 2011 годзе, калі Праваабарончы цэнтр «Вясна» адзначаў 15-годдзе з моманту заснавання арганізацыі. Напісаўшы эсэ «15 год барацьбы — 15 год экстрыму», Алесь прапанаваў і астатнім сябрам далучыцца да творчага працэсу. І справа пакрысе пайшла, але лагічнага завяршэння не атрымала.

2011 год быў надзвычай складаны для грамадзянскай супольнасці краіны. Брутальны разгон мірнай дэманстрацыі супраць фальсіфікацыі вынікаў чарговых прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года завяршыў непрацяглы перыяд лібералізацыі і наладжвання стасункаў беларускага ўрада з Захадам.

Сотні адміністрацыйна затрыманых, вобшукі па ўсёй краіне і ўзбуджэнне палітычна матываванай крымінальнай справы, па якой абвінавачанымі і падазраванымі праходзілі амаль 50 чалавек, сярод якіх — шасцёра з дзесяці кандыдатаў у прэзідэнты, іх давераныя асобы, кіраўнікі штабоў, грамадска-палітычныя актывісты. Суды цягнуліся некалькі месяцаў. Адбылася зачыстка апанентаў дзеючай улады.

У такой атмасферы «Вясна» сустракала сваё 15-годдзе, калі было не да святаў. Бясконцым канвеерам ішлі суды, і працы праваабаронцам хапала як ніколі. У гэты ж час навісла чорная хмара і над самім праваабарончым цэнтрам.

4 жніўня 2011 года кіраўнік арганізацыі Алесь Бяляцкі быў арыштаваны, а 24 лістапада 2011 года асуджаны на чатыры з паловай гады зняволення.

Прайшло 5 год. Выпрабаванне на трываласць пройдзена. ПЦ «Вясна» — 20 гадоў.

*Алесь Бяляцкі*

# 15 гадоў «Вясне» — 15 гадоў экстрыму

Вясна 1996 года запомніцца назаўсёды шэрагам буйных спантанных акцыяў, якія прайшлі ў «сведамым» Мінску, бунтам вольнасці мінчукоў, не задаволеных саўгаснай палітыкай маладога тады яшчэ, але пасавецку дрымучага Лукашэнкі. Сёння цяжка паверыць, але за тры-чатыры гады — з 1990 па 1994 — людзі адчулі смак свабоды. І ў 1994-м я быў перакананы, што адваротнага шляху ўжо няма, што немагчыма ізноў заклеіць людзям раты, прымусіць баяцца, замоўкнуць і пакорліва схіліць голаў, як гэта было пры саветах.

Цяпер ужо, ацэньваючы той час, прыходзіш да высновы, што, сапраўды, каштоўнасці свабоды, дэмакратыі былі прышчапіліся, можа, да трацiны грамадства. У Мінску было яшчэ так сабе, а дзесьці — пагорай. Большасць жа людзей знаходзіліся ў палоне савецкіх стэрэатыпаў. Як пісаў некалі Янка Купала, «Пакрыўленыя колісь нашы душы дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ». Саветы семдзесят гадоў агнём і жалезам выхоўвалі з беларуса новага савецкага чалавека. І шмат

што ім у гэтым удалося. Таму і Лукашэнка са сваімі непрыхаванымі савецкімі папулісцкімі лозунгамі шмат каму прыйшоўся да душы.

Падтрыманы на выбарах у 1994-м, Лукашэнка быў не ўспрыняты маладой беларускай палітычнай элітай. Ужо былі праведзеныя ганебныя рэферэндумы, была адноўленая савецкая сімволіка, былі збітыя дэпутаты, якія спрабавалі стрымаць яго, хутка выбудоўвалася прэзідэнцкая «вертыкаль».

Абраны ў 1995-м новы склад Вярхоўнага Савета, здаецца, без фракцыі БНФ павінен быў бы быць больш згаворлівым, але ж не. Незалежную пазіцыю, адмяняючы лукашэнкаўскія ўказы адзін за другім, заняў Канстытуцыйны Суд. У паветры ўжо пахла адкрытым супрацьстаяннем. Вялізнае абурэнне выклікалі ў актыўнай часткі грамадства падпісаныя саюзныя дамовы і заявы Лукашэнкі пра аб’яднанне Беларусі з Расіяй.

5 красавіка 1996 года за свой эпатажны перформансны вершык «Убей президента», напісаны спецыяльна па-расійску, у форме гратэскнай агіткі, за краты патрапіў паэт Славамір Адамовіч. Улады і КДБ успрынялі гэта сур’ёзна і паказалі поўную адсутнасць гумару. Мала што арыштавалі Славаміра, дык яшчэ 24 красавіка правяліператрус у «Нашай Ніве». Паэт сатырычна заклікаў:

Убей эту мразь авторучкою,
иль зонтиком, или «пером»,
иль вовсе ма-аленькой штучкою,
подброшенной в терпкий ром.

Хаця зараз, перачытваючы гэты верш, разумею, што там былі і прароцкія радкі:

Убей же врага, чтобы молодость
твоя не осталась в дерьме,

чтоб Край наш
воспрянул с гордостью
во славе, а не в ярме!

Такім чынам заклікаў Славамір да актыўнага грамадзянскага супраціву, у іншым выпадку прарочачы «молодость в дерьме».

Хто ж тады мог уявіць, што гэты старшыня саўгаса з сіпатым голасам, які так любіў выступаць у Вярхоўным Савеце па справе і без яе, учэпіцца за ўладу рукамі ды нагамі, ды так надоўга...

І яшчэ адступленне: пасля 19 снежня і гэтай ганебнай справы супраць кандыдатаў у прэзідэнты і сотні перарусаў у офісах грамадскіх актывістаў, праваабаронцаў і журналістаў, і ў той самай рэдакцыі «Нашай Нівы» — почырк КДБ за гэтыя пятнаццаць гадоў так і не змяніўся... Але абшар узрос — які абшар!!! Сядзелі гаўнюкі, якія на пачатку дзевяностых заціхарыліся, схаваўшыся ў кабінетах, затым вылезлі і нарасцілі новых такіх самых.

Ад самага пачатку 1996 года мы, дэпутаты Мінскага гарадскога Савета, якія з’яўляліся актывістамі БНФ, неаднаразова заяўлялі пікеты, мітынгі, дэманстрацыі, акцэнтуючы ў заяўках увагу на парушэннях уладамі грамадзянскіх і палітычных свабодаў. Прычым рабілі гэта ў тэрміновым парадку. Зараз цяжка згадаць дакладныя матывы кожнай з гэтых акцыяў, на жаль, тэксты заявак у мяне не захаваліся. Даволі часта іх падпісваў я, бо ў мяне, у адрозненне ад дэпутатаў-франтаўцаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, яшчэ захоўвалася дэпутацкая недатыкальнасць і судзіць мяне ў адміністрацыйным парадку, як і іншых дэпутатаў-франтаўцаў, можна было толькі з дазволу сесіі Мінгарсавета. Таму ў 1995 і першай палове 1996 года я падпісваўся як арганізатар і браў удзел у дзясятках пікетаў. І нягледзячы на тое, што пасля акцыяў мяне неаднара-

зова затрымлівалі, ніводнага разу Мінгарсавет не даваў дазволу на прыцягненне мяне за арганізацыю «несанкцыянаванага мерапрыемства» да суду.

Але захаваліся некаторыя адказы гарвыканкама. Так, 22 лютага 1996 года дэпутату Мінгарсавета А. Бяляцкаму і грамадзяніну А. Чахольскаму (і я, і Алесь Чахольскі былі на той час сакратарамі Управы БНФ) за подпісам старшыні Мінгарвыканкама У. Ярмошына было адмоўлена ў правядзенні «22 лютага з 11:00 да 13:00 на плошчы Незалежнасці пікетавання ў форме дэманстрацыі» з прычыны парушэння парадку падачы заяўкі. Ужо і не памятаю, з якой нагоды мы збіраліся пікетаваць.

Набліжалася вясна, і палітычны клімат у краіне гарачэў. Вясной 1996-га Лукашэнка вырашыў даць бой вулічнай дэмакратыі. І калі акцыі 15 сакавіка (Дзень Канстытуцыі), 24 сакавіка (святкаванне Дня Волі) і 2 красавіка (дэманстрацыя пратэсту супраць саюзнай дамовы) прайшлі адносна спакойна, дык 26 красавіка на Чарнобыльскі шлях міліцыя атрымала дазвол на гвалт.

24 сакавіка было шматлюднае шэсце з плошчы Незалежнасці да Опернага тэатра, дзе адбыўся мітынг. Сяргей Антончык абвясціў збор грошай Лукашэнку на білет да Масквы. Затым маніфестацыя перамясцілася да будынка тэлерадыёкампаніі на вуліцы Чырвонай з патрабаваннем прадастаўлення адкрытага тэлеэфіру. Прэса і тэлевізія браліся Лукашэнкам пад кантроль, і Дзень Волі сумясцілі з асноўным пасылам — свабоду прэсе! З той акцыі захаваўся здымак, дзе мы стаім каля тэлерадыёкампаніі з паэтамі Эдуардам Акулінам і Міхасём Скоблам і нашай сяброўкаю Наталляй Кавалеўскай. Маладыя, пад бел-чырвона-белым сцягам. Тэлеэфір тады, вядома ж, не далі, а пачалі пошук і пераслед Зянона Пазьняка, які тады выступаў на мітынгу з патрабаваннямі доступу да тэлеэфіру. Неўзабаве ён мусіў

з’ехаць з Беларусі і распачаць міжнародную кампанію інфармавання пра падзеі, што адбываліся ў Беларусі.

Зноў жа ў мяне захавалася позва суда Маскоўскага раёна, дзе мяне 26 сакавіка 1996 года выклікалі ў суд па справе «аб парушэнні Бяляцкім арт. 167 КаАП РБ». Мабыць, гэта была спроба прыцягнуць мяне да адказнасці за дэманстрацыю 24 сакавіка, якая пачыналася з плошчы Незалежнасці, што тэрытарыяльна адносіцца да Маскоўскага раёна.

Тады ж, 24 сакавіка, заклікалі ўсіх сабрацца 2 красавіка, каб выступіць супраць меркаванага падпісання Лукашэнкам і Ельцыным дамовы пра ўтварэнне «Супольнасці Расіі і Беларусі». 1 красавіка на ўправе БНФ гарадская пракуратура правялаператрус і канфіскавала ўлёткі, якія заклікалі на акцыю 2 красавіка.

На 29 сакавіка, пратэстуючы супраць магчымага падпісання дамовы, я і Лявон Баршчэўскі падалі заяўку на пікет каля расійскай амбасады. Заява на пікет падавалася менш чым за 10 дзён, бо весткі пра падпісанне гэтай ганебнай угоды з Расіяй прыйшлі зусім нечакана і мы мусілі дзейнічаць як найхутчэй. Таму ў правядзенні пікету нам усё тым жа старшынёй Мінгарвыканкама У. Ярмошыным было адмоўлена. Прычым цікавым было абгрунтаванне гэтай адмовы, у якой прыводзіцца ацэнка ўладамі мітынгу і дэманстрацыі, якія адбыліся 24 сакавіка. Прывяду цалкам яе тэкст:

«На ваш зварот аб правядзенні 29 сакавіка 1996 года каля будынка амбасады Расіі з 10:00 да 17:00 пікетавання (у форме дэманстрацыі) паведамляецца, што ў адпаведнасці з Палажэннем аб парадку арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацыяў, зацверджаным Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 04.04.1988 (першыя мітынгі і дэманстрацыі ў 1987 і 1988 гадах тады яшчэ маладзёжных нефармальных суполак прымусілі бээсэсэраўскія ўлады прыняць такі Указ, дарэчы, больш ліберальны

ральны ў параўнанні з сённяшнім Законам аб парадку правядзення мітынгаў. — ***А. Б.***), заява павінна быць пададзеная ў выканаўчы камітэт па ўстаноўленай форме не пазней чым за 10 дзён да мяркуемай даты правядзення мерапрыемства.

Вамі ўстаноўлены парадак аб правядзенні дэманстрацыі не захаваны. Апроч таго, 24 сакавіка 1996 г. удзельнікамі санкцыянаванага мітынгу былі дапушчаныя факты грубага парушэння грамадскага парадку — збор на пл. Незалежнасці і шэсце па праезджай частцы пр-та Ф. Скарыны, непадпарадкаванне законным патрабаванням, супраціў работнікам міліцыі і нават агрэсіўныя дзеянні ў адносінах да іх, спроба гвалтоўна патрапіць у ахоўваемы будынак тэлецэнтра па вул. Камуністычнай, публічныя зняважлівыя выказванні ў адрас вышэйшых службовых асобаў рэспублікі і заклік да захопу ўлады гвалтоўным шляхам ды інш.

Гэтыя супрацьпраўныя дзеянні, якія пацягнулі за сабой парушэнне правоў і ахоўваемых законам інтарэсаў грамадзянаў, спыненне грамадскага транспарту, нанясенне значнай матэрыяльнай шкоды гарадской гаспадарцы, утрымліваюць прыкметы крымінальна караемых дзеянняў.

У сувязі з гэтым пракуратурай горада 27.03.96 узбуджана крымінальная справа, праводзіцца расследаванне з мэтаю выяўлення вінаватых асобаў, прыцягнення іх і арганізатараў мітынгу да прадугледжанай законам адказнасці, а таксама спагнання з іх нанесенай гарадской гаспадарцы шкоды.

Згодна з арт. 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаваю гарантуецца свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацыяў, калі пры гэтым не парушаецца правапарадак і правы іншых грамадзянаў Рэспублікі Беларусь.

Паколькі грамадска-палітычныя рухі, да якіх адносіцеся і вы, не толькі не забяспечваюць падтрыманне

адпаведнага парадку сярод удзельнікаў мітынгу, але і ўцягваюць людзей у супрацьпраўныя дзеянні, правядзенне дэманстрацыі (пікетаванне) каля будынка амбасады Расіі **вам забараняецца**».

Наколькі зараз памятаю, пікет мы ўсё ж правялі. Нас з Лявонам, як арганізатараў, адразу ж пацягнулі ў суд Цэнтральнага раёна, які тады знаходзіўся непадалёк ад расійскай амбасады на вуліцы М. Багдановіча, яго асудзілі, а мяне, як дэпутата, вымушаныя былі адпусціць.

2 красавіка быў не зусім зручны працоўны дзень — аўторак, і я меркаваў, што шмат людзей не будзе, але памыліўся. Было адчуванне роспачы і холаду ў сэрцы. Штосьці падобнае я ўжо перажываў двойчы — падчас рэферэндуму ў 1995 годзе супраць нацыянальнай сімволікі і яшчэ раней — пасля абвяшчэння вынікаў першага тура прэзідэнцкіх выбараў у 1994-м, калі стала зразумела, што выйграе Лукашэнка. Страта незалежнасці адчулася людзьмі як пагроза, таму людзі прыйшлі.

Мы з Лявонам Баршчэўскім і Анатолем Крываротам спазняліся і ішлі дзесьці ў канцы людской плыні, якая сцякалася да галоўпаштамта, дзе было прызначана месца збору дэманстрантаў. Але там міліцыя перашкодзіла выбудове галавы калоны, і плынь нечакана развярнулася назад. Арганізатары апынуліся ў канцы, а мы — наперадзе. А ў мяне яшчэ ў торбе быў мегафон. Дастаўшы яго, я і Лявон павялі калону немаведама куды — наперад. Людзей сабралася тысячаў дваццаць — дваццаць пяць. Мы ішлі па праспекце, затым пайшлі па Варвашэні, спыніліся за піўным бровярам, коратка выступілі я з Антончыкам. Затым гэты момант з дэманстрацыі, дзе я размахваю рукою і штосьці вымаўляю ў мегафон, паказала расійская тэлевізія.

Памятаю, як да мяне падбег начальнік аддзела аховы грамадскага парадку Цэнтральнага раёна, някепскі на той час такі капітан, які ўжо прыходзіў да мяне ў

музей разбірацца па фактах майго неаднаразовага затрымання на пікетах. Мы з ім былі мірна размаўлялі, я адбіваўся ад яго сваім дэпутацкім пасведчаннем, ён распавядаў, што вычытаў у «Свабодзе», а тут яго, у шлеме і бронекамізэльцы, спатнелага, калаціла буйнымі дрыжыкамі. Я супакойваў яго, сказаў, што нічога страшнага не будзе.

Пастаяўшы крыху і дачакаўшыся, каб калона падцягнулася, мы вырулілі на вуліцу Багдановіча. І тут адбылася сутычка са Статкевічам, які спрабаваў з групаю бэзэвэўцаў (БЗВ — Беларускае згуртаванне вайскоўцаў), сярод якіх маячыў мой знаёмы Сяржук Чыслаў, перахапіць ініцыятыву па правядзенні калоны і загадаў ім выхапіць у мяне мегафон, што напачатку ім і ўдалося. Але падчас штурханіны з фронтаўскай дружынаю мегафон мне ўсё ж удалося адбіць, што і вырашала далей, хто і куды павядзе калону. Затым быў другі напад бэзэвэўцаў на мяне і Лявона Баршчэўскага, і мегафон у мяне ўсё ж адабралі.

Перад мостам над Нямігай мы з Баршчэўскім заклікалі ўсіх звярнуць направа да Палаца спорту, а Мікола са сваёй групаю махаў рукамі, каб народ ішоў за імі, пад мост, дзе ўжо чакалі ланцугі міліцыянтаў. Страшна было падумаць, што там магло б зрабіцца у гэтай катлавіне з высокімі берагамі, калі б калона пайшла за ім. Але, пэўны час павагаўшыся, людзі павярнулі да Палаца спорту, дзе мы і правялі мітынг. Падчас мітынгу я падышоў да Статкевіча і вырваў свой мегафон. Пасля гэтага мы з Міколам не размаўлялі гады тры. Але «Марш свабоды» ў 1999 годзе, у арганізатарах якога мы былі, ізноў прымірыў нас.

26 красавіка быў працяг. На плошчы Якуба Коласа сабралася вялізная грамада людзей. Тысячаў сорак-пяцьдзясят. Трэба сказаць, што падчас «адноснай дэмакратыі» ў гадах 1992–1994 вулічныя акцыі пасля шматтысячных мітынгаў пачатку 1990-х здрабнелі.

Ніхто іх не забараняў, палітычныя пытанні збольшага вырашаліся ў сценах парламента. Памятаю, як на адзін з мітынгаў, які праводзіўся ў траўні ці то ў чэрвені ў Курапатах напачатку 90-х, сабралася мо якая тысячапаўтары людзей. І затым, каб не расчараваць сабраных, арганізатары на чале з Зянонам Пазьняком павялі калону праз увесь горад да помніка Максіму Багдановічу. Тады прайшлі гэты доўгі шлях пад сцягамі, з транспарантамі, стаміліся, але людзі былі задаволеныя.

Чарнобыльскі шлях ізноў жа праходзіў пад лозунгамі супраць саюзу з Расіяй. Збор быў абвешчаны на плошчы Якуба Коласа. Сабраліся дзясяткі тысяч людзей. Хтосьці спаліў напачатку расійскі сцяг. Над грамадою луналі бел-чырвона-белыя сцягі, было шмат транспарантаў і аздаблення з чарнобыльскімі матывамі. І вось калі народ рушыў па праспекце Францішка Скарыны ў бок плошчы Перамогі, праспект перагарадзілі машынамі, а міліцыя пусціла ў ход дубінкі. Разыгралася сапраўдная бойка. Людзі з голымі рукамі адбіваліся ад міліцыянтаў, перакулілі дзве міліцэйскія машыны, урэшце прарвалі ланцуг і пайшлі па праспекце. Першапачаткова планавалася правесці мітынг на плошчы Незалежнасці, але калі мы дайшлі да цырка, да перасячэння праспекта Скарыны з вуліцай Купалы, за ёй, крыху вышэй, праспект перагароджваў цэлы натоўп міліцыянтаў у шлемах і са шчытамі. Весці людзей на іх азначала ўчыніць крывавую бойню. Таму дэманстранты павярнулі па вуліцы Купалы на Нямігу. На ходніках разам з жонкаю стаяў Зянон Пазьняк і вітаў дэманстрантаў. Па ходу жорсткія бойкі з міліцыяй разгарнуліся за свіслацкім мостам, на ўзгорку. Дэманстрацыя дайшла, як і 2 красавіка, да Палаца спорту, дзе быў праведзены мітынг. Памятаю, як выступіў Зянон. Выступіў хораша, крытыкаваў саюзныя пагадненні і прапанаваў ушанаваць памяць забітага расіянамі 21 кра-

савіка чачэнскага прэзідэнта Джахара Дудаева. Гэтага яму потым улады не даравалі і доўга прыгадвалі гэтую хвіліну маўчання.

Для мяне гэты напад міліцыі на мірных дэманстрантаў быў шокам. З 1988 года, з дня разгону лістападаўскіх «Дзядоў» міліцыя асцерагалася ўжываць брутальны гвалт супраць дэманстрантаў. Тады людзей шчодра палілі «чаромхай», дасталася ў вочы і мне. Але пасля разбіральніцтваў і скандалу ўлады адмовіліся ад гвалтоўных дзеянняў. У горшым выпадку міліцыя адцясняла людзей. Як ад помніка Леніну 7 лістапада ў 1990 годзе, калі таму ўсклалі «дары камунізму» — крыж, на які была ўсцягнута роба зняволенага ГУЛАГа, падпяразаная калючым дротам. Сур'ёзны званок быў 24 сакавіка, калі частку людзей, якія ўжо разыходзіліся, збілі каля будынка КДБ. Тады ж было арыштавана каля 30 асобаў.

І вось яно, пасля сямі гадоў мараторыю на гвалт — пачалося. Быў зламаны псіхалагічны бар'ер, які ўстрымліваў сілавікоў ад гвалту ўсе гэтыя гады.

26–27 красавіка было арыштавана некалькі сотняў асобаў. Увечары быў чарговы напад на ўправу Фронту. Міліцыя шукала Зянона Пазьняка, быў аддадзены загад на ягонае затрыманне. Літаральна перад гэтым я знаходзіўся на ўправе, дзе таксама быў і Зянон Пазьняк і, здаецца, Сяргей Навумчык. Калі паведамілі, што ўправа абкладзеная міліцыяй, некалькі чалавек з кіраўніцтва Фронту выйшлі ва ўнутраны двор управы, у які вялі запасныя дзверы. Але двор быў глухі, з адным толькі выхадам на вуліцу Варвашэні. Тады я з жонкаю Сяргея Навумчыка Галінай пад ручку прайшлі па гэтым шляху да ўвахода ва ўправу. Падалося, што міліцыя не ведала пра запасны выхад з памяшкання. Паклікалі шафёра, які вазіў Зянона Пазьняка, і папрасілі, каб ён на машыне заехаў ва ўнутраны дворык і паспрабаваў вывезці адтуль Зянона. Яму гэта ўдалося, і Зянон Пазь-

няк з Сяргеем Навумчыкам на доўгія гады пакінулі Беларусь.

Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык патрапілі ў СІЗА. Яны абвясцілі галадоўку, якую трымалі тры тыдні, аж пакуль іх, пад ціскам Ельцына, не выпусціў Лукашэнка. 27 красавіка было арыштавана амаль усё кіраўніцтва БНФ. За кратамі апынуліся Юрась Хадыка, Вячаслаў Сіўчык, Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч ды іншыя. Памятаю, як мы праводзілі Управу БНФ у двары на праспекце Скарыны, насупраць будынка Акадэміі міліцыі. Сабраліся непасаджаныя сябры Управы і абмяркоўвалі сітуацыю разгрому кіраўніцтва Фронту. Бягучае кіраўніцтва Управы, а гэта значыць і Фронту, на некалькі дзён усклалася на мяне, як на сакратара Управы. Было адчуванне, што можа наступіць чарговая хваля рэпрэсіяў і мы пойдзем следам за арыштаванымі. Але ўлады праз некалькі дзён адкруцілі назад, і Вячорка з Баршчэўскім былі выпушчаныя.

Для мяне было гранічна зразумела, што праявіўся напоўніцу фірмовы стыль Лукашэнкі і што так яно і будзе надалей. Трэба было штосьці супрацьстаўляць гэтаму дзяржаўнаму гвалту.

Неўзабаве на офісе БНФ па маёй ініцыятыве была сабраная група людзей, у якую ўваходзілі Галіна Вашчанка, Мая Кляшторная ды яшчэ некалькі асобаў, якая распачала тэрміновыя дзеянні па зборы інфармацыі пра затрыманых, пошук дапамогі сем’ям. Хутка такую дапамогу ў выглядзе харчоў: макароны, алей, крупа — мне перадаў адзін з маіх добрых знаёмых, прозвішча якога пакуль што яшчэ рана называць. У музеі Багдановіча мы з супрацоўнікамі музея фасавалі гэтыя харчы ў поліэтыленавыя пакеты з фірмовым знакам музея Багдановіча, а затым раздавалі пацярпелым ды іх сем’ям. Так, завезлі добрыя сумкі харчоў дадому сем’ям Юрася Хадыкі ды Вячаслава Сіўчыка, якія яшчэ знаходзіліся ў вязніцы.

Акцыі пратэсту на гэтым не спыніліся. 9 траўня калона дэмакратычных ветэранаў разам з дэмакратычнымі актывістамі, нягледзячы на перашкоды ўладаў, усклала кветкі і вянкі да помніка Перамогі на плошчы Перамогі, 30 траўня на праспекце адбыўся шматлюдны пікет супраць палітычных рэпрэсіяў, які ізноў жа быў разагнаны міліцыяй. 22 чэрвеня ў 55-я ўгодкі з пачатку вайны ізноў да помніка Перамогі былі ўскладзеныя кветкі ды вянкі і затым каля будынка тэатра оперы і балета быў праведзены жалобны мітынг. З 1996 года ў мяне захавалася копія заяўкі на пікет каля Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, падпісаная мною і яшчэ адным мінскім дэпутатам Уладзімірам Несцерам, дзе мы прасілі дазволіць нам правесці пікет 28 жніўня з 11:00 да 16:00 з тэмаю «Спыніць пераследаванне грамадзян па палітычных матывах». Ужо не памятаю, ці дазволілі нам і ці праводзілі мы гэты пікет.

Напалоханыя грамадскай актыўнасцю ўлады пачалі перашкаджаць нават у правядзенні чыста культурніцкіх акцыяў. Так, 25 траўня ў дзень памяці Максіма Багдановіча каля ягонага помніка, дзе традыцыйна збіраліся людзі і музей Максіма Багдановіча праводзіў імпрэзу з выступамі і музычнай часткаю, былі затрыманыя некалькі чалавек, а на мяне, на той час яшчэ дырэктара музея Максіма Багдановіча, як на арганізатара «несанкцыянаванай акцыі» склалі пратакол і спрабавалі асудзіць.

Такі быў пачатак дзейнасці праваабарончага цэнтра «Вясна». Канчаткова рашэнне пра стварэнне самастойнай праваабарончай арганізацыі наспела неўзабаве, калі на адным з мітынгаў я падышоў да кіраўнічкі Беларускага Хельсінкскага камітэта Таццяны Працька і спытаўся, чаму яны не дапамагаюць матэрыяльна Славаміру Адамовічу, які на той час сядзеў ужо ў віцебскім СІЗА. Хельсінкскі камітэт быў яшчэ зусім малады. Ён стварыўся ўвосень 1995 года. У Славаміра

была адна толькі маці, якая жыла на вёсцы і не мела істотных матэрыяльных даходаў. Натуральна было, што яго трэба было падтрымліваць перадачамі. Таццяна адказала, што Хельсінкскі камітэт ставіць больш шырокія задачы і не займаецца індывідуальнай дапамогай сядзельцам. На гэтым жа мітынгу я пахадзіў сярод удзельнікаў і пазбіраў грошы на дапамогу Славаміру. Там жа знаходзілася і ягоная маці. Усе сабраныя грошы былі перададзеныя ёй. А я вырашыў, што калі Хельсінкскі камітэт не лічыць патрэбным гэтым займацца, значыць, гэтым будзем займацца мы. Таксама ад самага пачатку я пачаў ствараць хроніку рэпрэсаваных, першы варыянт якой з’явіўся ў кніжцы «Мінская Вясна — 96», а затым яна рэгулярна папаўнялася ў «Беларускіх ведамасцях», якія на эміграцыі пачаў выдаваць Зянон Пазьняк. Фіксацыя парушэнняў правоў чалавека стала адной з галоўных задачаў ПЦ «Вясна».

Пасля некалькіх месяцаў працы Таццяна Процька прапанавала мне ачоліць Мінскую гарадскую арганізацыю БХК. Але, параіўшыся з Вінцуком Вячоркам, я вырашыў не кідаць спробы стварэння самастойнай праваабарончай арганізацыі. Як паказваюць апошнія пятнаццаць гадоў нашай дзейнасці, гэта быў правільны шлях.

*Красавік 2011 года*




**1996.**

Мірнае дэмакратычнае шэсце «Чарнобыльскі шлях»,
у якім прынялі ўдзел больш за 50 тысяч чалавек, было жорстка задушана ўладамі. У выніку сутыкненняў пацярпела каля ста чалавек. З арганізацыі дапамогі ахвярам і ўзнікла праваабарончая ініцыятыва, пазней зарэгістраваная як гарадская праваабарончая арганізацыя «Вясна-96».

*Фота Георгія Ліхтаровіча.*

*Паліна Сцепаненка*

# За «Вясною» вясна ідзе

У красавіку 2011 года я напісала гэтае эсэ, адправіла Алесю Бяляцкаму, які збіраў тэксты для кнігі пра праваабарончы цэнтр «Вясна». Так атрымалася, што праз год тэкст давялося шукаць у асабістым архіве Бяляцкага — пасля шматлікіхператрусаў...

У той час, калі пісаўся першапачатковы варыянт гэтага тэксту, Алесь ведаў, што можа трапіць за краты. Зрэшты, ён ведаў, што можа трапіць за краты, яшчэ з 1983 года, калі пачаў прымаць удзел у дзейнасці маладзёжных суполак, якія ставілі сабе за мэту незалежнасць Беларусі.

«Мне сказалі: “Хочаш змагацца за Беларусь? Мусіш тады вызначыцца, — узгадваў падзеі 80-х гадоў праваабаронца. — Ёсць хлопцы, і мы хочам змагацца за Незалежнасць Беларусі, але гэта небяспечна. У нас падпольная структура, і мы ўсё будзем рабіць патаемна. І змагацца за Незалежнасць”».

У 2011 годзе Алесь Бяляцкі ведаў пра пагрозу арышту і меў магчымасць з’ехаць з краіны падчас расследавання, але адчуваў сябе абсалютна невінаватым, а калі

б з’ехаў — такім чынам ускосна пацвердзіў бы сваю віну ва ўтойванні так званых падаткаў.

У апошнім слове на судзе 23 лістапада 2011 года Алесь сказаў: «Праваабарончай дзейнасцю, і ўвогуле грамадскай дзейнасцю, я займаюся практычна ўсё маё жыццё. У гэтым годзе — 30 гадоў, як я займаюся грамадскай дзейнасцю. І перыяд, калі я адчуваў сябе больш-менш спакойна і свабодна, — гэта з 1991 па 1995 год. Я не шкадую ні пра адзін свой крок, зроблены за гэтыя 30 гадоў у плане абароны дэмакратыі, правоў чалавека ў Беларусі. Я гэта рабіў свядома». (Паводле дыктафоннага запісу з судовага пасяджэння.)

Вясною з’яўляецца адчуванне блізкіх зменаў. Яно ёсць, яно вісіць у паветры. Так было і ў 1996 годзе, калі ў Мінску адбыліся масавыя рэпрэсіі супраць удзельнікаў мірных акцый пратэсту. Тады і ўзнік праваабарончы цэнтр «Вясна-96» — як спадзяванне на тую вясну, якая не была яшчэ, але будзе, абавязкова прыйдзе.

«Краіна ў кратах» — спяваў гурт «Уліс» у 1990 годзе. Заставаўся год да распаду СССР і камуністычнай сістэмы. Праз год здавалася, што гэта песня пра нашае мінулае, атрымалася — не, пра будучае. «Краіна ў кратах» — да першых палітычных зняволеных у незалежнай Беларусі заставался пяць гадоў.

«Некалі я марыў хоць краем вока зазірнуць за высокі мур і ацаніць архітэктурныя асаблівасці гэтага помніка архітэктуры пачатку XIX стагоддзя — Пішчалаўскага замка», — так некалі напісаў, а пасля і сказаў мне мой сябра, калі мы праходзілі па вуліцы Валадарскага ў Мінску ўздоўж белай сцяны следчага ізалятара, больш вядомага ў народзе як «Валадарка».

Жаданне здзейснілася — лёс наканаваў зазірнуць за мур не толькі яму, а шмат каму з актывістаў грамадзянскай супольнасці. У гэтых мурах чалавек знаходзіцца пад фізічным і псіхічным ціскам. І чым дольш

яго тут утрымліваюць, блытаючы паказанні, зацягваючы працэсы, тым прасцей з яго выбіць патрэбныя следству факты. Нездарма ў адной падследчай камеры могуць апынуцца побач настаўнік і рэцыдывіст, палітык і сапраўдны маньяк. У нашай краіне ніхто ніколі не можа ведаць напэўна: прыйдзецца яму судакрануцца з турэмным светам ці не. За час з 1996 года ўся наша краіна ператварылася ў вялікую «зону» з асаблівым дыктатарскім рэжымам. Я разумею людзей з торбамі, якія туляцца пад сценамі Пішчалаўскага замка — галоўнага СІЗА Беларусі. Разумею і тых, хто знаходзіцца ў СІЗА. У першых галоўная думка: «Каб прынялі перадачу». У другіх: «Каб хутчэй выйсці на волю». Бо самы шчаслівы дзень на «зоне» — гэта дзень твайго вызвалення, нават калі гэта «зона з асаблівым дыктатарскім рэжымам».

Канфлікт з дзяржавай, адсутнасць справядлівага следства і суда — гэта справы, з якімі звяртаюцца да праваабаронцаў. Але ўсё часцей і часцей праваабаронцы самі трапляюць за краты.

### Ідэолагі

У 2010 годзе дзяўчынка з мамай зрабіла цацку на конкурс — вялікага клоўна. Пераможцы конкурсу на лепшую цацку мусілі трапіць на ёлку да прэзідэнта. Клоўн не прайшоў па конкурсе. Ідэолагі вынеслі вырак. Адзін сказаў: «Твар цёмны», другі сказаў: «Атрымалася карыкатура на Уга Чавеса».

Ёсць знакаміты фільм «Залатая ліхаманка» з Чарлі Чаплінам, дзе галодны барадаты злыдзень глядзіць на Чапліна, які ператвараецца для яго ў велізарную курыцу. Гэта значыць, Чапліна як чалавека есці нельга, але ў барадатага ўзнікае замена рэальнай рэчаіснасці ідэалагічнай мадэллю — гэта не чалавек, гэта курыца, якую

можна з’есці. Раз гэта курыца, значыць, з’есці яе — гэта нармальна, бо я ж есці жадаю, я паміраю ад голаду. Для гэтага і існуе прапаганда, яна падмяняе рэальнасць вобразам, патрэбным уладзе. Існуюць розныя варыянты... Можна спаслацца на той жа фільм, калі Чарлі Чаплін есць чаравік і ўяўляе, што шнуркі — гэта спагеці, а цвічкі — костачкі. Ён паводзіць сябе не як людажэр. У яго іншая ідэалогія. Але любая ідэалогія замяняе сабой рэальную рэчаіснасць, каб апраўдаць паводзіны чалавека, паводзіны ўлады, паводзіны партыі, паводзіны лідара. А ў Беларусі прапагандысты падмяняюць рэальнасць вобразамі па прынцыпе — «Беларусь сёння. Правільны выбар» («мы самыя лепшыя, усе нам зайздросцяць і так трымаць»).

Усё гэта цяжкімі штампамі ўпрасоўваецца ў свядомасць праз дзяржаўнае радыё, тэлебачанне, газеты.

### Праз дваццаць гадоў...

Час ідзе, шмат што забываецца. У тым ліку і тое, як фарміравался грамадская думка больш за 20 гадоў таму. Ужо ў 1988 годзе ў газетах пачалі з’яўляцца артыкулы, дзе асоба дзеючага прэзідэнта Беларусі супрацьпастаўлялася актывістам суполак нацыянальнай і дэмакратычнай скіраванасці.

1 лістапада 1988 года «Чырвоная змена» надрукавала артыкул «Пена на хвалі перабудовы», дзе яго аўтары У. Левін і Б. Тарасевіч пісалі:

«Так ужо супала, што ў адзін дзень нам давялося пабываць на двух маладзёжных мерапрыемствах. Раніцай у ЦК ЛКСМБ сабраліся на нараду рабяты, якія працуюць у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, бытавым абслугоўванні. Размова ішла аб тым новым, што ўвайшло ў жыццё, што набалела, што дрэнна вырашаецца або не вырашаецца наогул.

(...) Колькі клопату было ў кожным выступленні. Гэтыя людзі не прывыклі да трыбуны, не ўмеюць гаварыць гэтак жа добра, як працуюць.

(...) Аляксандр Лукашэнка ўзначаліў самую стратную ў Магілёўскай вобласці гаспадарку. І яна практычна за год дзякуючы ўкараненню новых гаспадарчаразліковых адносін атрымала мільённы прыбытак. Маладога дырэктара запрасілі на нараду ў ЦК КПСС. З ім гутарыў па гэтых праблемах Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў.

Другая сустрэча адбылася ў тую ж суботу 22 кастрычніка ў Доме палітычнай асветы г. Мінска. Праводзіў сваё паседжанне клуб “Сучаснік”. Тэма, вынесеная на абмеркаванне, — “Свабода асобы, выбар і выбары”. На сустрэчу, арганізаваную “Сучаснікам”, прыйшлі і актывісты “Талакі”. Але замест дзелавога абмеркавання пытання старшыня “Сучасніка” Л. Крывіцкі і яго памочнік А. Галькевіч пачалі размову з адкрытай правакацыі, заявіўшы аб тым, што ў рэспубліцы створаны нейкі “аргкамітэт народнага фронту”, які, маўляў, аб’яднае ўсіх нефармалаў. (...) Відавочна, што актывісты “Талакі”, “Сучасніка”, гуляючы ў палітыку, насаджаюць дэмагогію, пустаслоўе. Але незразумела, чаму ім прадастаўляюць велізарныя аўдыторыі для мітынгаў па першым патрабаванні? Чаму тайна распаўсюджваюцца і ходзяць па руках іх самвыдавецкія дэкларацыі, пракламацыі і заклікі? Хто аддаў у рукі нефармалаў, якія спецыялізуюцца на сацыяльнай дэмагогіі, маладзёжную аўдыторыю, размнажальную тэхніку?»

Больш за дваццаць гадоў прайшло, а ўлады працягваюць змагацца і з «самвыдатам», і з памнажальнай тэхнікай, і са свабодай слова, і з «незарэгістраванымі арганізацыямі».

**Манументальная прапаганда**

Адны з першых справаў, якімі апекаваўся праваабарончы цэнтр «Вясна», былі звязаныя з помнікамі савецкіх часоў, так званай манументальнай прапаганды. У 1998 годзе ў Стоўбцах моладзь правяла акцыю «Горад наш» — над адміністрацыйнымі будынкамі памянялі чырвона-зялёныя сцягі на нацыянальныя бел-чырвона-белыя, а на помніку Феліксу Дзяржынскаму фарбай напісалі слова «кат». Два ўдзельнікі акцыі былі рэпрэсаваныя. Аляксей Шыдлоўскі быў зняволены на паўтара года, а Вадзім Лабковіч, які быў тады няпоўнагадовы, — на паўгода. Яшчэ адна справа, звязаная з помнікам. У тым жа 1998 годзе восенню ў Віцебску знік са свайго пастамента бюст Аляксандра Суворава — рускага палкаводца і ка́та беларускага народа. Праўда, праз нейкі час знайшоўся ў адным з суседніх двароў. У яго скраданні абвінавачвалі вядомага віцебскага актывіста Уладзіміра Плешчанку, на шэсць месяцаў ён быў зняволены ў следчым ізалятары, але суд не змог даказаць яго віны. Мастацказнаўчая камісія прызнала бюст Аляксандра Суворава, выкананы з цэменту, не маючым мастацкай і гістарычнай каштоўнасці.

Жыццё ў Беларусі пры Лукашэнку да апошняга часу будавалася на звычках жыцця па-савецку, у тым ліку жыцця ў савецкай сімвалічнай прасторы. Савецкія назвы і манументы — сімвалы, якія злучаюць сучасную Беларусь з савецкім мінулым. «Леніны» працягваюць «упрыгожваць» плошчы беларускіх гарадоў, у тым ліку і плошчу Незалежнасці ў Мінску. Цікава, што ідэю пад назвай «манументальная прапаганда» прапанаваў сам Ленін у 1918 годзе, гэта была адна з чарговых задач Савецкай улады.

Сваёй ідэяй Ленін падзяліўся з Луначарскім. «Манументальнае мастацтва — мастацтва дарагое», — засумняваўся Луначарскі. А Ленін супакоіў: «Калі лас-

ка, не думайце, што я пры гэтым уяўляю сабе мармур, граніт і залатыя літары. Пакуль мы ўсё мусім рабіць сціпла. Хай гэта будуць якія-небудзь бетонныя пліты, а надпісы на іх па магчымасці больш выразныя. Пра вечнасць ці хаця б доўгатэрміновасць я пакуль не думаю».

Але пасля з'явіліся мармуровыя помнікі Леніну з залатымі літарамі, можа і не вечныя, але дакладна доўгатэрміновыя.

На мітынгу 7 лістапада 1990 года народ, які сабраўся на плошчы Незалежнасці (а тады яшчэ Леніна) у Мінску, вярнуў «правадыру» яго «дары» — фуфайку, якая была ў 30-я гады амаль што «нацыянальным адзеннем» савецкага чалавека, ды калючы дрот. Гранітны ідал спакойна прыняў «дары» і застаўся на сваім пастаменце ў цэнтры беларускай сталіцы.

Пасля 1917 года бальшавікі пераназвалі ўсё, што нагадвала пра ранейшы, дарэвалюцыйны, лад жыцця, — вуліцы, гарады. Толькі рэкі захавалі свае назвы. Гэта рабілася з мэтай пазбавіць аўтарытэту «старую» ўладу, а таксама сцвердзіць у свядомасці людзей новыя каштоўнасці і арыенціры.

У сучаснай Беларусі савецкая манументальная прапаганда працягвае сцвярджаць, што ўсё спакойна — арыенціры, каштоўнасці застаюцца ранейшымі і шлях у будучыню нам дагэтуль паказвае Ільіч, з нязменнай мятай кепкай у руцэ.

## Выбары, выбары...

Чаму праваабаронцы так занепакоены выбарамі ў Беларусі? Выбары — гэта наша палітычнае права, гарантаванае Канстытуцыяй. Тое, якім чынам фарміруецца і абіраецца ўлада, напісана ў Законе аб выбарах. Але ці на самай справе ў нашай дзяржаве намі кіруюць менавіта тыя, за каго людзі галасуюць, — гэта іншае

пытанне. І тут ужо ўзнікае прафесійны інтарэс да таго, наколькі выбары з'яўляюцца свабоднымі, справядлівымі, празрыстымі.

Выбары на побытавым узроўні часам успрымаюцца так: прыйшоў на ўчастак, наведаў буфет, паглядзеў плакаты, кінуў бюлетэнь — прагаласаваў...

«Так, а яшчэ там булкі прадаюць», — смяецца праваабаронца Таццяна Рэвяка. Але на самай справе выбары — гэта працэс. Тое, што выбаршчык бачыць у дзень галасавання, — гэта ўжо апошні штрых. А насамрэч выбары робяцца на працягу пэўнага часу, які называецца выбарчай кампаніяй і працягваецца тры месяцы. Але для палітыкаў, якія прэтэндуюць на ўладу, гэта яшчэ і час паміж выбарамі...

Беларусь — адна з нешматлікіх краін, дзе захоўваецца такі рудымент савецкай эпохі, як вылучэнне кандыдатаў ад працоўных калектываў. Бо працоўныя калектывы не з'яўляюцца суб'ектамі палітычнага жыцця, яны аб'ядноўваюцца зусім па іншых прынцыпах і не ставяць мэтай прысутнасць ва ўладзе.

Вядомае выслоўе: «Не важна, хто галасуе, важна, хто лічыць». Хто падлічвае галасы — той і пры ўладзе, той выйграе. Гэта значыць, што шмат залежыць ад таго, хто ўвайшоў у склад камісій. Калі яшчэ на этапе фарміравання акруговых камісій ніводзін з прэтэндэнтаў ад апазіцыйных палітычных партый і дэмакратычных грамадскіх аб'яднанняў туды не патрапляе, то гэта можа быць сігналам, што камісія будзе працаваць закрыта. Тое самае і на ўзроўні фарміравання ўчастковых камісій... Завяршае выбарчую кампанію падлік галасоў і падвядзенне вынікаў выбараў. Гэта найбольш закрыты этап. Назіральнікі не могуць бачыць, што там насамрэч у выбарчых бюлетэнях. І ніхто з выбаршчыкаў не ведае, чым рэальна скончыліся выбары. Магчыма, нехта недзе і праводзіць сапраўдны падлік галасоў, толькі для грамадскасці гэта таямніца.

А як у нашых умовах можна праводзіць назіранне за выбарамі? Ці гэта наогул магчыма? Пра гэта кажа Валянцін Стэфановіч — юрыст і праваабаронца, у 2001 годзе ён уваходзіў у ініцыятыву «Незалежнае назіранне», узначальваў юрыдычную службу гэтай ініцыятывы, удзельнічаў у назіранні за мясцовымі выбарамі ў 2003 годзе, браў удзел у місіях па назіранні ў розных краінах свету — у Косаве, Азербайджане, Сербіі, Кыргызстане, Казахстане, Украіне, Славакіі... Як працуюць назіральнікі ў Беларусі?

«“Назіральнік не мусіць перашкаджаць працы камісіі”, — адзначана ў выбарчым заканадаўстве, — вось і ўсё, — кажа Валянцін Стэфановіч. — А яны лічаць, што калі ты знаходзішся блізка, непасрэдна каля стала, калі ідзе падлік галасоў, то гэта — перашкода для працы камісіі. Напісана таксама, што назіральнік не можа знаходзіцца каля сталоў для выдачы бюлетэняў, але, калі ідзе падлік галасоў, бюлетэні ўжо не выдаюцца, а толькі падлічваюцца. У іншых краінах, дзе мы назіралі, можна бачыць працэс падліку галасоў. Да таго ж там больш дэмакратычная працэдура падліку — ён праводзіцца адным чалавекам уголас — кожны бюлетэнь пры гэтым дэманструецца. Такім чынам, і назіральнік бачыць тое, што ў бюлетэні адлюстравана. У нас не прапісана, як праводзіцца падлік галасоў. У нас у Выбарчым кодэксе сказана толькі, што падлік галасоў адбываецца асобна: спачатку ўскрываецца скрыня датэрміновага галасавання, затым скрыня па месцы жыхарства выбаршчыка, а пасля стацыянарная скрыня з участка. І больш нічога не сказана, таму ў нас усё адбываецца так: старшыня камісіі дае стос бюлетэняў кожнаму сябру камісіі, кожны падлічвае свой стос, піша на паперцы тыя лічбы, якія ў яго атрымаліся пры падліку... Аддае старшыні камісіі, той моўчкі заносіць гэтыя лічбы ў пратакол, пратакол вывешваецца. Усё адбываецца ў цішыні. Не агучваецца!

Цішком! І пры гэтым кожны сябра камісіі не ведае агульнай колькасці. Гэта самая распаўсюджаная практыка. Што яны ўносяць у пратакол, якія лічбы — ніхто не праверыць. А камісіі фарміруюцца па прынцыпу падкантрольнасці ўладам, як правіла, з сяброў аднаго працоўнага калектыву, а старшыня — іх начальнік. Хто ў такіх умовах праверыць? Хто скажа: “Я не веру”?»

### Страх

Каб бараніць свае і не толькі свае правы, найперш трэба пераадолець страх. Але пры гэтым праваабаронца мусіць быць ураўнаважаным і спакойным (па магчымасці), бо інакш — не атрымаецца бараніць правы.

«Няма нічога страшнейшага, апрача самога страху», — сцвярджаў Луцый Аней Сенека — рымскі філосаф-стоік.

Страх — пачуццё, звязанае з імкненнем чалавека пазбегнуць непрыемнай сітуацыі, ён мае адценні — ад самага слабога страху да жаху. Нават у старажытнагрэчаскай міфалогіі адрознівалі двух багоў, адзін Фобас — бог страху, другі Дэймас — бог жаху. А яшчэ быў бог лесу Пан, які мог наганяць на людзей невытлумачальны жах, калі чалавек уцякаў, не разбіраючы дарогі, — адсюль слова «паніка».

Страх вельмі часта выкарыстоўваецца ў таталітарнай дзяржаве. Бо для дыктатараў вельмі важна прымусіць людзей, каб яны нешта рабілі (працавалі, былі паслухмянымі, любілі прэзідэнта), а з другога боку, каб некаторых рэчаў не рабілі (мітынгаў, рэвалюцый, «ідэалагічных дыверсій»).

На пэўным прамежку часу страх умацоўвае ўладу — напалоханымі людзьмі лягчэй кіраваць, бо страх паралізуе мараль, паралізуе ініцыятыву — лепшыя праявы чалавечай асобы. Улада, якая абапіраецца на страх,

няўстойлівая і нестабільная, раней ці пазней яна загіне, бо страх — пачуццё непрыемнае. Людзі імкнуцца пазбавіцца не толькі ад яго, але і ад крыніцаў, прычын і носьбітаў страху (у дадзеным выпадку — таталітарнай улады, прэзідэнта, спецслужбаў). Раней ці пазней страх робіцца невыносным. Там, дзе заканчваецца страх і цярпенне, там пачынаюцца рэвалюцыі.

*Травень 2012 года*




**1997.**

Дзень Волі, прымеркаваны да 79-й гадавіны абвяшчэння БНР, адзначаўся 23 сакавіка мірным шэсцем па цэнтральным праспекце сталіцы (тады пр-т Францыска Скарыны). Апазіцыйная акцыя была брутальна разагнана сілавікамі, адбыліся сутычкі з міліцыяй, у выніку чаго ўзбуджана крымінальная справа за хуліганства. Пяцёра яе ўдзельнікаў былі асуджаныя.

*Фота Георгія Ліхтаровіча.*

*Валянцін Стэфановіч*

# Жыві сёння

*Маім дарагім «вясноўцам» прысвячаецца...*

*Гэты тэкст быў напісаны ў вельмі цяжкі перыяд майго жыцця — у верасні 2011 года. Перыяд цяжкі для ўсіх нас, час выпрабаванняў. Тады для мяне хіба ўпершыню так сур'ёзна і выразна паўстаў выбар — з'ехаць з краіны ці вярнуцца. Вярнуцца назад у краіну, у якой табе ніхто нічога не гарантуе...*

*У чужых гарадах, сярод чужых людзей я задаваў сабе цяжкія пытанні: як так сталася, як я дайшоў да такога жыцця і ці магло быць інакш?..*

*Гэты тэкст адлюстроўвае мой душэўны стан у тыя цяжкія дні, аднак мне падаецца, што шмат з таго, што тут напісана, застаецца актуальным і зараз. Прынамсі, мой погляд на сутнасць праваабароны як такой.*

Апошнім часам я ўсё часцей задаю сабе адно і тое ж пытанне: ці гэта тое, чаго ты хацеў дамагчыся ў гэтым жыцці, Валянцін Стэфановіч, ці ты ўвогуле хацеў чаго-небудзь у ім дамагчыся? Ці гэта тое, пра што марыў той 16-гадовы рамантычны аматар Рэмарка і Джона Ленана?

Падчас сваёй вымушанай двухмесячнай эміграцыі я меў досыць часу на роздумы пра сваё жыццё і дзіўныя

метамарфозы лёсу. Ходзячы па вечаровых вуліцах чужых гарадоў, сярод чужых людзей, я задаваў сабе гэтыя цяжкія пытанні. Гэй, хто адкажа мне: кім я ўрэшце стаў? Нуль, нікчэмны лузер, які вядзе такі лад жыцця, які штодня пагражае магчымасцю правесці пару гадоў у папраўчай калоніі ці ўстанове адкрытага тыпу? І самае галоўнае: а ці магчыма было пайсці іншым, не такім шляхам, жыць не такім жыццём, быць іншым альбо проста быць як усе? Ці ўсё прадвызначана загадзя і мы не ў сілах змяніць ходу жыцця? Хто рэжысёр у гэтым фільме?

У дзяцінстве я марыў стаць ляснічым. Сур’ёзна. Была ў мяне такая мара: жыць у лесе ў невялікай хатцы, удалечыні ад тлумнага горада. Не ведаю, чым былі выкліканыя такія мары. Можа, тым, што я часта заставаўся адзін сярод чужых мне людзей? У старэйшых класах школы я проста не ведаў, кім хачу быць і чаго хачу ў гэтым жыцці. Мне мроіліся далёкія падарожжы ў дзівосныя краіны. Для мяне зусім не важна было, чым займацца і дзе працаваць, хацелася нечага нязведанага, ад чаго б захоплівала дух.

Мне ўвесь час здавалася, ды і зараз здаецца, што я ніколі нікуды і ні да чаго не імкнуўся, плынь жыцця сама несла мяне ў нязведаныя далячыні. А можа, мне толькі так падаецца, можа, незаўважна для сябе я сам абіраў той адзіны шлях, адзіную сцяжыну сярод мільёнаў магчымых варыянтаў? Прычым абіраў тую, якая проста падабалася мне, нягледзячы на папераджальныя знакі аб магчымых небяспеках наперадзе. Так мне падабалася і так хацелася. Памятаю, як у 1995-м, у той травеньскі дзень, я ляжаў у сваім пустым пакоі, адзін, і горка плакаў. Плакаў ад бяссілля, роспачы і крыўды. Публічнае ганьбаванне яшчэ дзяржаўнага на той момант бел-чырвона-белага сцяга на даху Дома ўрада было для мяне разбурэннем асабістых ілюзіяў, надзеяў на новае жыццё ў новай краіне. Мне і такім, як я, тады наглядна паказалі, што месца ў гэтай краіне для нас няма і не будзе, прынамсі бліжэйшыя, як па-

тым атрымалася, мінімум дваццаць гадоў. Тое, з чым мы так шчасліва нібыта развіталіся ў 1991-м, вярталася назад з імгненнай хуткасцю пад захапляльныя «адаб-рамс» большасці маіх савецкіх суграмадзянаў.

У красавіку 1996-га я стаяў, трымаючыся за рукі з такімі ж, як я, «бэнээфаўцамі» і разгублена глядзеў у вочы свайму аднагодку ў міліцэйскай форме, што стаяў насупраць мяне. Такі ж самы 23-гадовы хлопец, мой зямляк, на цэнтральным праспекце роднага горада... Усё было як у кіно: дэманстранты, міліцыя, газ, дручкі. Няўжо гэта ў нас? Няўжо яны будуць нас біць? За што? Вакол былі бойкі, нехта кульнуў міліцэйскую машыну. А мы так і стаялі, застыўшы насупраць адзін аднаго. Здавалася, прайшла вечнасць, покуль мой бацька не адпіхнуў мяне ад невядома адкуль ляцеўшага з узнятым над галавой дручком міліцыянта. За секунду я працверазеў. Потым была восень 1996-га, вясна 1997-га, першы арышт на пяць сутак, потым «Вясна», потым... Я больш не гляджу ў вочы міліцыянтам.

У выніку, атрымаўшы свой чырвоны дыплом правазнаўцы ў 1998-м, я не ведаў, кім буду працаваць, але дакладна ведаў, кім не буду. Я цвёрда вырашыў не мець з гэтай уладай анічога агульнага. Эмацыйны выбар? Мабыць, так. Можна ж было неяк і па іншай сцяжынцы пайсці. Але атрымалася вось так, як атрымалася. Лёс, як кажуць, не абмінеш.

У такім разе, наракаць на лёс не выпадае? Ты сам ягоны гаспадар, ты сам яго абраў. Так атрымліваецца?

А што да ўлады, дык не люблю я любіць уладу, любую. Любіць уладу — занятак неінтэлігентны, непрыгожы, у гэтым ёсць нейкая няшчырасць, блюзнерства і пошласць. Уладу можна прымаць, нават, напэўна, паважаць (пакуль што зусім незнаёмае пачуццё), але не любіць. Уладу трэба кантраляваць і мяняць. Прычым як мага часцей. Не народ для ўрада, а ўрад для народа. Лепей і не скажаш. Улада, кіраванне, падпарадкаванне, гвалт...

Я не люблю кан'юнктуры. Прычым не важна, ад каго такая кан'юнктура зыходзіць — ад улады, апазіцыі ці чарговых прэтэндэнтаў на нацыянальных збаўцаў. Вельмі часта так здараецца, што праўда не патрэбная ні адным, ні другім, ні трэцім. Жыццё значна больш разнастайнае ў сваіх праявах, чым схемы ў галовах некаторых маралістаў-палітыканаў ці гераічныя эпасы, якія насамрэч часта бываюць зусім не гераічнымі. Сапраўдны праваабаронца мусіць быць бескампрамісным і прынцыповым. Нават калі гэта не падабаецца істэблішменту, большасці грамадства ці апазіцыі. Міфатворчасць — гэта не для нас. Памятаю, як мяне ўразілі нашыя калегі з Кыргызстана. Сціплыя жанчыны, моцныя духам і светлыя розумам. Пасля чарговай рэвалюцыі ў Кыргызстане, калі быў зрынуты прэзідэнт Бакіеў, у сваіх справаздачах па выніках незалежнага расследавання гэтых падзеяў яны адзначылі, што дэманстрацыя каля прэзідэнцкага палаца была не мірнай, а ўзброенай, што шмат загінулых «герояў Плошчы» загінулі не каля гэтага палаца, а пры банальных рабаваннях крам у цэнтры Бішкека. І ўсё гэта на фоне бравурных маршаў і прамоваў аб неўміручым подзвігу і гераізме. Можаце сабе ўявіць, якіх толькі ярлыкоў адразу ні панавешалі на гэтых жанчын. Трэба адзначыць, што яны былі ярымі крытыкамі рэжыму прэзідэнта Бакіева. Для мяне гэтая гісторыя стала сімвалам бескампраміснасці і праўды. Гэта тое, да чаго трэба імкнуцца кожнаму праваабаронцу, — да праўды, якая б яна горкая і непажаданая ні была. Пазней, калі падчас этнічнага канфлікту мае знаёмыя праваабаронцы пачалі бараніць ад пагромаў узбекскую нацыянальную меншасць, кыргызскія нацыяналісты пагражалі забіць іх, спаліць іх жытло, а ў мясцовых газетах пачалося сапраўднае шальмаванне гэтых «антыпатрыятычных» жанчын-праваабаронцаў. Вельмі часта тое, што мы кажам, тое, за што мы выступаем, не падзяляецца большасцю грамадства. Нас не любяць, нас лічаць у найлепшым выпадку дзівакамі, а ў найгор-

шым — агентамі сусветнага лібералізму-садамізму, пятай калонай, замежнымі агентамі (далей кожны можа працягнуць сам). Некаторым цяжка зразумець, чаму дзяржава не павінна забіваць забойцаў, а ЛГБТ-актывісты маюць такое ж права на мірныя сходы, што і актывісты «Маладога фронту». Правы чалавека не церпяць кампрамісаў і прыярытэтнасці. Усе правы чалавека для ўсіх. Інакш гэта ўжо палітыка, а не праваабарона.

Так што галоўны прыз глядацкіх антыпатый — гэта па мне.

І ўсё ж пры ўсіх метамарфозах, якія адбыліся са мной за гэтыя гады, я ўдзячны лёсу. Удзячны за тое, што звёў мяне з цікавымі і цудоўнымі людзьмі, за тое, што, не зважаючы на навакольных, я казаў і кажу тое, што думаю, раблю тое, што падабаецца. Пасля 15 гадоў такога аўтаномнага існавання мяне цяжка прыручыць.

Я больш нікому не дазволю вадзіць сябе строем — ні лукашыстам, ні камуністам, ні хрысціянскім кансерватарам. Нікому!

За ўсе гэтыя гады я зразумеў, што самае галоўнае ў жыцці — свабода! Яе пах, як водар жанчын, якіх ты калісьці кахаў, застаецца ў памяці на ўсё жыццё. Гэта тое пачуццё, што выводзіць цябе на вуліцу, і там, сярод тысяч людзей, ты адчуваеш сябе свабодным і годным. Як я сумую па гэтых адчуваннях! Я амаль забыўся, як яны кружаць галаву.

Быць незалежным ад Сістэмы і быць гаспадаром свайго жыцця — вось у чым сапраўднае шчасце!

Мы даўно сталі рыбамі, у нас выраслі жабры. Нас цяжка прыдушыць і знішчыць. Нам няма куды хавацца, шкадаваць няма аб чым. Мы выраслі на гэтай вайне, мы вядзём бой, у якім няма канца і не бывае перамогі. Мы старыя жаўнеры «забытага палка» Дон-Кіхота.

Не думай пра заўтра — жыві сёння. Гэта тваё жыццё, твой лёс. Ты сам яго абраў.

*Верасень 2011 года, Вільня–Парыж*

*Ліпень 2012 года, Мінск*




**1998.**

Праваабарончы пікет супраць палітычных рэпрэсій з удзелам прадстаўнікоў шведскай праваабарончай арганізацыі «За мір і арбітраж» («Svenska Freds») каля станцыі метро «Усход». У 1998 годзе ў Беларусі налічвалася 7 палітычных зняволеных. Расцяжку трымаюць Валянцін Стэфановіч і Паліна Сцепаненка, справа стаяць Алесь Бяляцкі (перадапошні) са шведскімі праваабаронцамі.

3 лістапада.

*Фота Улф Ісаксан (Швецыя).*

*Таццяна Ждановіч (Снітко)*

## Мая «Вясна»

З «Вясной» я пазнаёмілася зусім не ў адпаведную пару года — на зямлі сімвалічна ляжаў снег.

Сама той дзень я добра памятаю, ён быў прасякнуты адначасна марозам і вільгаццю. Пад даволі пранізлівым ветрам і такімі ж поглядамі «людзей у цывільным» на плошчы Якуба Коласа мужна мёрз пікет. Чаго патрабавалі пікетоўшчыкі, шчыра сказаць, не памятаю. Свабоду тагачасным палітвязням?..

Пікетоўшчыкі — маладафронтаўцы, з якімі было прыемна пагутарыць не толькі для газетнага каментара, але і проста так, пра надвор'е. Ад слоў Паўла Севярынца і Яўгена Скочкі, здаецца, нават станавілася цяплей на вуліцы...

Міліцыі ў форме было няшмат, мерзлі на пікеце мы даволі весела. Падыходзілі людзі, чыталі плакаты... Сярод іх аказаўся Алесь Бяляцкі.

Мы пагутарылі. Гутарка скончылася прапановай аб супрацоўніцтве з новым выданнем — бюлетэнем «Права на волю». Так я апынулася ў «Вясне».

Але спачатку там, на плошчы, запытала:

— А што я буду ў тым выданні рабіць?

— Тое, што рабіла і раней, — адказаў Алесь.

«Ясна, — падумала я. — Значыць, пісаць пра суды і цягаць перадачкі ў турмы».

Гэта быў пачатак 1998 года. «Вясна» існавала ўжо амаль два гады. І прыкладна столькі «існавалі» мы — я, мае сябры, іншыя людзі, знаёмыя і не вельмі, але жадаючыя дапамагчы тым, хто пацярпеў, пратэстуючы супраць рэжыму.

Такім чынам, павітаўшыся на плошчы Якуба Коласа з Алесем, я пазнаёмілася з групай іншых такіх жа людзей. Як і мы, гэта група дапамагала палітзняволеным, тым, хто церпіць ад рэпрэсій. Гэта мяне ўзрадавала, як магло б узрадаваць кожнага чалавека, які нечакана знайшоў аднадумцаў.

Уявіце сабе кампанію маладых людзей, якія працуюць хто ў дзяржаўных СМІ, хто ў недзяржаўных, хто ў адвакатуры ці нават міліцыі, а хто ўвогуле лічыцца экстрэмістам і вось-вось будзе выгнаны з працы і вучобы... У вольны ад працы час, калі Дом друку зачыняецца, на атрыманыя ў гэтай «абіцелі зла» грошы мы скідваемся і купляем усё для перадач. Потым даводзіцца цягнуць іх саматуж па турмах. Калі ёсць неабходнасць выступіць у ролі сваяка якога-небудзь палітвязня (а бывае, неабходнасці няма, але ахоўнікі падазрона пытаюцца: «А вы яму хто?»), наша кампанія тут жа выстаўляе наперад мяне, і я прыкідваюся чыёй-небудзь сястрой, кузінай, жонкай ці каханкай (роля апошняй у міліцыянтаў чамусьці асабліва выклікала павагу да зняволенага). Часам я перазвоньвала сяброўцы: «Ты кім назвалася? І я сястрой... У яго сёстры хоць ёсць? Ну ладна, не кісні: мы стрыечныя!..»

Аднак той час, калі мы самі былі бедныя, бяздом-

ныя, галодныя і без пяці хвілін беспрацоўныя, не згадваецца зараз як нейкі трагічны. Магчыма, менавіта з-за апісаных вышэй кур'ёзаў са «сваяцтвам» ды яшчэ знаёмстваў з цікавымі людзьмі. Напрыклад, у магілёўскую калонію ў 1997 годзе мне дапамагаў везці перадачы злодзей-рэцыдывіст. Насуперак апасцы, злодзей нічога не скраў, а наадварот, насыпаў у пакет з перадачай грошай...

Вось гэта, падаецца, і ёсць самае цікавае ў гісторыі праваабарончага руху Беларусі — тое, што пасля валу рэпрэсій 1996 года абсалютна незалежна адна ад адной узнікалі групы людзей, якія часам амаль не былі знаёмыя адзін з адным, але імкнуліся да салідарнасці з пацярпелымі ад рэпрэсій. Такіх людзей было даволі багата ў Мінску. Як выявілася пазней, іх хапала і па ўсёй Беларусі. Проста да пары да часу яны адзін пра аднаго не чулі і не ведалі.

У кожнага з такіх людзей была свая гісторыя. Многія працавалі раней на дзяржаўных пасадах, іншыя працягвалі на іх працаваць, але рабілі свой унёсак. Памятаю, як адна жанчына, ведаючы, што заўтра я іду ў СІЗА з перадачай ад сваіх сяброў, аддала палову свайго месячнага заробку, каб мы набылі для вязняў «Валадаркі» нешта і ад яе спачуваючай сям'і... Памятаю, як ахоўнікі ізалятара, апусціўшы вочы, самі клікалі і прапускалі нас без чаргі... Памятаю, як вязні пайшлі па этапу і адзін з начальнікаў знайшоў мой хатні тэлефон, каб паведаміць, што наш сябра атрымаў ліст ад маці не на той адрас. Я паехала, забрала ліст і пераслала яго ў калонію. Чалавек у пагонах толькі хмурна ківаў галавой.

— Дзякуй вам, вы маглі б гэтага і не рабіць... — разгублена сказала я.

— Няма за што. Трымайцеся, — коратка адказаў ён, развярнуўся і сышоў.

Гэта быў Алег Алкаеў.

І гэты выпадак быў не адзіны, як і не адзіны чалавек «адтуль».

Так здарылася, што людзі ў пагонах час ад часу рабілі нейкі выбар і таемна дапамагалі нам. Потым некаторыя з іх памерлі, іншыя пакінулі службу, частка пакінула Беларусь. Многае змянілася, хоць у мяне ёсць падазрэнне — сёе-тое ёсць ранейшым...

У адрозненне ад мноства неабыякавых адзіночак-аматараў кола Алеся Бяляцкага было больш арганізаваным. Таму яно праіснавала ў канцы 90-х даўжэй, каб у хуткім часе перайсці ў новую форму. Самае ж галоўнае было ў тым, што Бяляцкі і ягоныя сябры падышлі да справы сістэмна. Яны вывелі справу дапамогі рэпрэсаваным з узроўню аматарскага на сапраўды прафесійны.

Нават тое, каго і як Алесь запрашаў супрацоўнічаць, ужо казала аб яго назіральнасці і абазнанасці, хто ёсць кім і хто што робіць.

Паступова дзейнасць «Вясны» набывала вядомасць, няхай сабе пакуль (на той час) у даволі вузкіх колах. Яе не ведаў увесь народ (думаю, увесь народ і цяпер не ведае), але сябры апазіцыйных партый, незалежныя журналісты, людзі, якія спрабавалі выказваць нязгоду, дакладна ведалі ўсё.

Паколькі дапамагчы людзям хочацца нашмат часцей, чым на тое маецца рэальная магчымасць, доўгі час роля «Вясны» для мяне вызначалася проста: яна дапамагала нам дапамагаць. Сапраўды, дзякуючы таму, што «вясноўцы» заўсёды маглі падтрымаць у табе якоенебудзь імкненне з разраду станоўчых і нават, магчыма, высакародных, разам у нас (і не толькі ў нас) часам

атрымлівалася тое, што немагчыма было б зрабіць у адзіночку.

Напрыклад, я ніколі не забудуся пра выпадак з суддзёй, які не захацеў выносіць замоўленыя ўладамі прысуды. Тады пачаліся рэпрэсіі супраць яго самога. Ён быў з Бабруйска, скончыў юрфак ва Украіне, вярнуўся працаваць дамоў... Бабруйскія ўлады знайшлі нейкую зачэпку і ўхапіліся, пагражаючь завесці крымінальную справу...

Пра ўсё гэта я слухала на сваёй кухні (кухня на мінскім бульвары Шаўчэнкі, дзе я доўгі час здымала кватэру, у другой палове 90-х была не жытлом, а нейкім штабам, па маіх цяперашніх уяўленнях. Ніводная кухня іншых маіх здымных кватэр такой ні перад тым, ні пасля не была!). Перада мной каструля, я, у поўнай адпаведнасці з павевамі года 2010-га, вару боршч, побач стаіць мой сябра, які распавядае пра апальнага суддзю...

— Дык дзе ён зараз, твой суддзя? — пытаюся я, і мне так не хочацца адрывацца ад свайго баршчу.

— Зараз — сядзіць у маёй машыне, — кажа сябра і глядзіць так, што праз секунду я выключаю боршч і бяру ключы.

— Ездзем!

— Правільна. Куды?

— Вось выйдзем на вуліцу — скажу.

Мы абодва ведаем: хата ўся ў «жучках», а на абедзенным стале ў маю адсутнасць «невядомыя ў цывільным» часам нават забываюць акуляры...

Натуральна, мы вязём суддзю з Бабруйска на трэці паверх дома па вуліцы Дарашэвіча. Гэта офіс «Вясны». Пасля гутаркі «Вясна» склікае журналістаў на прэс-канферэнцыю. Юрый Сушкоў распавядае сваю гісторыю. Праз некаторы час ён пакідае Беларусь... А я вяртаюся дадому і даварваю свой боршч: як казалі некалі

замежныя журналісты ў Грозным, «вайна вайной, а абед па раскладзе». І то праўда, хоць, напэўна, гэта ўжо заўтрашні абед, — гадзіна ночы...

Бывала і наадварот — праваабаронцы тэлефанавалі мне самі і прасілі выслухаць чалавека з неардынарнай гісторыяй. Адным з такіх людзей стаў навуковец-біёлаг Алесь Вечар, які адседзеў у турме некалькі гадоў. Фактычна, ён адседзеў толькі за тое, што не пагадзіўся «здаць» іншага, дакладней — дапамагчы фабрыкаваць крымінальную справу супраць аднаго з сыноў былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра. Алесю, як цяпер вязням Плошчы-2010 і Раманчуку, настойліва прапаноўвалі зачытаць на камеру фальшывыя сведчанні, нібыта ягоны сябра, сын апальнага палітыка, краў. Алесь не зачытаў, бо сябра не краў. Раманчуком ён не стаў, хоць цярпеў збіццё. Яго пасадзілі на пяць гадоў, ён адседзеў большую частку. Потым выйшаў і расказаў усё нам.

Гісторыя прымусу да ілжэсведчанняў абрастала прыкрымі і ганебнымі фактамі «наездаў» на ягоную жонку. Брудныя метады, якія выкарыстоўваюцца напоўніцу зараз, пасля падзей 19 снежня...

Пра Алеся напісалі журналісты і, натуральна, мы самі. І гэты выпадак таксама скончыўся ад'ездам нашага героя за мяжу — потым ён пісаў мне лісты з Нью-Ёрка. На лісты я адказвала мала, бо тады амаль не было інтэрнэту. Так Алесь згубіўся. Ведаю толькі, што неўзабаве да яго перабраліся жонка Вера з сынам — прызнацца, пасля гісторыі з імі гэты факт мяне дасюль радуе.

Але што ж гэта атрымліваецца? Усе, каму я дапамагала, эмігравалі? Ці мне проста згадваюцца менаві-

та такія выпадкі? Я пытаюся сябе — чаму, і знаходжу толькі адзін адказ: відаць, сітуацыі вакол гэтых людзей былі найбольш вострымі і небяспечнымі. Менавіта іх пытанні стаялі так, што патрабавалі тэрміновага вырашэння. Таму што мноства іншых герояў маіх матэрыялаў і адрасатаў дапамогі праваабаронцаў «Вясны» ўсё-ткі засталіся тут, на бацькаўшчыне.

Я ніколі не парывала з «Вясной», нават калі сышла з «Права на волю». Іх нумар тэлефона быў першым, які я набірала, калі з кімсьці здаралася бяда альбо калі бракавала інфармацыі. Гэтаксама я набірала той жа нумар, каб нешта паведаміць, хоць нават не маючы такога абавязку. Імкнучыся ўнікнуць памылак у артыкулах, па тлумачэнні розных нюансаў заканадаўства я звярталася да юрыстаў «Вясны» (раней, дарэчы, мне часам з радасцю дапамагаў, сярод іншых, і былы кіраўнік МУС Юрый Захаранка, светлая памяць гэтаму гераічнаму і такому геніяльна простаму чалавеку). У «Вясну» я шмат гадоў проста заходзіла выпіць кавы з яе супрацоўнікамі, бо тут заўжды можна было падзяліцца творчымі планамі і асабістымі праблемамі, папрасіць парады, выказаць свае думкі і выслухаць іншых. Працуючы то ўласкарам, то спецкарам, то проста будучы вольным журналістам, я нават не ўяўляла сваёй дзейнасці без праваабарончай тэматыкі, бо навакольнае жыццё проста дыхала парушэннямі самых розных правоў самых розных людзей, як чэрвеньская ноч дыхае спякотай нагрэтага асфальту.

Ад гэтага «гарачага асфальту» я неаднойчы стамлялася. І зараз, шчыра кажучы, таксама раз-пораз лаўлю сябе на думцы, што палова жыцця прайшла ў мяне ў нядобрых месцах: пастарунках, судах, СІЗА, ІЧУ, турмах, калоніях рознага рэжыму, на вулічных

сутыкненнях, пры складаных перамовах альбо іх няўдалых спробах, у аўтазаку, у камеры, у зале суда, на ганку Акрэсціна і зноў на ганках судоў...

Прайшла — калі віртуальна, калі рэальна, а часам — так ужо рэальна, што аж не верыцца...

Я кідала к чорту ўсё: і журналістыку, і «Вясну», і суды з пастарункамі, і ўвогуле ўсю Рэспубліку Беларусь. Кідала, адыходзіла і... вярталася.

Выявілася, што без усяго гэтага я доўга працягнуць не магу. Усё гэта даганяе мяне саму.

Нельга спаць спакойна, калі нехта стаіць тварам да белай сцяны Акрэсціна. Нельга забыцца, што кагосьці, як цябе, зноўку абяцаюць забіць, згвалціць, расстраляць. Мяне, напрыклад, разоў дзесяць абяцалі: адзін раз — бандыты, адзін — ісламскія тэрарысты, астатнія — беларуская міліцыя.

Хто з дзевяці мільёнаў маіх суайчыннікаў сёння ў большай бяспецы? Нямногія. І то гэта для іх — вельмі адносна.

Я мару пра часы, калі «Вясна» стане гісторыяй. Гэта будзе старонка пра мужнасць, сціпласць і гераізм. Старонка сціплай гераічнай мужнасці.

Алесь Бяляцкі будзе пісаць гістарычныя кнігі і літаратурную крытыку. Сяржук Сыс — цудоўныя вершы. Паліна Сцепаненка напіша два тамы апавяданняў. Таня Рэвяка будзе весці лекцыі аб правах чалавека ў БДУ. Валянцін Стэфановіч стане якім-небудзь міністрам юстыцыі, а некаторыя адвакаты, кшталту Паўла Сапелкі, магчыма, генпракурорамі... А што, чаму не? Правы чалавека парушацца не будуць... А можа быць, зрэшты, і будуць, але не так нахабна і брутальна, і змагацца з гэтым будзе нашмат лягчэй.

І тады праваабаронцы змогуць займацца творчасцю і тым, што яны любяць.

А я нарэшце, наадварот, кіну тое, што люблю, — журналістыку і пачну ўвасабляць у жыццё іншыя, таксама любімыя, ідэі, на якія не было часу...

*Сакавік 2012 года*



**1999.**

На наступны дзень пасля трагедыі на Нямізе, дзе ў падземным пераходзе станцыі метро загінулі 53 чалавекі, прайшла жалобная акцыя. Праз год ПЦ «Вясна» на падставе сведчанняў сваякоў і блізкіх ахвяраў той трагедыі падрыхтаваў і выдаў дакументальную кнігу «Трагедыя на Нямізе».

31 траўня.

*Фота photo.bymedia.net.*

*Алег Жлутка*

# Каб людзі былі не праціўнікамі

Азіраючыся назад, узгадваеш самыя розныя рэчы, адна асацыяцыя ідзе за другой, і, калі не засяроджвацца на адным прадмеце, думкі пачынаюць бязладна блукаць самі па сабе. Што мы рабілі ўсе гэтыя гады? Кім мы былі, з кім нас зводзіў лёс і як мы ўрэшце сталі менавіта тымі, кім мы сталі? Прызнаюся, я рэдка задаю сабе такія пытанні, бо жыццё ўвесь час трансфармуецца: цяперашняе змяняе погляды на будучыню (якой яшчэ не існуе), але і само неўзабаве ператвараецца ў свежае мінулае (якога ўжо не існуе), зацярушваючы пылам забыцця больш старую мінуўшчыну, часам да такой ступені, што стае немагчыма разгледзець апошнюю без дапамогі выпадковых сведчанняў — папер, фота, відэа, сяброўскіх успамінаў.

Ёсць і яшчэ адна рэч: калі мяняецца сам чалавек, разам з ім мяняецца яго памяць. Мы пачынаем бачыць тыя ці іншыя падзеі ў новым святле, надаваць ім іншае значэнне і вагу. Памяць наша нелінейная, і мала хто здольны ўзнавіць поўную храналогію падзей, расставіўшы па палічках усё, што адбывалася з ім, іншымі

людзьмі, грамадствам яго краіны і з цэлым светам. Напрыклад, якой была б нашая рэчаіснасць, калі б не было інтэрнэту і мабільнікаў? Або тады, калі б на нашым шляху сустрэліся іншыя людзі?

Таму я магу напісаць аб тым, што не патрабуе строгіх храналагічных рамак і гістарычнай аб'ектыўнасці: як я зараз думаю, як гляджу на рэчы і як паўплывала на гэта «Вясна». За ўвесь гэты час мне даводзілася сутыкацца з мноствам самых розных людзей, у кожнага з якіх былі свае перакананні, надзеі і страхі — цэлы ўнутраны сусвет. Гэтыя сустрэчы часта былі непрадказальнымі, не заўжды прыемнымі. Але яны заўжды былі так ці інакш карыснымі, дапамагаючы пераадольваць уласныя абмежаванні ды ўзбагачаць свае веды аб невядомых раней рэчах.

Пры стасунках з іншымі часта паўстае пытанне: дзе канчаюцца правы аднаго чалавека і пачынаюцца правы другога? Чаму адзін чалавек жыве шчасліва, а іншы — не? Чаму адзін робіць тое, што яму падабаецца, а іншы вымушаны працаваць проста дзеля ежы? Як развівацца самому і ў той жа час дапамагчы развівацца людзям вакол цябе? Што зробіць іх лепшымі або шчаслівейшымі? Ці існуюць наогул нейкія адзіныя прынцыпы, якія прыдатныя для стасункаў з любым чалавекам?

Мушу прызнацца, у мяне дагэтуль няма канчатковых адказаў на гэтыя пытанні, ёсць толькі прыкладныя ўяўленні. Спробай даць такія адказы ёсць правы чалавека. У той жа час ёсць традыцыйныя правілы паводзін у тым ці іншым грамадстве. Наколькі правы чалавека павінны адпавядаць мясцовым завядзёнкам або ісці з імі ўразрэз? Дзе ўзяць неабходны крытэр?

На першы погляд, пытанне падаецца невырашальным — такога крытэру няма ў акаляючай нас рэчаіснасці. Але пасля ўважлівага пошуку і назірання аказваецца, што ён усё ж ёсць — унутры нас саміх. Галоўны

прынцып паняцця правоў чалавека — у каштоўнасці кожнага асобнага чалавека. Прычым гэтая каштоўнасць не залежыць ад талентаў, уменняў, прыгажосці, маральнасці, полу, узросту, нацыянальнасці, асабістых палітычных, эстэтычных і рэлігійных поглядаў: чалавек каштоўны сам па сабе, такі, які ён ёсць менавіта тут і цяпер.

Калі ўсвядоміць, што ніводзін чалавек не з'яўляецца завершанай і застылай скульптурай, а пастаянна змяняецца, стае зразумелым: галоўнае дабро, якое кожны з нас можа зрабіць, — праяўляць свае здольнасці самім і дапамагаць у гэтым іншым. Гэтая простая думка прыкладальная да многіх абсягаў чалавечай дзейнасці: мы заўжды можам рабіць сваю справу лепш, можам вучыць і вучыцца — на сваіх і чужых памылках, радасцях і расчараваннях.

Калі я азіраюся назад, то бачу, што нашая праца заўсёды была скіраваная на тое, каб кожны меў найлепшыя магчымасці для самавыяўлення, на тое, каб людзі былі не праціўнікамі, а суразмоўцамі, не жылі ў страху і адчужэнні, не стараліся як найглыбей схаваць свае недахопы ды перабольшыць вартасці, а наадварот — спакойна глядзелі адно аднаму ў вочы, памятаючы, што кожны з нас каштоўны ўжо проста тым, што ён — чалавек.

Менавіта таму адной з самых нашых балючых праблем было і застаецца пакаранне смерцю. Я наўмысна пішу «пакаранне смерцю», а не «смяротнае пакаранне», дзеля таго, каб прагучала само слова «смерць». Асабіста для мяне выкарыстанне такога пакарання ў якой-кольвек краіне сведчыць аб адным: свядомасць грамадства знаходзіцца на нізкім узроўні, людзі яшчэ не адрозніваюць пакаранне ад помсты. Для мяне няма ніякай розніцы, у якой краіне прыводзіцца ў выкананне смяротны прысуд: так ці інакш гэта заўжды крайнасць, якая цягне за сабой вялізную нізку наступстваў.

І апраўдаць такую крайнасць можна хіба што там, дзе не застаецца іншага выхаду для ўсяго грамадства, напрыклад у выпадку вайны або дзеля прадухілення тэракта.

Учыніўшы адно забойства ў звычайных абставінах, выканаўцы почасту працягваюць у тым жа духу і далей — дзеля таго, каб схаваць або апраўдаць першае. Даводзіцца казаць, што ты не памыліўся, што маеш рацыю, і падманваць іншых, але перш за ўсё — самога сябе. Так марнуюцца два жыцці — жыццё забітага і жыццё самога забойцы. Забіваючы, мы надзвычайна звужаем свае ўласныя магчымасці. Само ажыццяўленне забойства ад імя дзяржавы сведчыць, што мы не цэнім чалавека як чалавека, якім бы ён ні быў, што мы ставім штампы і не верым у магчымасць змены іншых, а ў выніку — і сябе саміх. Мы не верым у тое, што нават найгоршы злачынца можа быць карысным для грамадства, але мы робім злачынцамі ўсіх тых, хто ўдзельнічае ў забойстве ад імя дзяржавы.

Мне часта ўзгадваюцца падзеі 1998 года, калі пяць чалавек — Міхаіл Глушанок, Сяргей Забабурын, Сяргей Праціраеў, Ігар Склярэнка і Іван Фамін — былі асуджаныя на смерць без дастатковых доказаў. Нягледзячы на ўсе высілкі па іх абароне, чацвёра з іх былі расстраляныя. Пакаранне Сяргею Праціраеву было замененае на 20 гадоў зняволення.

Нам часта нагадваюць, што паводле аднаго даўняга рэферэндуму большасць грамадзян Беларусі выказалася за захаванне смяротнага пакарання. А што калі б пытанне на тым рэферэндуме было пастаўленае так: ці гатовыя вы падпісаць згоду на пакаранне смерцю асабіста вас або вашых блізкіх у выпадку ўчынення выключна цяжкага злачынства? Мне падаецца, вынікі былі б цалкам іншымі.

Пры такой жа пастаноўцы пытання большасць выступіла б і супраць негуманных умоваў утрымання ў турмах, бо пакаранне — гэта не помста і злачынства

часцей за ўсё яшчэ не выбар усяго жыцця і не крыж на тым, хто яго ўчыніў.

Ёсць і яшчэ адна рэч, пра якую я задумаўся толькі нядаўна. Раней я часта параўноўваў розныя краіны. Мне здавалася, што ўмовы жыцця ў адным месцы лепшыя, чым у іншым, толькі таму, што так склалася гістарычна і гэта цяжка змяніць. Але чым болей я даведваўся пра гісторыю той ці іншай мясціны, пра тыя падзеі, якія там адбываліся, пра змаганне за правы чалавека — тым больш відавочным рабілася тое, што ўмовы гэтыя залежаць не толькі ад месца і гісторыі, але і ад тых прынцыпаў, якімі кіруюцца людзі, ад таго, у што яны вераць і чым кіруюцца. І гэтыя перакананні могуць пераважваць гісторыю і абставіны. Магчыма, гэта і ёсць самы галоўны досвед, атрыманы мной у праваабарончым цэнтры «Вясна».

*Сакавік 2012 года*




**2000.**

Сябры ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч,
Алесь Бяляцкі і Андрэй Ягораў падчас акцыі,
прымеркаванай да Міжнароднага дня правоў чалавека,
раздаюць Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека
ў накідках з партрэтамі зніклых палітыкаў.

10 снежня.

*Юры Чавусаў*

# Праваабарона ў халодным клімаце: траекторыя развіцця праваабарончай арганізацыі на прыкладзе праваабарончага цэнтра «Вясна»

Мне давялося ўваходзіць у асяродак праваабарончага цэнтра «Вясна» ў розныя часы з некалькіх розных пазіцыяў. Кожны з гэтых кантактаў даваў пэўны новы ракурс погляду на гэтую праваабарончую арганізацыю, на праваабарончы рух Беларусі і грамадзянскую супольнасць у цэлым. У выніку мне пашчасціла выпрацаваць на аснове гэтых назіранняў стэрэаскапічны погляд на прадмет, які грунтуецца не толькі на простым супрацоўніцтве з «Вясной» у межах разнастайных праграмаў і праектаў, але і на шматгадовых назіраннях і абагульненнях развіцця айчыннага праваабарончага руху ў агульнанацыянальным кантэксце.

Як ні дзіўна, у часы майго навучання на аддзяленні паліталогіі юрыдычнага факультэта БДУ мне наўпрост сутыкацца з «Вясной» не давялося. Праз тое, што з праваабарончым цэнтрам тады супрацоўнічалі некалькі маіх сакурснікаў з малодшых курсаў (Андрэй Казакевіч,

Андрэй Ягораў, Кірыл Чачко ды інш.), назва нейкай арганізацыі «Вясна» была на слыху ў калідорах факультэта (які месціўся тады на вуліцы Маскоўскай у карпусах, што цяпер цалкам займае прэзідэнцкая Акадэмія кіравання), але чым канкрэтна яна займаецца, мне было невядома. З пэўнай перыядычнасцю наведваючы мітынгі дэмакратычнай апазіцыі (Дзяды, Дзень Волі, Чарнобыльскі шлях, Марш свабоды ды іншыя), я шчасліва мінуў затрыманняў ці нейкіх падобных эксцэсаў — так што лёс мяне пазбавіў магчымасці сутыкнуцца з «Вясной» у якасці пацярпелага ці аштрафаванага на масавых акцыях у студэнцкія часы. Таму пра «Вясну» я меркаваў, што гэта ці то нейкі маладзёжны клуб, ці то культурніцкі асяродак, альбо нават увогуле нейкая кавярня, у якую перыядычна весела выпраўляліся некаторыя са студэнтаў малодшых курсаў. Так што гэты шанец выйсці на вясноўскую арбіту тады я не скарыстаў.

Наўпрост кантакты з «Вясной» завязаліся ў мяне ўвесну 2001 года, калі ў часы давыбараў Палаты прадстаўнікоў па Мінску мне давялося быць назіральнікам на адным з мінскіх участкаў па акрузе, дзе ў той час балатаваўся сп. Мікола Статкевіч. Тады мне першы раз давялося завітаць на офіс у доме па праспекце Незалежнасці, 78а — і акурат там я сустрэў некаторых са сваіх сакурснікаў. Адразу ж пасля пачалася актыўная фаза кампаніі назірання за прэзідэнцкімі выбарамі — і праз пратэкцыю спадарыні Леанарды Мухінай, якую я ведаў як актывістку Партыі БНФ, мне было прапанавана працаваць юрыстам сістэмы незалежнага назірання па Цэнтральным раёне Мінска. Паколькі ў той час «Вясна» ўжо грала вызначальную ролю ў сістэме назірання, то гэтую працу мне давялося сумяшчаць з працай юрыста грамадскай прыёмнай у цэнтральным офісе «Вясны». Такім чынам, я адразу пабачыў і назіральніцкі фронт працы падчас выбараў, і наўпрост су-

тыкнуўся з будзённай кансультатыўнай цякучкай, якая ёсць самай першаснай і блізкай да грамадства працай праваабаронцаў.

Па заканчэнні выбараў па прапанове Алеся Бяляцкага я стаў працаваць каардынатарам сістэмы калектыўнай абароны няўрадавых арганізацый. Гэтая сетка юрыстаў была запачаткаваная Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацый для аказання падтрымкі структурам грамадзянскай супольнасці, якія пацярпелі ад хвалі рэпрэсіяў пасля заканчэння выбарчай кампаніі. Канфіскацыі абсталявання і ліквідацыі арганізацый, якія пасля сталіся сумнай традыцыяй беларускага грамадзянскага жыцця, тады ў вялікай ступені давялося пераадольваць у тым ліку праз працу разгалінаваных рэгіянальных структураў «Вясны». Працуючы ў Асамблеі, мне давялося супрацоўнічаць і пасябраваць са шматлікімі вясноўскімі філіямі і іх юрыстамі, а таксама ўключыцца ў якасці трэнера ў рэгіянальныя адукацыйныя праграмы, што ладзіліся пад эгідай праваабарончага цэнтра «Вясна».

Увесну 2003 года па Беларусі пракацілася хваля судовых ліквідацыяў грамадскіх аб'яднанняў. «Ратуша», «Варута», МХСС, «Контур» — на той момант самыя аўтарытэтныя і значныя арганізацыі апынуліся дэлегалізаваныя. Змаганне ў судах мы тады ладзілі разам з Уладзімірам Лабковічам, Вольгай Смалянкай і Алесяй Відрук з Незалежнага таварыства прававых даследаванняў, а таксама пры дапамозе Паўла Сапелкі, якога я тады ўжо ведаў як аўтарытэтнага адваката з «вясноўскай абоймы» (потым Павел абараняў мяне пасля затрымання на Плошчы-2006).

Пасля дзясяткаў судовых працэсаў, якія звычайна заканчваліся ліквідацыяй арганізацый, пасля магутнай хвалі пратэстаў тэлефанаванне Уладзіміра Лабковіча з пытаннем: «Здагадайся, супраць каго на гэты раз пададзены пазоў на ліквідацыю?» не пакінула сум-

неваў — улады адпомсцілі і «Вясне» за ўсю яе дзейнасць. Магу сказаць, што ні да, ні пасля таго мне не даводзілася бачыць такога пратэсту ля будынка Вярхоўнага Суда, як напярэдадні пачатку працэсу па ліквідацыі «Вясны», а па заканчэнні працэсу рашэннем аб ліквідацыі арганізацыі вясноўцы былі зладзілі акцыю пратэсту ў зале суда, усе ўдзельнікі якой былі затрыманыя.

Дэлегалізаваўшы «Вясну», улады не дамагліся сваёй мэты суцішыць праваабаронцаў — наадварот, пасля юрыдычнай забароны дзейнасць праваабарончага цэнтра стала яшчэ больш смелая і бескампрамісная. Гэта ў поўнай меры датычыцца і сферы свабоды асацыяцыяў, у якой я спецыялізуюся як адмысловец Асамблеі НДА. Маніторынгі парушэнняў, штогадовыя агляды-хронікі стану правоў чалавека, альтэрнатыўныя справаздачы ў статутныя і дагаворныя органы ААН, стратэгічныя судовыя справы і падтрымка калегаў-праваабаронцаў — супраца з «Вясной» па гэтых напрамках дзейнасці была для мяне плённай і цікавай з прафесійнага пункту гледжання.

Падчас форумаў беларускіх праваабаронцаў 2004 і 2010 гадоў я быў відавочцам таго, наколькі вялікім аўтарытэтам карыстаецца «Вясна» ў асяроддзі айчынных і замежных праваабарончых арганізацыяў, а вядучая роля Алеся Бяляцкага ў Асамблеі НДА рабіла арганізацыю лідарам усёй грамадзянскай супольнасці краіны. Нездарма менавіта голас «Вясны» быў найбольш важкім у такіх прынцыпова важных пытаннях, як фарміраванне фондаў салідарнасці з палітзняволенымі і выпрацоўка стратэгіі беларускага праваабарончага руху.

Ад 2005 года, менавіта з ініцыятывы «Вясны», распачалася праграма Беларускай школы правоў чалавека. Гэта бадай самая амбітная і доўгатэрміновая навучальная праграма беларускіх праваабаронцаў — і я

шчаслівы, што мне пашанцавала мець дачыненне да гэтага напрамку працы ад самага пачатку, ужо на этапе складання плана школы і фарміравання пула арганізацый-удзельніц.

Менавіта з ініцыятывы «Вясны» быў запушчаны гэты супольны праект некалькіх беларускіх праваабарончых арганізацыяў — спачатку ў выглядзе раз’язной школы, а неўзабаве (і цяпер) на базе Дома правоў чалавека — яшчэ аднаго важнага сайд-праекта «Вясны», які стаўся інфраструктурнай базай і лабісцкім агентам беларускіх праваабаронцаў на тэрыторыі Эўразвязу.

Менавіта на школах правоў чалавека мне часта даводзілася размаўляць з навучэнцамі пра ролю і функцыі праваабарончых арганізацый, пра магчымыя мэты і методыку дзеянняў у абарону правоў чалавека. Магчыма, з прычыны таго, што «Вясна» была для мяне найбольш блізкай праваабарончай арганізацыяй, тлумачэнне гэтых пытанняў звычайна я раблю якраз-такі на прыкладзе развіцця праваабарончага цэнтра «Вясна».

У Беларусі распаўсюджана меркаванне, што праваабарончыя арганізацыі — гэта нешта накшталт грамадскай адвакатуры, якая аказвае пацярпелым прававую дапамогу на бязвыплатнай аснове. І сапраўды, шмат якія праваабарончыя арганізацыі аказваюць такія паслугі — у Беларусі працуюць праваабарончыя прыёмныя Беларускага Хельсінкскага камітэта, праваабарончага цэнтра «Вясна», мінскага Цэнтра па правах чалавека, Магілёўскага праваабарончага цэнтра і іншых структур. Гэтыя грамадскія прыёмныя функцыянуюць па розных прынцыпах, але ўсе яны арыентаваныя на тое, каб даваць юрыдычныя кансультацыі кліентам, не беручы з іх грошай. Аднак цалкам атаясамліваць бясплатную прававую дапамогу з усёй праваабарончай дзейнасцю не варта. Больш за тое, такая праца з’яўляецца

ў праваабарончай дзейнасці звычайна другаснай і грае ўсяго толькі дапаможную ролю.

Мне давялося працаваць у грамадскай прыёмнай праваабарончага цэнтра «Вясна», і мушу вам сказаць: гэтая праца досыць няўдзячная і, з пункту гледжання грамадскіх інтарэсаў, не прыносіць вялікага плёну. Справа ў тым, што большая частка зваротаў грамадзян па кансультацыі не датычыцца выпадкаў парушэння правоў чалавека альбо дыскрымінацыі. Пераважна людзі звяртаюцца па праблемах жыллёвага, сямейнага, грамадзянскага права, па спрэчках, у якіх не назіраецца канфлікту паміж дзяржаўнай уладай і індывідам. Гэтыя выпадкі як такія не могуць быць разгледжаныя ў якасці парушэння правоў чалавека — але праваабарончыя арганізацыі аказваюць кансультацыі і ў гэтых выпадках, дапамагаюць пацярпелым. Тут праваабаронцы выконваць функцыю бязвыплатнай прававой дапамогі, якая ў прававой дзяржаве павінна быць даступная і ў звычайным рэжыме, што павінна забяспечваць дзяржава ў межах рэалізацыі дзяржаўных функцый выканання права на доступ да правасуддзя.

Іншая, колькасна меншая плынь зваротаў да праваабарончых кансультацыйных цэнтраў складаецца з выпадкаў, якія звязаныя з канфліктамі паміж чалавекам і дзяржаўнай уладай ды маюць дачыненне да правоў чалавека. Але і яна выклікае з цягам часу адчуванне, што ўсе кансультацыі і аказаная дапамога не маюць вялікага грамадскага сэнсу: можна дапамагчы аднаму, дзесяці, сотні чалавекам — але сама прававая практыка альбо прававы акт, які робіць людзей ахвярамі парушэння правоў чалавека, застаецца нязменным.

Можна дамагчыся вызвалення канкрэтнага адміністрацыйна затрыманага, якога трымаюць у пастарунку больш за тры гадзіны, — але ў тым жа самым паста-

рунку надалей міліцыянты будуць працягваць парушаць закон у частцы тэрмінаў адміністрацыйнага затрымання.

Можна дамагчыся рэгістрацыі грамадскага аб’яднання — але сама сістэма рэгістрацыі грамадскіх аб’яднанняў разам з забаронай на дзейнасць незарэгістраваных арганізацый будзе карэнным чынам супярэчыць прынцыпам свабоды асацыяцый.

Працуючы ў прыёмнай, часта адчуваеш сябе як быццам бы седзячым ля берага мора з лыжкай — колькі ёй ні чэрпай, усё адно мора не вычарпаеш, колькі ні дапамагай ахвярам парушэнняў, усім не дапаможаш.

Таму арганізацыі праваабарончага накірунку ў сваёй эвалюцыі часцей за ўсё з цягам часу адыходзяць ад чыста кансультацыйнай дзейнасці. Гэта можна прасачыць шмат у якіх генеалогіях суб’ектаў праваабарончага руху: часцяком чалавек пачынае абараняць свае правы, і калі ён гэта робіць эфектыўна — да яго прыходзяць людзі з падобнымі праблемамі, яны пачынаюць працаваць разам, шукаюць яшчэ аднадумцаў, пачынаюць прыцягваць юрыстаў, журналістаў і іншых прафесіяналаў, здымаюць сталае памяшканне, выдзяляюць для мэтаў праваабарончай дзейнасці нейкую маёмасць і вызначаюць структуру кіравання гэтай маёмасцю — і ў выніку мы атрымліваем праваабарончую арганізацыю, арыентаваную на аказанне бясплатнай прававой дапамогі.

Больш за тое, арганізацыя імкнецца дапамагчы як мага большай колькасці людзей, пашырае і развівае кансультацыйную дзейнасць, часам нават адчыняе новыя і новыя грамадскія прыёмныя. Гэта досыць распаўсюджаны шлях, у тым ліку і ў Беларусі.

Такім чынам, арганізацыя працуе, аказвае кансультацыі і іншую прававую дапамогу (складанне скаргаў, прадстаўніцтва ў судзе, забеспячэнне адвакацкіх паслуг і гэтак далей). Да яе па дапамогу ідуць людзі з праблемамі, у тым ліку часам і з праблемамі, датыч-

ымі правоў чалавека. І чым эфектыўней арганізацыя робіць сваю справу, тым больш людзей у яе прыёмную прыходзяць па бясплатныя прававыя кансультацыі, пры гэтым часцяком усё ж па справах падзелу маёмасці паміж мужам і жонкай, выплаты аліментаў альбо па парушэннях умоў працоўных дагавораў ці памылках у разліках камунальных плацяжоў — то бок са справамі, якія часцей за ўсё мала датычныя правоў чалавека.

Па выпадках незаконных затрыманняў, катаванняў, пазбаўлення доступу да суду альбо дыскрымінацыі людзі аб'ектыўна прыходзяць радзей. І з цягам часу нашая праваабарончая арганізацыя робіцца закладніцай уласнага поспеху: прыёмная працуе, кансультацыі і прававая дапамога аказваюцца, пры гэтым справа патрабуе ўсё больш і больш высілкаў, усё больш чалавечых і матэрыяльных рэсурсаў. А агульны стан з правамі чалавека ў краіне ад гэтага не паляпшаецца.

Часам арганізацыі спрабуюць з гэтай сітуацыі «дапамогі ўсім і па ўсіх пытаннях» выйсці на сваю вузкую спецыялізацыю. Яны дэкларуюць, што не працуюць з выпадкамі жыллёвага, сямейнага, грамадзянскага права, не аказваюць дапамогу ў спрэчках па падзеле маёмасці паміж сужэнцамі альбо бяруцца абараняць толькі асобныя свабоды ці правы пэўнай катэгорыі насельніцтва (звычайна меншасцяў ці дакліваых групаў).

Але непазбежна, нават нягледзячы на спецыялізацыю, у арганізацыйным развіцці гэтай праваабарончай структуры наступае момант своеасаблівага выбару шляхоў далейшага развіцця. Арганізацыя можа засяродзіцца на той самай кансультацыйнай дзейнасці, можа вырашыць, што змяненне сітуацыі з правамі чалавека не ёсць ейнай місіяй, — і тады працягваецца нарошчванне колькасці кансультацый і маштабаў прававой дапамогі. У такім выпадку арганізацыя ператвараецца насамрэч у нейкі аналаг грамадскай адва-

катуры — у Беларусі ў значнай ступені такі варыянт развіцця абралі структуры руху ў абарону правоў спажыўцоў.

Іншы шлях можа быць звязаны з перафармуляваннем місіі: ад кансультацый і дапамогі пацярпелым і ахвярам парушэння правоў чалавека — да дзейнасці, скіраванай на тое, каб такіх ахвяраў і такіх парушэнняў больш не было. То бок арганізацыя можа зрабіць скачок да якасна новага ўзроўню дзейнасці, да той дзейнасці, якая скіраваная на змяненне прававой сітуацыі ў цэлым, да выкаранення ўмоў, якія спараджаюць парушэнне правоў чалавека, — а не проста на дапамогу канкрэтным ахвярам гэтай сітуацыі. І тады арганізацыя пераходзіць да больш сістэмных, асэнсаваных дзеянняў у абарону правоў чалавека, пра якія мы з вамі і будзем сёння размаўляць.

Вядома, і ў тым выпадку, калі арганізацыя пайшла па гэтым другім шляху, праваабарончыя прыёмныя і сістэма аказання бязвыплатнай прававой дапамогі можа застацца ў структуры, і нават часцей за ўсё застаецца, але толькі ў якасці дапаможнага кампанента. Прыёмныя працуюць, каб арганізацыя не губляла сувязі з грамадствам, не адрывалася ад надзённага жыцця і адчувала грамадскі пульс. Праз праваабарончыя прыёмныя няўрадавыя арганізацыі часта атрымліваюць інфармацыю пра парушэнні правоў чалавека — але асноўным накірункам робяцца іншыя віды дзейнасці ў абарону правоў чалавека.

Акурат прыклад праваабарончага цэнтра «Вясна» з’яўляецца добрай ілюстрацыяй таго, якім чынам эвалюцыянуюць і развіваюцца праваабарончыя арганізацыі.

Гісторыя гэтай арганізацыі сягае ў мінулае стагоддзе. Увесну 1996 года ў Беларусі, канкрэтна ў Мінску, адбываліся беспрэцэдэнтныя масавыя акцыі ў абарону незалежнасці і дэмакратыі. І гэтыя дэманстрацыі су-

тыкнуліся з беспрэцэдэнтнымі на той час па жорсткасці і масавасці рэпрэсіямі. Сотні і сотні арыштаваных, дзясяткі збітых міліцыяй. Тады яшчэ ніхто нават і не ведаў, што ёсць такая ўстанова — спецпрымальнік-размеркавальнік на вуліцы Акрэсціна (гэта цяпер толькі для праваабаронцаў тая назва стала хадзячай). Людзі шукалі сваякоў і знаёмых па РАУСах, турмах, пастарунках, шпіталях, шмат хто нават і не ведаў, дзе шукаць.

І вось тады шэраг пацярпелых сталі самаарганізоўвацца і складаць спісы затрыманых, паведамляць іх у прэсу, даваць інфармацыю пра тое, якім чынам можна патрапіць на суды, дзе знайсці адвакатаў і абаронцаў, што можна перадаць за краты (ежа, пітная вада, прадметы гігіены). Рабілася гэта на базе літаратурнага музея Багдановіча, што ў Траецкім прадмесці ў Мінску. Дэманстрацыі адбываліся часта — і супрацоўнікі музея, якім кіраваў тады Алесь Бяляцкі, увесь вольны час прысвячалі гэтай дзейнасці.

З цягам часу былі наладжаныя сувязі з іншымі грамадскімі структурамі, былі заангажаваныя ў працу юрысты і адвакаты, пастаянны гарачы тэлефон «цэнтра, дзе збіраюць інфармацыю пра арыштаваных дэманстрантаў» займелі шмат якія журналісты, і нават для міліцыянтаў у РАУСах гэта стала звычайнай справай — адказваць на званкі не толькі сваякоў затрыманых асобаў, але і на званкі праваабаронцаў.

Гэтая праца займала ўсё больш і больш часу — удзельнікі арганізацыі, якая ў гонар той «гарачай вясны» атрымала назву «Вясна-96», зрабіліся прафесійнымі праваабаронцамі. Запрацавала праваабарончая прыёмная, якая потым вырасла ў сетку ажно з сямнаццаці кансультацыйных цэнтраў і філіяў у шматлікіх гарадах Беларусі. Арганізацыя была зарэгістраваная, потым у 1999 годзе страціла рэгістрацыю, каб неўзабаве адрадзіцца пад назвай «Праваабарончы цэнтр “Вясна”». Рэгістрацыю здолелі атрымаць і некаторыя філія-

лы, але дзейнасць не засталася незаўважанай уладамі — і падчас маштабнай «зачысткі» грамадзянскага сектара ў 2003–2005 гадах «Вясну» зачынілі разам з некалькімі сотнямі іншых грамадскіх аб'яднанняў праваабарончага, дэмакратычнага, маладзёжнага накірункаў дзейнасці.

Але гэта не спыніла актыўнасці праваабаронцаў — «Вясна» насуперак высілкам чыноўнікаў працягвае працаваць, працягвае рабіць назіранне за выбарамі, маніторынгі розных аспектаў захавання правоў чалавека ў Беларусі, складае справаздачы ў міжнародныя органы аб сітуацыі ў нашай краіне, ажыццяўляе лабіраванне праваабарончай тэмы на міждзяржаўным узроўні, вядзе важныя судовыя справы, датычныя самых розных аспектаў правоў і свабодаў чалавека.

Карацей, «Вясна» ёсць найактыўнейшым гульцом на беларускім праваабарончым полі, адной з візітовак беларускага грамадзянскага сектара. Але пры гэтым праваабарончыя прыёмныя больш ужо не з'яўляюцца для яе прыярытэтным накірункам працы. І гэта абумоўлена не толькі стратай рэгістрацыі (што, безумоўна, ускладняе магчымасці, напрыклад, прадстаўляць інтарэсы кліента ў судзе), але і аб'ектыўнымі прычынамі сталення арганізацыі: вясноўцам больш недастаткова абараняць канкрэтную ахвяру парушэння правоў чалавека — яны хочуць працаваць на тое, каб змянілася сітуацыя ў цэлым і парушэнні падобнага кшталту зніклі, каб змяніліся ўмовы, якія спараджаюць гэтакага кшталту парушэнні правоў чалавека.

Такім чынам, на пэўным арганізацыйным узроўні праваабарончыя арганізацыі пачынаюць зрушваць акцэнты ад абароны інтарэсаў кліента, які зрабіўся ахвярай парушэння правоў чалавека, да абароны правоў чалавека як асобнага грамадскага інтарэса. І тады мы канстатуем, што яны пераходзяць да дзеянняў у абарону правоў чалавека, альбо, як прынята казаць цяпер, дзеянняў у абарону грамадскіх інтарэсаў.

Пад дзеяннямі ў абарону грамадскіх інтарэсаў разумеюць негвалтоўныя захады, якія ўжываюцца няўрадавымі арганізацыямі, індывідамі, групамі грамадзян і іншымі незалежнымі ад уладаў суб'ектамі з мэтай дамагчыся больш строгага выканання правоў чалавека, большай эфектыўнасці ў функцыянаванні прававой дзяржавы, прадухілення альбо выкаранення дыскрымінацыі, захавання навакольнага асяроддзя альбо сістэмных зменаў у функцыянаванні дзяржаўных механізмаў. У гэтым апісальным, нястрогім вызначэнні мы звяртаем увагу на характэрныя, сутнасныя рысы дзеянняў у абарону правоў чалавека ў кантэксце вертыкальнага падыходу да правоў чалавека як да стасункаў паміж індывідам і дзяржаўнай уладай. Яны заўжды негвалтоўныя. Як бачна, яны заўжды ставяць за мэту дасягненне пэўнага грамадскага выніку для грамадства цалкам альбо для нейкай значнай ягонай часткі, няхай яна нават утварае меншасць.

З майго пункту гледжання, няўрадавы, адасоблены ад уладаў характар суб'екта, які ініцыюе дзеянні, — гэта таксама важная прыкмета. З іншага боку, я прызнаю, што на стадыі разгортвання дзеянняў да іх могуць далучыцца і пэўныя дзяржаўныя службоўцы як прадстаўнікі публічнай улады: напрыклад, падчас барацьбы з сегрэгацыяй пэўныя дзяржаўныя служачыя далучаліся да працы руху ў абарону правоў цемнаскурага насельніцтва, а ў шматлікіх выпадках палітычных дзеянняў у абарону правоў чалавека нам не абысціся без дапамогі палітыкаў (напрыклад, парламентарыяў). Але ўсё ж такі імпульс, першасны штуршок да дзеянняў заўжды з'яўляецца па-за межамі ўрадавага апарату — у гэтым дзеянні ў абарону грамадскіх інтарэсаў адрозніваюцца ад звычайнага функцыянавання палітычнай сістэмы.

Не прэтэндуючы на апісанне сучаснай гісторыі беларускай праваабароны, падагульню гэты нарыс кан-

статацыяй: праваабарончы цэнтр «Вясна» цягам сваёй эвалюцыі ад 1996 года развіўся ад звычайнай групы самадапамогі ў складаную праваабарончую арганізацыю, якая выкарыстоўвае ў сваёй працы грамадскія, прававыя, асветніцкія, палітычныя дзеянні на нацыянальным і міжнародным узроўнях. А таксама ажыццяўляе маніторынгі, інтэграваныя ў сістэму стратэгічных дзеянняў. Таму гісторыя сучаснай «Вясны» — гэта цяпер у значнай ступені і ёсць гісторыя айчыннага праваабарончага руху.

*Сакавік 2012 года*




**2001.**

Удзельнікі прэс-канферэнцыі кіраўніцтва рэспубліканскай грамадзянскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне» Уладзімір Гудзееў, Алесь Бяляцкі, Валянцін Стэфановіч, Мечыслаў Грыб. Менавіта правядзенне незалежнага назірання паслужыла нагодай для ліквідацыі праз Вярхоўны Суд афіцыйнай рэгістрацыі ПЦ «Вясна».

*Уладзімір Лабковіч*

## Рух у бок «Вясны»

Што такое «Вясна»? Правы быў Харытон — супрацоўнік Мінюста, які з маніякальным задавальненнем адмаўляў нам тройчы ў рэгістрацыі, а затым дэманстраваў палёт свайго хваравітага розуму ў судовых паседжаннях: «Вясна — гэта не пара года, гэта штосці іншае, вядомае толькі яго заснавальнікам». Так і ёсць, толькі нам вядома, што такое «Вясна». Гэта не назавеш сям'-ёй, бо гэта не паглынае ўсю сутнасць нашай каманды. Калі пасадзілі Алеся Бяляцкага, я, позна ўначы вярнуўшыся дадому, толькі тады зразумеў, што «Вясна» — гэта той унутраны свет, які ёсць у кожнага з нас. «Вясна» — гэта мы.

У кожнага з нас свой шлях у «Вясну». Свой я пачаў у 1998 годзе. На ўправу БНФ зайшоў Алесь Бяляцкі, якога я амаль і не ведаў, паклікаў Валіка Стэфановіча, з якім мы былі ў добрых стасунках па нашай працы ў «Маладым фронце» і амаль адзінымі юрыстамі, якія працавалі ў МФ. Алесь адвёў нас на знакамітую лаўку ў дворыку старой управы, дзе прайшло столькі нарадаў і «сакрэтных» перамоваў, і распавёў, што стварае «Вясну» — праваабарончую арганізацыю, дзе патрэбны юры-

сты, і запрашае Валіка ў каманду, а таксама думае пра мяне. Я тады быў цалкам захоплены палітычным змаганнем, вулічнымі акцыямі і лічыў, што праваабарона — штосьці незразумелае і занадта небаявая дзейнасць. Алесь, як чалавек з моцнай інтуіцыяй, напэўна, адчуў мой скепсіс, таму я так і застаўся ў рэзерве. Мяне далей зацягнуў вір палітычнай барацьбы. Але я з вялікім імпэтам удзельнічаў у праваабарончых пікетах, бо тады ў наш лексікон увайшло слова «палітвязень», і, на жаль, да гэтага часу гэта асноўнае слова ў нашым лексіконе. Памятаю, які мяне ахапіў гонар, калі ў першым аглядзе-хроніцы праваабарончага цэнтра «Вясна» за 1998 год быў надрукаваны мой фотаздымак на адным з пікетаў.

Увогуле, пра вясноўскія агляды-хронікі парушэнняў правоў чалавека можна весці асобную гаворку. Памятаю, што, напрыклад, у «Маладым фронце» лічылася, што, калі пра цябе не ўзгадваецца ў аглядзе, значыць, цябе не існуе, а вага вылічвалася па колькасці згадак у імянным указальніку напрыканцы выдання.

Затым наступіў 2001-ы — год прэзідэнцкіх выбараў. Валянцін Стэфановіч папрасіў, каб я дапамог пачытаць трэнінгі незалежным назіральнікам, бо ўжо тады больш за ўсё мяне захапляла такая галіна, як выбарчае права. «Вясна» прыглядалася да мяне, а я да «Вясны».

У дзень выбараў я зайшоў у штаб незалежнага назірання. Мяне ўразіла абстаноўка, якая там панавала: менавіта так я сабе і ўяўляў штаб, дзе робіцца сапраўдная праца. На табурэтках сядзелі Алесь і Валік, да якіх падбягалі сябры штаба, штосьці давалі, штосьці тлумачылі, а яны давалі ўказанні. У той момант я адчуў гэты цудоўны стыль «Вясны», дзе ўсе роўныя, усе прымаюць рашэнні і ўсе захопленыя сваёй працай.

Мы разам з Галінай Сямдзянавай былі назіральнікамі ад БНФ «Адраджэнне» ў Цэнтральнай камісіі і мелі права браць удзел у брыфінгу ЦВК у дзень выба-

раў, а таксама маглі наўпрост задаць пытанне Ярмошынай падчас прэс-канферэнцыі. Узброеныя ад «вясноўцаў» шматлікімі фактамі парушэнняў, мы ішлі ў Палац Рэспублікі, дзе месцілася ЦВК у дзень выбараў, і Галіна Сямдзянава, агучваючы атрыманую інфармацыю, патрабавала тлумачэнняў. Вядома, яна не атрымлівала адказаў, затое замежныя журналісты з яе вуснаў даведваліся самую свежую інфармацыю. З таго брыфінгу вельмі запомніўся шведскі журналіст, які ўвесь час браў слова і задаваў Ярмошынай і Лазавіку адное і тое ж пытанне: «Я не понимаю, что стало с наблюдателями от центра “Вясна”?» Справа ў тым, што якраз за дзень да галасавання ЦВК анулявала рэгістрацыю каля трох тысяч назіральнікаў ад «Вясны». Журналіст бясконца ўставаў, задаваў гэтае пытанне і шчыра не разумеў, як можна выдаліць тры тысячы назіральнікаў за некалькі недакладна афармленых пратаколаў.

Праз некалькі дзён, калі ўсе ачунялі ад выбараў, мне пазваніў Валянцін і запрасіў зайсці на «Вясну» паразмаўляць. Я назаўсёды запомніў гэтую дату, бо тады я стаў «вясноўцам»: 15 верасня 2001 года. Тады Алесь запрасіў мяне ў каманду. Я часта думаю пра тое, што б я змяніў у сваім мінулым. І, безумоўна, для мяне было слушным тое, што я стаў часткай каманды.

«Вясна» прымала мяне цяжка. Прыглядалася да мяне, мацала на вытрымку і здольнасць. Бывалі моманты, калі я падыходзіў да свайго сябра Валянціна і казаў, што мне цяжка, што, напэўна, я не здолею ўвайсці ў каманду, але ён прасіў пачакаць, казаў, што ўсё зменіцца. Дзякуй яму за тую падтрымку. Пазней мы з Таццянай Рэвяка і Палінай Сцепаненка са смехам узгадвалі гэтыя мае першыя тыдні прыціркі на «Вясне».

Бяляцкі для мяне тады быў яшчэ паўміфічным персанажам, але гэта адчуванне хутка знікла, і паўстаў нармальны чалавек: без фанабэрыі, але ў той жа час

вельмі мудры і сапраўдны настаўнік, які цэніць сваіх вучняў. Гэта адчуванне засталося і зараз, хаця мы можам і спрачацца і ён можа спакойна пагаджацца, калі хтосьці мае рацыю.

Пачалася мая юрыдычная практыка на «Вясне». Тады нас яшчэ пускалі на суды. Я, на жаль, не памятаю свае першыя судовыя працэсы, але вельмі любіў хадзіць у суды: бывалі выпадкі, калі мы перамагалі, бывалі выпадкі, калі не.

Асаблівай пашанай лічылася, калі нам прыносілі падарункі за нашу працу — часцяком цукеркі, але бывала, што і піражкі, марынады, сочыва. Гэта мы называлі «хабарам», які адносіўся на кухню, дзе мы ўсе гэта з задавальненнем спажывалі. Гэта былі часы, калі зусім не было грошай, калі не было за што набыць элементарныя рэчы, і такія харчовыя падарункі былі вельмі дарэчы. Памятаю, што зімой 2002/03 ні ў кога не было грошай, і тады Алесь з вёскі прывёз некалькі мяхоў бульбы і капусты, якую ён разам з Алесем Калітой, нашым «сынам палка», заквасілі на кухні «Вясны». У кожнага з нас быў свой дзень дзяжурства па кухні, мой дзень быў панядзелак. Бліжэй да абеду я ішоў на кухню, чысціў бульбу і варыў яе, даставаў капусту і клікаў усю нашу каманду. І мы, сабраўшыся ўсе разам, спажывалі гэтую няхітрую страву; асаблівым шыкам было, калі Алесь прыносіў вясковае сала. Мы вялі цікавыя размовы, дзяліліся ўражаннямі. Я разам з ежай паглынаў вясёлыя і цікавыя расповеды Алеся, Валянціна і Таццяны. Усім раю паслухаць расповеды Валіка і Алеся пра іх службу ў войску — я слухаў столькі раз адныя і тыя ж гісторыі, але заўсёды яны былі афарбаваныя новымі фактамі, выразамі, словамі і заўсёды неймаверна вясёлыя і аптымістычныя. Гэтая аўра не знікла і зараз. «Вясна» так і застаецца сяброўскай камандай вельмі цікавых людзей.

Затым наступіў 2003 год, калі рэжым вырашыў напярэдадні парламенцкіх выбараў ліквідаваць грамадскія арганізацыі, выштурхнуць нас усіх у падполле. Тады ліквідавалі іх сотні. Мы баранілі нашых калегаў. Я спрабаваў адстаяць у судзе разам з юрыстамі Незалежнага таварыства прававых даследаванняў (кіраўніца — Алена Танкачова) «Грамадзянскія ініцыятывы» з Гомеля і «Ратушу» з Гродна. Затым прыйшоў час і «Вясны».

Памятаю, што я ўспрыняў іск аб ліквідацыі «Вясны» з панікай, але Алесь быў вельмі спакойны, ён тады сказаў, што, безумоўна, нас ліквідуюць, але гэта, па вялікім рахунку, нічога не мяняе, калі мы гатовы разам працаваць і без рэгістрацыі. Мы былі гатовы.

У судзе інтарэсы «Вясны» прадстаўлялі Алесь, Валянцін і я. Судовая абарона была ў стылі «Вясны»: мы доўга выматвалі прадстаўніцу Мінюста Фішкіну, да вялікай радасці суддзі, якая з задавальненнем дапамагала нам паказаць неадэкватнасць міністэрскіх патрабаванняў. Суд быў доўгім, амаль тыдзень, канец прадказальны — нас ліквідавалі. Міністэрства юстыцыі ў якасці падставаў для ліквідацыі налічыла ажно сем пунктаў. Суддзя зачытвала па кожным, і калі яна адмяла першыя тры, матывуючы тым, што яны не грунтуюцца на законе, я, стоячы побач з Бяляцкім, спытаў яго: «Няўжо ўсё ж мы перамаглі?» Ён сказаў: «Чакай, рана радавацца». Але вось ужо і шэсць падставаў суд адмёў — я нават замест таго, каб крычаць «ганьба», падрыхтаваўся апладзіраваць. Вось і сёмая падстава... Суддзя прызнае, што за парушэнні ў афармленні пратаколаў па вылучэнні назіральнікаў на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года «Вясна» падлягае ліквідацыі. Трэба адзначыць, што за гэта арганізацыя ў свой час атрымала папярэджанне: такім чынам, мы двойчы панеслі пакаранне за адно і тое ж. Разам з тым добра, што суд пакінуў самую адыёзную і выключна палітычную пад-

ставу для ліквідацыі. Так, «Вясну» ліквідавалі за назіранне за выбарамі.

У зале на некалькі хвілін павісла цішыня, і тут Алесь крыкнуў: «Ганьба!» Мы выгукнулі разам і, як і дамаўляліся загадзя, селі на падлогу. Я паспеў пабачыць, як хуценька збегла праз пакой для судовых нарадаў суддзя, а затым і Фішкіна з пракурорам. На нейкі час у вялікай зале засталіся мы і журналісты. Мы проста сядзелі і чакалі. Прыйшоў ахоўнік суда і папрасіў сысці журналістаў і астатніх прысутных. Таня Рэвяка, якая ўсё гэта здымала на відэа, пажадала нам удачы і сышла самай апошняй.

Засталіся толькі мы — сябры «Вясны», якія вырашылі самі з суда не сыходзіць. «Вясна» заўсёды адрознівалася вось такімі неардынарнымі акцыямі: для нас было непрымальна проста прайграць суд і сысці — нам было важна, каб нават наша ліквідацыя стала для нас перамогай. У мяне ад вялікай колькасці адрэналіну ў крыві з’явілася адчуванне падвышэння тэмпературы, хтосьці мне даў аспірын. Мы так і сядзелі адны на падлозе. Я пачаў жартаваць: вось зараз прыйдзе прыбіральшчыца, якая пачне анучай мыць падлогу, а затым выключаць святло.

Але замест прыбіральшчыцы з’явіўся тагачасны намеснік старшыні ГУУС Мінгарвыканкама па грамадскай бяспецы сп. Гірэль. Менавіта пра яго Валік Стэфановіч казаў як пра чалавека, у якога дзве душы: з аднаго боку, ягоны сын вучыўся ў Беларускім гуманітарным ліцэі, з другога — ён меў дачыненне да шматлікіх затрыманняў падчас мірных акцый апазіцыі. Калі Гірэль пачаў гутарыць з Алесем, прысеўшы побач з ім наўпрост на падлогу, ягоныя дзве душы і праявіліся. Спачатку ён доўга ўгаворваў: «Алесь, навошта вам гэта “Вясна”? Вярніцеся ў музей, будзеце дырэктарам». На гэтую рэпліку Алесь адказаў, што яго ўжо не возьмуць у музей. Гірэль: «Так, не возьмуць, але вы, Алесь, знОй-

дзеце, чым займацца». Яшчэ ён доўга скардзіўся на сваю службу, што сыходзіць на пенсію маёрам. Паказваючы на нас, казаў: «Іх пашкадуйце. Падагналі АМАП, і, калі гэтыя ўроды сюды прыйдуць, будзе вельмі кепска». Алесь маўчаў.

Гірэль сышоў, а вярнуўшыся хвілін праз дваццаць, сказаў, што нашы дзеянні супрацьзаконныя і ў адносінах да нас зараз будзе ўжытая сіла. У залу ўварваліся бамбізы ў спартовых касцюмах, пачалі хапаць нас, складваць папалам і валачы, нацягнуўшы нам шапкі на вочы. Памятаю, што бачыў толькі ногі Змітра Салаўёва, якога валаклі наперадзе мяне. Нас выцягнулі ў двор суда і заштурхнулі ў аўтобус, поўны хлапцоў у спартовым адзенні. Мы расселіся на крэслы і маўчалі, калі пад руку са словамі «пройдемте, отец» у аўтобус завялі Бяляцкага. Той адразу, пабачыўшы хлопцаў у спартовым, сказаў: «О, хлопцы, нас хоць ясна, а вас за што павязалі?» Аўтобус напоўніўся нашым рогатам.

Нас прывезлі ў Ленінскі РУУС, завялі ў актавую залу, якая месціцца ў падвале, дзе не бяруць мабільныя, і пачалася руцінная працэдура афармлення. Я быў вельмі ўражаны, наколькі Алесь Бяляцкі ўмее размаўляць з людзьмі. Вось ён гаворыць з капітанам міліцыі, які аказваецца па нацыянальнасці гагаузам, і яны з Алесем ужо горача абмяркоўваюць праблему Гагаузіі ў складзе Малдовы. Мы ўсе зачаравана слухаем і захапляемся. Так прайшло тры гадзіны, а затым паступіў загад аформіць на нас усіх пратаколы за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі і адпусціць да суда, прызначанага на заўтра.

Памятаю, як я выйшаў у фае РУУС і ўбачыў нашых мужных жанчын Паліну і Таню, якія трымалі ў руках бутэрброды і напоі. Мы ўсе, выходзячы, накідваліся на ежу, бо аказалася, што за дзень судовых баталій, а затым ляжання на падлозе вельмі прагаладаліся.

Назаўтра адбыўся суд. Я быў цалкам не падрыхта-

ваны і прыйшоў толькі з зубной шчоткай і пастай на выпадак пасадкі. А вось Алесь з Палінай рыхтавалі для нас усіх перадачы, і, калі я прыйшоў у суд, увесь калідор каля кабінетаў суддзяў па адміністрацыйных справах быў застаўлены вялікімі валізамі для кожнага з нас — на выпадак сутак. Нас развялі па кабінетах, нікога не пасадзілі — падавалі штрафы. Я ж, патрабуючы перакладчыка на беларускую мову, дамогся толькі таго, што мне далі ў два разы большы штраф, чым маім сябрам, — 10 базавых велічынь. Але я вельмі задаволены, што давёў суддзю да істэрыкі сваім неразуменнем рускай мовы.

Нас аштрафавалі і адпусцілі, таму мы пасля суда са сваімі валізамі накіраваліся на офіс «Вясны», дзе, паядаючы сабраныя нам Алесем з Палінай перадачкі, добра пасядзелі, абмяняўшыся эмоцыямі.

Мы працягнулі нашу працу ўжо без рэгістрацыі, а праз паўгода пра гэта нават і не ўзгадвалі, таму што ніякім чынам нашай дзейнасці гэта не замінала. Наадварот, як казаў Валік, нарэшце можна займацца толькі праваабаронай, а не бязглуздымі пастаяннымі праверкамі «Вясны» з боку Міністэрства юстыцыі. Трэба адзначыць, што напярэдадні ліквідацыі толькі за паўгода ў нас было пяць праверак.

У 2003 годзе сябры «Вясны» ў рамках міжнароднай місіі АБСЕ назіралі за выбарамі прэзідэнта Азербайджана. Мы акунуліся ў атмасферу зусім іншай культуры. Для мяне ўсё было экзотыкай, бо так далёка я яшчэ не ад'язджаў ад дому. Па вечарах пасля навучання назіральнікаў Алесь купляў мяхі фруктаў, і мы, жывучы ў хаце аднаго з прафесараў Бакінскага ўніверсітэта, паядалі кілаграмамі недаступныя нам у Беларусі з-за вялізных коштаў дары прыроды. Кожны дзень мы праходзілі ўзмоцненае навучанне. Для большасці з нас гэта быў першы досвед міжнароднага назірання.

Надышоў дзень выбараў. Нас раскідалі па розных

кутках Азербайджана. Я назіраў на самай мяжы з Іранам, а Алесь Бяляцкі застаўся непадалёк ад Баку. За дзень да выбараў у Валянціна быў дзень народзінаў, ён потым распавядаў, што ў запарцы зусім забыўся пра гэта і ўзгадаў толькі, калі клаўся адпачываць разам з групай міжнародных назіральнікаў з Чэхіі.

На світанку назіральнікаў забіралі машыны з кіроўцамі, якія былі для нас і гідамі, і ахоўнікамі. Я, палічыўшы, што назіральнік павінен выглядаць урачыста, апрануў касцюм і белую кашулю з гальштукам. Эх, ужо праз паўгадзіны я быў чорны ад бруду, але наперадзе былі суткі працы. Затое я быў вельмі падобны на азербайджанцаў, якія традыцыйна ходзяць у касцюмах. Пазней было даволі дзіўна глядзець на мітынгі, калі ад мясцовых паліцыянтаў уцякалі мужчыны, усе апранутыя ў касцюмы.

Выбары ў Азербайджане мала чым адрозніваюцца ад беларускіх, акрамя сваёй спецыфікі ў выглядзе боек на выбарчых участках і мяхоў са сфальшаванымі бюлетэнямі. На наступны дзень пасля выбараў на аўтобусах мы вярталіся ў Баку. Усе былі ўражаныя маштабам фальсіфікацый, але ў сталіцы нас чакала большае. На плошчы Свабоды сабралася апазіцыя, якая была жорстка разагнаная нейкімі атрадамі ў спартовых касцюмах з драўлянымі дручкамі. Наш аўтобус гэтага не застаў. Калі мы прыехалі, усё было скончана. Толькі змрочныя чуткі пра забітых насіліся па гатэлі, дзе ў нас быў штаб назіральніцкай місіі.

У гатэль прыйшоў Бяляцкі і сказаў, каб усе беларусы сабраліся, былі разам і па адным на вуліцу не выходзілі. Толькі потым, і зусім не ад Алеся, які заўсёды застаецца чалавекам сціплым, я даведаўся, што яны былі на плошчы і што Алесь выносіў скрываўленага журналіста, які атрымаў па галаве.

На наступны дзень мы даведаліся пра прамежкавую справаздачу місіі АБСЕ, якая была вельмі стрыманай і

адлюстроўвала «крокі наперад» у паляпшэнні выбарчага працэсу. Безумоўна, гэта не адпавядала нашым уражанням ад выбараў, і тады сабраліся асобныя дэлегацыі з краін былога СССР, некаторых краін Усходняй Еўропы. У выніку, у тым ліку па прапанове беларускіх назіральнікаў, была прынята асобная заява ад часткі місіі АБСЕ, дзе выбары прызнаваліся несвабоднымі, з адзначэннем грубых парушэнняў як норм нацыянальнага заканадаўства, так і міжнародных стандартаў. Напэўна ўпершыню, і больш такога не паўтаралася, частка кароткатэрміновых назіральнікаў учыніла бунт супраць рашэння ўсёй міжнароднай назіральнай місіі. Не буду казаць, што нашы адносіны з АБСЕ сапсаваліся, але больш ніколі сябры «Вясны» не ўваходзілі ў міжнародныя місіі БДІПЧ АБСЕ, а рэха скандалу вакол назірання ў Азербайджане мы чулі неаднойчы, калі ўжо назіралі ў межах міжнароднай сеткі маніторынгавых арганізацый Еўропы, якую запачаткавала ў тым ліку і «Вясна» — ENEMO.

Дзіўная рэч — чалавечая памяць. Нейкія моманты, якія былі даўно, значна лепш і ярчэй адбіліся ў ёй, а вось апошнія чатыры гады неяк яшчэ не знайшлі свайго месца. Пройдзе час, і яны стануць гісторыяй, але пакуль гэта наша сучаснасць.

Новы, 2006 год мы сустракалі ў вельмі трывожным настроі. Ужо пачаліся прэзідэнцкія выбары, і з 1 студзеня набывалі моц змяненні і дапаўненні ў Крымінальны кодэкс Беларусі, дзе ўводзіўся артыкул 193[1] — дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Нельга сказаць, што гэтыя змены нас не турбавалі: мы разумелі, што «Вясна», якая ўжо два гады дзейнічала без рэгістрацыі, можа патрапіць пад удар рэпрэсій. Таму вырашылі Новы год сустракаць тэматычна: кожны павінен быў асабіста ці ў групе выканаць песню трыццатых гадоў — гэта быў намёк на набліжэнне ў Беларусі змрочных часоў. Іра Тоўсцік і я выканалі песню «Если

завтра война», а Алесь Бяляцкі праспяваў «Товарищ Сталин, вы большой ученый...». Атрымалася весела, але што скажаш... Якія часы — такія і песні.

Выбары 2006 года. Першая Плошча. Алесь разам з Валікам прастаялі ўсю першую ноч, я не мог быць з імі, бо тэрмінова рыхтаваў скаргу ў ЦВК аб непрызнанні выбараў. Зраніцы мне пазваніў Алесь і сказаў, што яны вельмі стаміліся і пойдуць адпачыць, а мне трэба ехаць у суд Цэнтральнага раёна, бо затрымалі крыху народу, якія сыходзілі з Плошчы, і ім трэба даць адвакатаў. Я вызваніў адваката Паўла Сапелку і папрасіў яго пад’ехаць у суд. Мы ведалі вельмі мала прозвішчаў затрыманых, дакладна ведалі, што затрымалі Таццяну Хому, якую не так даўно выгналі з БДЭУ за яе міжнародную паездку, нягледзячы на тое, што яна не мела спагнанняў і была выдатніцай. Тады выключэнні з ВНУ былі адзінкавымі, і Таццяна сваё абскарджвала: 21 сакавіка ў судзе Заводскага раёна павінен быў слухацца яе іск да БДЭУ аб адмене выключэння. У Паўла было з ёй пагадненне, і ён мог смела яе шукаць. У судзе адчувалася вялікае напружанне, бегалі сакратаркі, было шмат міліцыі, там Пашу не далі ніякай інфармацыі, і мы разам вырашылі ехаць на Акрэсціна ў спецпрыёмнік, які перайменавалі пазней у цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў. Калі мы пад’ехалі, там ужо былі незалежныя журналісты. Паўла запусцілі ў будынак, адкуль ён выйшаў праз некалькі хвілін і паведаміў, што Таццяна там, але затрыманых не 16 чалавек, як мы меркавалі, а 108! Для нас гэта было ўпершыню, ніколі дагэтуль мы не сутыкаліся з такімі масавымі затрыманнямі. Мы паехалі ў Палац правасуддзя на Сямашкі, дзе месцяцца тры раённыя суды Мінска. З цяжкасцю вызначылі некаторыя кабінеты, дзе вельмі верагодна будуць слухацца адміністрацыйныя справы па Плошчы. Я падышоў да свайго «ўчастка адказнасці», людзей для кантролю вельмі бракавала, дзякуй, што

дапамаглі бацькі затрыманых, якія, не ведаючы, дзе будуць слухацца справы іх дзяцей, ахвотна пагадзіліся сядзець і запісваць усіх, каго прывязуць. Побач з кабінетамі, дзе стаў я, ужо сабралася група спецназаўцаў, якія былі страшэнна сабой задаволеныя і размаўлялі на звыклай для сябе мове, дзе нецэнзурныя словы складалі асноўную частку. Хутка прыбеглі сяброўкі Таццяны, стала вядома, што разам з ёю затрымалі Вольгу Кузьміч і Юрася Сідуна, а ў іх у хаце застаўся адзін бедны кот, ключоў няма, і ён можа памерці, калі гаспадарам дадуць суткі. Хутка прывезлі Вольгу і Юрася, якім далі па 10 сутак. Кот апынуўся ў крытычнай сітуацыі. Я выйшаў на ганак, дзе пабачыў аднаго з афіцэраў спецназа, якога памятаў па акцыях і судах яшчэ з пачатку 2000-х гадоў, і вырашыў папрасіць за ката — распавёў жахлівую гісторыю, апісаўшы ягоны незайздросны лёс. Прыйшлося перайсці на мову, блізкую амапаўцу. Ён моўчкі паслухаў і сказаў: «Пайшлі!» Я ў нейкі момант нават падумаў, што ўсё — і мяне вырашылі забраць, як і абяцалі амапаўцы, калі мы чакалі затрыманых. Але не — мы вярнуліся ў калідор, дзе амапавец знік, а праз некаторы час вывеў з залы суда, куды ніхто не здолеў патрапіць, Вольгу Кузьміч і, пабачыўшы мяне, сказаў: «Забяры ў яе ключы». Вольга аддала мне ключы, якія я перадаў яе сяброўкам. Кот быў выратаваны.

Затым быў доўгі канвеер судоў, перадачкі арыштаваным. Аднойчы Валік паехаў на Акрэсціна, дзе ўвесь час збіраліся бацькі асуджаных — яны стаялі на марозе цэлы дзень. Валік у «Макдональдсе» набыў каля 100 шклянак гарбаты (уяўляю, як на гэта адрэагавалі супрацоўнікі) і павёз пад Акрэсціна, каб людзі маглі пагрэцца гарачым напоем.

Мы дэманстратыўна размясцілі на нашым сайце абвестку, што аказваем дапамогу ўсім затрыманым. Бывала, што ў нас на офісе выстройваліся вялікія чэргі

з бацькоў, а затым з асуджаных з пастановамі і Таццяна Рэвяка да позняй ночы разбіралася з імі.

Як мы тады выжылі, да гэтага часу невядома: і ў звязку з жахлівай нагрузкай, і ў звязку з пастаянным чаканнем, што на офіс з'явіцца міліцыя. Тады для нас было першае выпрабаванне па аказанні дапамогі такой вялікай колькасці асуджаных. Алесь Бяляцкі потым часта казаў, што пасля 2006 года нам нічога не страшна. Тады мы не ведалі, што наперадзе нас чакае яшчэ большае выпрабаванне.

19 снежня 2010 года. Час спыніўся на гэтай даце, і да гэтага часу я лічу, што гэты дзень яшчэ не скончыўся.

Наш офіс у тую ноч падвергся нападу, калі мы якраз завяршалі падрыхтоўку выніковай справаздачы па назіранні за выбарамі, а таксама складалі першасны спіс затрыманых на Плошчы. Вызвалілі нас толькі пад раніцу, а ў гэты час на офісе правялі незаконны ператрус і забралі ўсе камп'ютары і дакументы, гэты вобыск правялі ў прысутнасці Алеся Бяляцкага і Валянціны Свяцкай без аніякай санкцыі.

17 студзеня 2011 года мы ўсе працавалі на офісе і збіраліся віншаваць Таццяну Рэвяка з днём народзінаў. Толькі Таццяна зайшла ў офіс, раздаўся званок у дзверы, і мы пабачылі двух тыпаў, якія, не хаваючыся, пачалі крычаць, што яны з КДБ, і патрабаваць адчыніць. У дзверы ламіліся бесперапынна, і ў такіх вось абставінах мы павіншавалі Таццяну, а потым пачалі знішчаць дакументы і «чысціць» камп'ютары. Прайшла ўжо дзесьці гадзіна, а дзверы яшчэ не былі выламаныя. Да офіса пад'ехалі журналісты, калегі з Міжнароднай назіральнай місіі, старшыня БХК Алег Гулак — яны стаялі на пляцоўцы і спрачаліся з гэбістамі. Было чуваць, як адзін з гэбістаў казаў Алегу Гулаку: «Алег Мікалаевіч, скажыце ім, каб адчынілі дзверы, бо зараз будзем ламаць». Мы з Валянцінам апранулі курткі на выпадак, калі ў офіс уварвуцца і ў

нас не будзе часу на адзяванне. Мы ўжо цалкам змірыліся з тым, што, мажліва, наша знаходжанне на волі ўжо скончылася. Але не ўсе ў нас на офісе здаліся. Сяргей Сыс знайшоў выйсце: ён нейкім чуццём знайшоў ключы ад дэкаратыўных кратаў на кухні, адчыніў іх і скокнуў з акна. На дзіва, якраз пад гэтым акном не было нікога з тых, хто ламіўся да нас. Затым пачалі выскокваць усе, хто быў на офісе. Выглядала вельмі прыгожа, калі Таццяна скакала з акна ў святочнай сукенцы. Я доўга не хацеў скакаць, але Алесь з Валянцінам настойліва мяне выштурхнулі, пасля чаго адчынілі дзверы. Супрацоўнікі КДБ прад'явілі санкцыю наператрус. Да Валянціна звярнуліся па імені і папрасілі яго пакінуць офіс. Алесь застаўся. Мы ўсе сабраліся на вуліцы і чакалі завяршэння ператрусу. Праз некалькі гадзін выйшлі кадэбісты з Алесем. Адзін са спецслужбоўцаў, паказваючы сваю абазнанасць, павітаўся са мной па імені.

Потым Алесь Бяляцкі распавядаў, што, ходзячы па офісе, супрацоўнікі КДБ увесь час прыгаворвалі: «Прафесійна працуеце: паперы пазнішчалі, камп'ютары вынеслі і ўсе праз акно збеглі».

Так, мы працуем прафесійна. І не таму, што нас хтосьці гэтаму вучыў, і не таму, што ў такіх умовах працуем фактычна з моманту ўтварэння «Вясны», а таму, што мы верым у тое, што робім, верым у кожнага, хто побач, бо «Вясну» мацуюць не правілы ўнутранага распарадку, не статут ці пагроза рэпрэсіяў, а менавіта сяброўства і павага адзін да аднаго. Я сапраўды шчаслівы, што стаў «вясноўцам», я шчаслівы, што за мой час на «Вясне» я быў поруч з такімі цудоўнымі людзьмі.

Дапісваю свае эсэ. Ужо позні вечар. На офісе ў суседнім пакоі працуе Таццяна Рэвяка: так часта бывае, што яна першая, хто прыходзіць на офіс, і апошняя сыходзіць. Мне б яе працаздольнасць.

Вось ужо восем месяцаў, як за кратамі знаходзіцца Алесь Бяляцкі. У першыя дні пасля яго арышту Саша Кулаева з FIDH сказала мне, што трэба абавязкова навучыцца пісаць яму лісты. Але я так і не навучыўся, хоць і стараюся пісаць іх шмат. Мне ўвесь час падаецца, што я пішу не тое і не пра тое, затое адчуваю вялікую радасць ад кожнага ягонага ліста. Нам усім вельмі не хапае Алеся Бяляцкага, якога раней мы ніколі не называлі «шэфам», а зараз называем. І нават адтуль, з-за кратаў, ён падтрымлівае нас больш, чым мы яго.

Хутка будзе «Вясна».

*Красавік 2012 года*



**2002.**

Падчас традыцыйнай дэмакратычнай акцыі «Дзень Волі» Аліна Стэфановіч, Валянцін Стэфановіч, Алесь Бяляцкі, Уладзімір Лабковіч, Юры Новікаў і Юры Чавусаў.

24 сакавіка.

*Аляксей Колчын*

## Размова

Гэты званок не быў нечаканасцю. 2006 год пачаўся досыць нервова, прэзідэнцкая кампанія суправаджалася павышэннем градусу ідыятызму ў стаўленні дзяржавы да апазіцыйных палітыкаў, няўрадавых арганізацый:ператрусы, адабранні тэхнікі і рэдкія, але дастаткова дэманстратыўныя пасадкі «на суткі» былі звыклай справай.

Таму, калі ў жніўні мне патэлефанавалі з КДБ і папрасілі «зайсці пагаварыць», я не здзівіўся. Дзівіцца трэба было хутчэй таму, што такіх спробаў не было раней — я ўжо з дзясятак гадоў належаў да тых, каго называюць апазіцыяй.

Нядоўга думаючы, я праігнараваў усё, што ведаў пра стасункі са спецслужбамі. Я лічыў (даволі саманадзейна), што ўжо дастаткова абазнаны, і паддаўся простай цікаўнасці.

Такім чынам, 29 жніўня 2006 года, званок з вэлкомаўскага нумара 60ххххх, «з управы КДБ», просяць зайсці пагаварыць не па тэлефоне. Спытаць П. Трус маладушна пагаджаецца з удавам, але злобна ўключае дыктафон мабільніка на запіс перад уваходам у буды-

нак КДБ і кладзе яго ў кішэню. Вырашаю, што мне, чэснаму грамадзяніну, саромецца няма чаго, сумленне мае чыстае, ну а ў выпадку чаго — буду падчас размовы касіць пад «прастога тармазнутага пацана».

Антураж: хол Магілёўскага ўпраўлення КДБ, летняя спёка і вулічны шум змяняе цішыня і прыемная прахалода, чынны бой гадзінніка. У холе нейкі гарадскі вар'ят размаўляе з дзяжурным. Прыходзіць *ён*. Удаў аказваецца смяшлівым маладзёнам гадоў трыццаці.

— Алексей Петрович?

*Дзекабрыст і жандар* праходзяць у пакой з назвай «Прыёмная», што размешчаны проста ля ўвахода, ячшэ да прахадной. Мусіць, каб такія «суразмоўцы», як я, не ўбачылі чаго лішняга ў гэбэшных калідорах. Ва ўбогім пакойчыку стаіць зашмальцаваны стол і пара крэслаў.

Ён:

— Здравствуйте.

— Здравствуйте еще раз.

Прадстаўляецца, паказвае пасведчанне (ст. лейтэнант П. Уладзімір Фёдаравіч). Тлумачыць:

— Отдел контрразведки.

Алексей Петрович, тут, значит, такой момент. До нас дошли слухи, что о вас наводит справки иностранная сторона, в частности американское посольство. Поэтому хотелось бы знать, в связи с чем оно наводит такие справки, ну как, какого плана, они не у нас наводят справки *(усміхаецца)*, а среди граждан республики, то есть кто вы такой, чем... ну, характеризующие, в принципе, данные, поэтому хотелось бы знать, может быть, у вас были какие-то проблемы с американской стороной, с правительством, с правоохранительными органами.

— Да нет... Были как-то... контакты у нас с отделом по... как это он называется... по культуре там это, обра-

зованию, что-то такое. Ну, короче, тот, который... в том числе и занимается...

— Аттошат по вопросам культуры.

— Да, на Герцена, который, или... да, на Герцена, мне кажется.

— То есть вы...

— Там была какая-то программа обмена, помню, там меня приглашали даже на собеседование. Что-то там говорили, не помню, сведения какие-то...

— То есть вы как студент тогда были или как?

— Я, наверное, как член общественной организации был приглашен. Году, наверное... в 2003, наверное, это было...

— А в какой вы организации?..

— В «Весне», в общем.

— «Весна», так?

— Тогда, по-моему, еще не закрыли... ну, обмены такие, как я понимаю, для...

— То есть у вас было желание выехать туда поучиться, или как?

— Там, насколько я помню, я уже плохо помню, честно говоря *(усміхаецца)*, примерно месячный срок стажировок таких, какие-то там поездки, знакомства с деятельностью там... подобных организаций в США.

— А вообще чем тогда «Весна» занималась?

— Правозащитной деятельностью.

— Правозащитной, да? То есть именно вот по какой-то юридической направляющей, да?

— Нет, там более общие вопросы были. Там вопросы... со СМИ, я помню, еще что-то... Какую-то я писал им анкету, я помню, ну, там... такая... стандартные вопросы.

— А вообще вот собеседование долго длилось?

— Нет, минут 15.

— А может быть, помните, кто там с вами беседовал?

— По-моему... такая полная дама... Диана, если не ошибаюсь, ее зовут.

— Диана?

— Да.

— Диана *(запісвае)*. А она как-то представлялась, она руководитель какого-то...

— Н-н-не Д. ли? Не помню, короче *(смяецца)*. Диана, так точно. Ну, ваши коллеги, если не вы, должны знать.

— Ну вот так вот... Она как-то представлялась, то есть какую она должность занимает, или просто представилась, что ее зовут Диана?

— Ну, да, наверное. Она... вот кем она представилась...

— Ну вот... курировать программу или?

— Наверное, да, она, может быть, там... не начальник ли этого отдела. Скорей всего. Ну, я так понял, что она там как бы... главный человек в этом отделе.

— А вот какие, какого характера вопросы она задавала?

— Очень общие и совершенно как бы... неподозрительные, скажем так *(усміхаецца)*. То есть почему я хочу поехать, например, там, какой я... что я для себя хочу приобрести в этих поездках, значит, что... какое образование, помню, спрашивали, что я заканчивал, опыт там какой имею в общественной работе.

— А вот спрашивали... ну вот именно спрашивали, ну вообще существует ли такая организация, нет, чем она занимается, да?

— Нет, этого они не спрашивали, конечно, они должны знать... Ну, такой довольно формальный опрос.

— Ну и как, вы прошли это собеседование или нет?

— Ну, побеседовали, и на этом все закончилось.

— А результаты какие?

— Никакие *(усміхаецца)*.

— М-м-м... ни ответа ни привета не было?

— Да. Ничего, в общем. Я сам не стал уже контактировать. Ну, может, не знаю, англоязычная программа, потому что английский мой не понравился, может...

— А вы так… достаточно слабый?

— Да, на институтском уровне, средненьком. Бытовом, можно сказать.

— А где вы учились?

— «Машинку» заканчивал.

— А вот после 2003-го какие-то контакты были с иностранной стороной?

— Вообще никаких.

— Вообще никаких.

— Ну, с ними.

— А с другими, может быть, организациями или представительствами там?

— Да нет таких… Не припомню, во всяком случае *(усміхаецца)*.

— Ясно *(усміхаецца)*. А вот сейчас, на данный момент, вы занимаетесь какой-то общественной деятельностью, не занимаетесь, есть ли у вас вообще вот… не обязательно там личные контакты, может, опосредованные с иностранной стороной?

— Ну, не знаю даже *(уздыхае)*. Сложно сказать, может быть, какие-то и были, не знаю.

— Хороший ответ *(усміхаецца)*. Я просто так думаю… обрисую круг вопросов, так? Круг интересов, точнее. Это иностранная сторона, то есть ваша правозащитная деятельность там, общественная организация, меня волнуют постольку поскольку, пока они не будут там, допустим, связаны с подготовкой терактов или еще чем-нибудь. Поэтому… я это говорю к тому, чтобы не было такого опасения, что вот, как у нас любят выражаться, позвали оппозиционера и сейчас тут прямо отсюда и увезут *(усміхаецца)*. Такого даже в мыслях нет, поэтому не волнуйтесь, нас интересует иностранная сторона. *(Пайза.)* Может быть, какие-то проекты у вас реализовывались, вы там приглашали иностранцев в страну или спонсорскую помощь хотели получить, может быть, в связи с этим связано, может, вы занимае-

тесь обменом, своих коллег вывозите за рубеж или, по крайней мере, делаете протекцию.

— Да нет... вряд ли чем-то помогу.

— В плане... Вряд ли поможете, потому что не хотите или не знаете *(усміхаецца)*?

— Ну, скажем так, не помню *(уздыхае)*.

— Хороший ответ — «не помню» *(усміхаецца)*.

— Ну, во всяком случае, никаких контактов, могущих вызвать подозрения такого толка, у меня никогда не было *(усміхаецца)*.

— Какого толка подозрения *(смяецца)*?

— Ну, о которых вы говорили.

— Ну я признаю, что контакты какого-то толка могут вызвать подозрения. Я пока в общем хочу выяснить круг ваших контактов с иностранной стороной, я еще раз подчеркну: не с нашими представителями общественных организаций, политических партий, не с вашей связанных деятельностью, правозащитной, а именно вот контакты с иностранной стороной. И исходя из этих контактов, обрисовать, почему все-таки к вам проявили интерес.

— Ну, даже не знаю, что вам сказать, честно говоря.

— Скажите правду *(усміхаецца)*. Постарайтесь вспомнить: может, какие-то были все-таки контакты после 2003 года? Допустим, с иностранной стороной. *(Паўза.)* Для вас никакой угрозы, для вашей деятельности, для вашей организации, какую бы вы сейчас ни возглавляли, чьей бы сейчас ни были членом, это не несет.

— С американцами так я вообще не встречался...

— Может быть, вы участвуете в каких-то совместных проектах с другими организациями, которые пытались получить там... те же гранты... Потому что, насколько я понимаю, сюда они не сильно горят желанием ехать, в основном заканчивается все финансовой помощью в лучшем случае *(усміхаецца)*, в худшем еще

скажут, что молодцы, действуйте так и дальше *(усміхаецца)*. Все понятно, что... как бы... местных источников финансирования у организации нету *(усміхаецца)*. Вы не скрываете этого... Все это прекрасно понимают, поэтому в основном приходится, как я понимаю, обращаться за получением какой-то финансовой помощи. Другое дело, что эти вот интересы могут быть обусловлены не только желанием стать наблюдателем, пригласить на семинары куда-то, могут быть обусловлены и вопросами, связанными с контрразведкой. Может быть, просто вы как неспециалист...

Все же не сводится к тому, чтобы получить какие-то секретные сведения, тем более что их у нас не так много, этих секретных сведений, и, по большому счету, наверное, что хотели иностранные страны, то уже вынесли все наши секреты. Остается только необходимость вовремя узнавать там ту же социально-политическую обстановку, как она развивается. То есть, может быть, к вам даже и не было никаких там вопросов, касаемых этого, но, может, вполне возможно, раз вы, я так понимаю...

— Надо ждать *(усміхаецца)*?

— Вполне возможно *(усміхаецца)*. Ну, раз вы достаточно активный член общественной организации были, наверное, достаточно активно участвовали, раз проходили даже собеседование... То есть в любом случае... вы для них не пропали бесследно *(смяецца)*. Наверняка там остались какие-то анкетные данные и тому подобное. И может быть, с этим и связано. Такой интерес иностранной стороны. Ну, просто хотелось бы с вашей помощью внести в этот вопрос ясность и... наверное, процентов на 90, что он просто закроется сам по себе.

— Ну, не знаю, чем я могу ясность внести.

— Ну, ясность просто... может быть, все-таки вспомните *(усміхаецца)*, были какие-нибудь контакты или не были контакты.

— Может быть, были... Не вспомню, честно говоря.

— Ну я не думаю, что вы каждый день встречаетесь *(усміхаецца)* с иностранцами, поэтому... может, забыли.

— Нет, не помню.

— *(Смяецца.)*

— Нет, не помню... Возможно, были *(уздыхае)*... Может... контакты какие-то...

— Ну, чувствуется, что человек... *(усміхаецца)* юридический. «Может быть, возможно» *(смяецца)*. Ну а сейчас вы какой-то общественной деятельностью занимаетесь?

— Ну, так... не очень активной.

— А почему, нету времени свободного или просто не удается заниматься?

— Ну, не знаю даже...

— Ясно. Ну вот вы сейчас какой-то организации членом являетесь или сами что-нибудь возглавляете?

— БНФ являюсь... и движения, и партии... Хотя партии — не уверен, там какие-то проблемы были юридические.

— Партии какой?

— БНФ. Движения так точно, ну, общественной организации.

— Ясно. Ну а в проекции лично вашей деятельности, какой вы занимаетесь, направленность... ну там, оказание там... правовой помощи...

— Да нет, какая там правовая помощь... Юрист я слабенький... Скажем так.

— А вы по образованию юрист или нет?

— Нет. Электрик.

— Электропривод?

— Да, электропривод заканчивал *(пазяхае)*.

— Я в свое время тоже заканчивал электропривод *(усміхаецца)*.

— Почти коллеги...

— Ну да *(усміхаецца)*.

— Ну, не знаю, там во время избирательных кампа-

ний кое-какая деятельность была... Собрания. Иногда ходим.

— Чисто такая политическая деятельность.

— Ну...

— Ясно, а вот, допустим, вот про какие-нибудь проекты БНФ... Ну, в принципе все же ж понимают, я еще раз повторюсь, что здесь источников финансирования нет. Были ли попытки получить такие, ну, финансы через еще какие-то структуры. Я не интересуюсь там их размерами и далее куда их направили. Просто как сам факт — было, не было.

— Ну, мне ничего об этом не известно *(уздыхае)*. Уж с моей-то стороны точно не было, а там со стороны руководства — не знаю *(усміхаецца)*.

— Ясно. А вы как получаетесь, как рядовой член или ближе к верху *(усміхаецца)*?

— Рядовой *(усміхаецца)*. Не в руководстве, во всяком случае, никаком.

— Ясно. А с сотрудниками посольства общались? Допустим, перед проведением кампаний, в период их подготовки? Ну я просто предлагаю один раз поговорить откровенно…

— Общаться я с ними не общался...

— ...и забыть о нашей *(усміхаецца)* встрече.

— Встречаться я мог бы знаете где — на Конгрессе, во. Я был делегатом уже...

— Это когда?..

— Э-э-э... Демократических сил. Осенью прошлого года. Сентябрь, по-моему.

— А где он проводился, в Минске?

— В Минске, там... в ДК... МАЗа, по-моему. Да, МАЗа.

— А, это когда шумиха была, что помещения не выделяют?

— Да-да-да-да. Вот там были сотрудники посольств. Там много всяких дипломатов было *(смяецца)*. Так... *(Успамінае.)* Нет, во время кампании точно не было.

— А после?

— И после не было *(смяецца)*.

— Понятно. А когда вы в последний раз дозванивались в посольства?

— Да я... вообще-то не звонил в посольства. Вроде.

— Точно?

— Ну, не знаю, может быть, в польское, по поводу визы?

— А вам была нужна виза?

— Ну, я собирался... Делать, вернее. Не получил, к сожалению...

— По общественной линии?

— Я вот не знал, я вот хотел узнать как бы... Какую мне лучше, может, туристическую... Ну знаете, а вдруг подвернется поездка в Польшу.

— Понятно, ну, а так вы выезжали за границу куда-нибудь?

— Выезжал...

— А когда примерно?

— Выезжал... В Швеции я был... В 2000-м, наверное.

— ?

— Это была какая-то партнерская, по-моему, поездка, если не ошибаюсь... И вот мы ездили... Показывали нам там разные общественные организации... В Стокгольме в основном... Вот. Еще я был в Германии. Наверно, в следующем году.

— Это в 2001-м?

— Да... Там тоже были какие-то семинары.

— А кто их организовывал?

— Вот это я вам не скажу *(усміхаецца)*. Не помню, даже не помню кто. Помню, что это были сначала семинары в Минске, а потом там...

— А может быть, вспомните организацию — немецкая, американская...

— Не, организация-то немецкая была, это точно там... а-а... вот что там... Ну так точно.

— А тематика какая семинара?

— Там было что-то о политических технологиях. Ну, там такие вещи, как кампании там... Там для молодежи это было...

— Ясно. Что там еще было?

— Была пара поездок в Польшу... Уже не помню.

— Но тоже по линии общественных?..

— Что-то такое, да *(усміхаецца)*.

— Что-то такое так... Расплывчато так *(усміхаецца)*.

— Ну таких, каких-то там... (*Усміхаецца.*) Внимания к своей персоне не замечал, например *(смяецца)*.

— Ну, это же... Там работают такие же люди, как и здесь, и... необязательно должно быть заметно это внимание *(усміхаецца)*.

— Ну, это понятно, — профессионалы.

— В любом случае вы для них (ну, я так, в общем) являетесь именно той категорией людей, на которых они могут при необходимости положиться. Я не говорю вам, что на всех...

— Ну, в каком смысле положиться?

— В том смысле, что... Нельзя же сказать, что 100 процентов деятелей общественных организаций являются патриотами. Ну так же, как, в принципе, и в любой другой там... на заводе, еще где-то. Что являются настоящими патриотами, которые при необходимости... *(усміхаецца)* для своего личного обогащения или для решения своих личных проблем... оказывают помощь той же иностранной стороне в ущерб национальным интересам республики.

— Ну, может, и есть [...]

— Это как бы... внести ясность. Конечно же, нельзя сказать, что все завтра же надумают совершить измену Родине *(усміхаецца)*. Такова жизнь. Поэтому... Наверняка вас там изучали. Недаром же вы столько анкет везде заполняете *(усміхаецца)*, тестов проходите... Было же, что тесты проходили... Там с вами кто-то беседует,

вы сами не в собственном соку там варитесь. Ну, вернемся к насущным проблемам. А вот есть такая, как вам известно, БНФ какие-то… как структура, как, может быть, отдельные лица имеют сейчас контакт с иностранной стороной или нет?

— Я даже и не знаю… Я от активной деятельности отошел, так что, в общем… Наверно, есть какие-то контакты, уж совсем-то никаких не может быть, чтоб не было контактов…

— Так, ладно тогда.

— …они там активно интересуются ситуацией…

— А какого плана, в связи с чем вы отошли от активной деятельности? То есть, может, вот… Вот вы где сейчас работаете?

— Я индивидуальный предприниматель.

— Индивидуальный предприниматель. Может, вы… какое-то давление на вас оказывалось, или вы просто по своим личным убеждениям…

— Да нет, я больше занимался в «Весне» *(пазяхае)*, поэтому отошел от такой… митинговщины.

— То есть вас как бы не устраивает сейчас направленность этой деятельности?

— Ну, не могу сказать, что не устраивает, просто пришли другие люди, более активные, которые сейчас занимаются… Как-то не испытываю я пока желания особо активно участвовать, помогать, но и мешать тоже… не хочется. Так что…

— Понятно. Хорошо, Алексей Петрович, спасибо вам. В принципе, не все прояснили, что, но…

— Если будут вопросы, обращайтесь.

— То есть можно, да, к вам обратиться, вы сразу не пошлете?

— Ну, мало ли что… Вдруг вы найдете там какого-нибудь… агента, который меня хочет завербовать *(смяецца)*.

— Что, желательно тогда… помочь торговаться *(смяецца)*?

— Если ко мне, у меня какие-то, конечно, будут такие контакты вдруг...

— Может, вы что-нибудь вспомните...

— ...будут, то я, конечно, к вам обращусь обязательно.

— *(Смяецца.)* Ну хорошо. Ну что, спасибо большое, что у вас есть время...

— Не за что.

— И еще. Просьба, если это, конечно, вам не в тягость, о сути беседы не распространяться. Спасибо.

Пасля гэтай размовы старэйшы калега параіў мне спыняць спробы такіх кантактаў адразу, без усялякіх ваганняў. Я ведаў гэта і сам. Спрабаваць граць на полі гэбістаў — справа няўдзячная, што і пацвердзіў лейтэнант П., лёгка загнаўшы мяне ў кут з першых пытанняў.

Больш «рыцары плашча і кінжала» мяне не турбавалі. Напэўна, палічылі неперспектыўнай далейшую распрацоўку. Але халодная службісцкая «рука на пульсе» нашага аддзялення ніколі не знікала. Спецслужбы час ад часу праяўлялі сваю ўвагу: напрыклад, дэманстратыўнай наружкай падчас нашых акцыяў, ці выклікамі валанцёраў на размовы, альбо апрацоўкай нашых кліентаў, якім даводзілі, што праваабаронцы на іх «піярацца»...

Ходзяць чуткі, што аддзел, які займаецца «апазіцыяй», лічыцца сярод чэкістаў самым непрэстыжным. Так і бачыцца, як дзесьці ў гэтым будынку за шторамі сядзіць у кабінеце адзінокі лейтэнант і час ад часу дастае з паліцы чэзлую папачку, каб пакласці ў яе чарговы рапарт пра дзейнасць **«антигосударственных деструктивных группировок, прикрывающихся правозащитной риторикой».**

*Люты 2016 года*



**2003.**

Пратэст праваабаронцаў у зале паседжанняў Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь з нагоды пазбаўлення ПЦ «Вясна» афіцыйнай рэгістрацыі. Сядзяць на падлозе Валянцін Стэфановіч,
Зміцер Салаўёў, Аляксей Колчын, Мікола Лемяноўскі, Алег Жлутка, Уладзімір Вялічкін, Алесь Бяляцкі.

28 кастрычніка.

*Зміцер Салаўёў*

# Пра «Мінімальны спажывецкі бюджэт аспіранта», аб чым думаюць навукоўцы і шмат што іншае

Што для мяне «Вясна»? У першую чаргу гэта ўвасабленне змагання за справядлівасць. Так, мабыць, і прыйшоў я да правоў чалавека праз патрэбу ў справядлівасці — як кажуць, абвостранае пачуццё справядлівасці.

Мабыць, гэта ў мяне ад бацькі — ён, колькі памятаю, ніколі ў жыцці па слова ў кішэню не лез, рэзаў праўду ў вочы, як што не так. Не на палітычным, зразумела, узроўні — не тыя былі гады, хаця на пачатку дзевяностых быў і бацька мой спачуваючым франтаўцам. Але заўсёды быў ён прынцыповы.

Вось і я ў школьныя гады і ў студэнцтве (у дзіцячы садок і не хадзіў) усё ніяк не мог стрываць хоць якую несправядлівасць — нешта грызла ўнутры і не давала спакою. Ці, можа, кніжак абчытаўся шмат — у нас неблагая такая бібліятэчка сабралася (збіралася, зразумела, за савецкім часам, і досыць шмат там было пра

піянераў-камсамольцаў-герояў ды змагароў супраць эксплуататараў).

Першую публічную спробу дамагчыся справядлівасці памятаю ў студэнцтве, калі курсе гэтак на чацвёртым узняў я факультэт па справе карупцыі ў органах студэнцкага самакіравання. Быў у нас такі дзіўны хлопец, каторы вельмі ўжо любіў розныя грамадскія пасады і набраў іх столькі, што ўсе аж ад смеху давіліся — ці то 11, ці 13 іх было: стараста групы, ён жа стараста курса, ён жа сябра савета факультэта, сябра савета ўніверсітэта, стараста пакоя ў інтэрнаце, блока ў інтэрнаце, паверха ў інтэрнаце, сябра рады інтэрната. І па прафсаюзнай лініі — прафарг групы, курса, факультэта. І вось менавіта з прафсаюзнай пасады, прафарга факультэта, мы яго і скінулі — вельмі ўжо няроўна дзяліў нешматлікія прафсаюзныя даброты. Збольшага гэта былі пуцёўкі ва ўніверсітэцкі прафілакторый, дзе можна было, прынамсі, хоць тры тыдні нармальна пад’есці. І вось выбілі мы агромністую патокавую аўдыторыю на вечар, сабралі студэнтаў і скінулі «актывіста» з пасады. І абралі замест яго прафсаюзнае бюро — па два чалавекі ад кожнага курса. Вось такая была першая ўдалая спроба пабудовы студэнцкага самакіравання на прынцыпах дэмакратыі.☺

Праўда, хлопец, каторы ўзначаліў новае бюро, хоць кіраваў і дэмакратычна, праз пару год павёўся на абяцанкі гарвыканкама і ўзначаліў гарадскую арганізацыю БПСМ (зараз перайменавана ў БРСМ, але ён даўно ўжо нічым не кіруе, хапіла розуму кінуць гэта і сумленна працаваць у іншым месцы). А я на той час ужо ўзначальваў Наваполацкую гарадскую арганізацыю «Маладога фронту» і смела прасоўваў дэмакратычныя каштоўнасці ў студэнцкае і аспіранцкае жыццё нашага ўніверсітэта. І сышліся мы на ідэалагічным фронце — быў гарадскі турнір па інтэлектуальных гульнях «Што? Дзе? Калі?» (клуб той я якраз і ўзначальваў), а гарвы-

канкам у асобе намесніцы старшыні па ідэалогіі Туранок вырашыў нас падмануць і не паведаміў увогуле, што прызы для турніру набывае БПСМ. За некалькі дзён я даведаўся пра махінацыі і, натуральна, адмовіўся весці той турнір. Усчаўся вэрхал, пачалі шукаць новага вядучага, і адзін сябра нашага клуба пагадзіўся. Але самыя моцныя каманды — куды ўваходзіла і наша каманда будаўнічага факультэта «Дойлід» — адмовіліся ўдзельнічаць у гэтай прафанацыі. Некалькі каманд, калі было агучана, што турнір з прызамі ад БПСМа, дэманстратыўна падняліся са сваіх месцаў і пакінулі залу. Так і стаялі пустыя сталы да канца гульні. Было гэта добрай акцыяй, а мы пасля на савеце клуба і замацавалі дадаткова рашэннем, што ніколі клуб інтэлектуальных гульняў у палітычна-ідэалагічныя стасункі з бэпээсэмаўцамі ўлазіць не будзе. Так і было шмат гадоў.

Калі я паступіў у аспірантуру, засталося ў памяці, як сабраў нас прарэктар па навуцы Ліпскі і пачаў «вучыць жыццю»: вам, маўляў, дадзены такі шанец, рухайце навуку, пішыце дысертацыі. І нават фразу такую ўвярнуў: «Заўсёды зараз на працягу некалькіх гадоў, кожны дзень, дзе б вы ні былі, што б вы ні рабілі, — калі вы працуеце ці адпачываеце, нават калі вы з жанчынай, — вас мусіць мучыць толькі адна думка: я зараз не пішу сваю кандыдацкую дысертацыю». Доўга мы жартавалі з такога «пасажу» і зараз не забыліся; калі сустракаю сваіх сяброў — былых аспірантаў — усе памятаюць. Вось узброеныя адным такім «наказам», замест рэсурсаў на даследаванні, як нашы дзяды ў 1941-м, узброеныя праз аднаго дубінамі замест зброі, пачалі мы рухаць навуку наперад. Даходзіла да смешнага — на адным паседжанні кафедры падняўся стары дацэнт і кажа: «А што гэта думаюць сабе нашы аспіранты, не здабываюць матэрыял на свае навуковыя ўзоры? Вось я, калі быў маладым аспірантам, напаіў быў цэлы цэх

упокат, і яны мае канструкцыі навуковыя зрабілі». Я тады падняўся і запытаў, дзе ўзяць столькі гарэлкі, каб перапаіць увесь Беларускі металургічны завод, хай сабе і не ўпокат, а хоць трошачкі, бо там тысяч 15 чалавек працуе, каб яны пракаталі вопытную партыю патрэбнай для даследаванняў спецыяльнай арматуры. Зашыкалі тады на мяне злосна, як магу старэйшых крытыкаваць.

Для абароны сваіх аспіранцкіх правоў заснавалі мы былі грамадскую арганізацыю «Наваполацкая асацыяцыя маладых навукоўцаў», ды нешта дзейнасць нашая не вельмі кіраўніцтву падабалася. Памятаю, пачала была адміністрацыя ўніверсітэта нейкую дзіўную кампанію агітацыі кафедраў, каб аспірантаў паадлічвалі, бо яны, нядобрыя такія, не абараніліся за пару год паскоранымі тэмпамі і паказчыкі справаздачныя не паляпшаюць. Вось тады сеў я за камп'ютар і распрацаваў «Мінімальны спажывецкі бюджэт аспіранта» — колькі чаго патрэбна аспіранту, каб не тое што шыкаваць, а з голаду і холаду не загнуцца. Уключыў я ў той «бюджэт» адно паліто на дзесяць год, боты на два гады, шапку недзе на пяць, шкарпэтак няшмат на год — можа, пары з тры. Падзяліў кошт кожнай рэчы на колькасць месяцаў, колькі яна будзе выкарыстоўвацца, атрымалася, колькі трэба кожны месяц на гэтую рэч ашчаджаць. Да рэчаў дадаў трохі ежы — зразумела, што не з рэстарацыяў, а па коштах студэнцкай сталоўкі. А таксама мыла кавалак ды шампуню флакон на месяц — бо інтэлігентныя ўсё ж такі людзі, ахайныя. Пасту зубную, мабыць, таксама. І быў той бюджэт з гендарнай роўнасцю — для аспірантаў жаночага полу былі прадугледжаныя спецыяльныя гігіенічныя сродкі. А як мы былі ўсе маладыя і не заўсёды карысталіся разумнай парадай прарэктара думаць толькі пра дысертацыю, то былі запланаваныя на месяц хлопцам і колькі пачкаў прэзерватываў, а дзяўчатам супрацьзачатачныя пі-

гулкі тыпу «Трыквілар». У суме «Мінімальны спажывецкі бюджэт аспіранта» атрымаўся ў некалькі разоў большы за нашыя аспіранцкія стыпендыі. І вось калі неяк на агульным паседжанні выступіла адміністратар Самойлава, каторая прапаноўвала аспірантаў павыганяць, а паказчыкі такім чынам палепшыць, я падняўся і ўголас абодва варыянты «Мінімальнага бюджэту», жаночы і мужчынскі, і зачытаў. З прэзерватывамі і супрацьзачатачнымі пігулкамі ўключна. Ужо нават не памятаю, што сказала мне кіраўніцтва і ці паўплываў такі дэмарш, але на кафедрах былі людзі нармальныя і разумныя і прапанову па адлічэнні аспірантаў не падтрымалі.

А можа, калі-небудзь прачытаюць гэтыя радкі дзеці маіх сяброў-аспірантаў, пасміхнуцца і падумаюць, што, можа, і добра, што ў таты не заўсёды хапала грошай на прэзерватывы, а ў мамы на той «Трыквілар», — бо інакш іх магло і не быць.☺

*Красавік 2012 года*




**2004.**

На чарговым кангрэсе Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) ПЦ «Вясна» становіцца асацыяваным сябрам арганізацыі. Валянцін Стэфановіч (другі справа), генеральны дырэктар Антуан Бернар (крайні злева). Рэспубліка Эквадор, г. Кіта.

6 сакавіка.

*Уладзімір Вялічкін*

# Надзея на адраджэнне

Для мяне «Вясна» — гэта надзея на адраджэнне, адраджэнне Беларусі як прававой, самастойнай, еўрапейскай дзяржавы са сваёй унікальнай нацыянальна-культурнай адметнасцю.

Мне старшыня і заснавальнік арганізацыі Алесь Бяляцкі запомніўся па трох, здаецца, дробных, а на маю думку — істотных момантах.

**Момант першы**

17 кастрычніка 1999 года. У Мінску праходзіў «Марш свабоды — I». З плошчы Якуба Коласа шматтысячная калона пад бел-чырвона-белымі сцягамі рушыла на плошчу Бангалор, дзе распачаўся мітынг, на якім выступалі дэпутаты Вярхоўнага Савета Мікола Статкевіч і Анатоль Лябедзька, адзін з кіраўнікоў БНФ Вінцук Вячорка і кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі. Пад канец выступаў публічна быў спалены тэкст дамовы аб утварэнні беларуска-ра-

сійскага саюза, падпісанне якога было прызначана на 31 кастрычніка.

Неўзабаве на даху аднаго з бліжэйшых будынкаў я ўбачыў, як нехта ў адмысловым мундзіры перакаціўся, прычым у гэты момант над ім выразна была бачна вінтоўка... Не ведаю, у каго з траіх (Лябедзьку, Вячорку ці Бяляцкага) снайпер меў загад стрэліць. Я мусіў на поўны голас крыкнуць і паказаць пальцам іншым: «Снайпер, сука!» Уцяміўшы, што яго выкрылі, снайпер перастаў хавацца, падняўся на ногі і закінуў вінтоўку на плячо. Там быў яшчэ адзін, без доўгай зброі, і ўдвох рабілі выгляд, што нічога не адбываецца, і сушылі адзін да аднаго зубы, нібыта ўхмыляючыся...

**Момант другі**

28 кастрычніка 2003 года завяршыўся працэс па ліквідацыі грамадскага аб'яднання «Праваабарончы цэнтр "Вясна"». У судовым працэсе ўсе прэтэнзіі Міністэрства юстыцыі былі адрынутыя судом як беспадстаўныя, і ўсё ж «Вясна» была зліквідаваная, зліквідаваная па выразна палітычнай фармуліроўцы «за грубыя парушэнні беларускага заканадаўства падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2001 года». Сябры грамадскага аб'яднання «Праваабарончы цэнтр "Вясна"», абураныя несправядлівым рашэннем Вярхоўнага Суда, у знак пратэсту з крыкамі «Ганьба!» і «Вясна!» выйшлі на сярэдзіну судовае залы і ўселіся на падлогу.

Алесь Бяляцкі так пракаментаваў гэтае рашэнне: «Мінула два гады — і раптам узгадваюць гэтае парушэнне і караюць нас яшчэ раз. Гэта несправядліва і незаконна».

Алесь Бяляцкі, Уладзімір Лабковіч, Валянцін Стэфановіч, Алег Жлутка, Мікола Лімяноўскі, Зміцер Салаўёў, Аляксей Колчын і я сядзелі на падлозе судо-

вай залы і моўчкі пратэставалі супраць несправядлівага, на нашу думку, рашэння суддзі. Суддзя спешна дачытала рашэнне аб ліквідацыі грамадскага аб'яднання «Праваабарончы цэнтр “Вясна”» і імкліва пакінула залу. Было 14:45. З гэтага часу пачалася акцыя пратэсту, якая доўжылася да 17:30. Паступова прысутныя грамадзяне і карэспандэнты былі выціснуты з судовае залы.

Калі сцямнела, супрацоўнікі 1-й роты АМАПа ў цывільным выдалілі ўдзельнікаў акцыі з будынка Вярхоўнага Суда. Іх надзейныя рукі з 3-га паверха будынка і праз унутраны дворык знеслі затрыманых і ўладкавалі ў аўтобус, напоўнены амапаўцамі. Мушу адзначыць, што нас неслі вельмі далікатна, кожнага па два амапаўцы, нікога ні за што не зачапілі, не падрапалі, нават не далі нагамі зямлі дакрануцца.

Калі апошні затрыманы быў уладкаваны ў аўтобус, па міліцэйскай рацыі пачулася: «Всем 02 — отбой!», хтосьці з амапаўцаў у аўтобусе сказаў: «Можаце ганарыцца — аперацыяй кіраваў генерал».

Нас, васьмёра затрыманых, даставілі ў РУУС Ленінскага раёна, дзе на кожнага склалі пратаколы па арт. 166 Адміністрацыйнага кодэкса «Непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі», знялі адбіткі пальцаў, а таксама зрабілі здымкі з вопісам знешняга выгляду для картатэкі ў анфас і профіль. Праз тры гадзіны ўсе ўдзельнікі акцыі пратэсту атрымалі позвы ў суд і былі адпушчаныя да суда.

На парозе РУУСа нас сустрэлі калегі-«вясноўцы» з канапкамі, якія былі якраз дарэчы.

### Момант трэці

У 2011 годзе падчас майго візіту ў паліклініку да лекара зазірнула загадчыца тэрапеўтычнага аддзялен-

ня: «У мяне УЗІ прастойвае, давайце я вашага кліента пагляджу...» У выніку — падазрэнне на рак ныркі, у анкадыспансеры прызначылі дзень абследавання (праўда, нікуды не спяшаліся) і прызначылі аперацыю на 1 красавіка (усе паслугі за мой кошт (лекі, вопратка, бялізна, абследаванне і яшчэ нешта)). Я прывёў зямныя справы ў парадак, пазваніў Алесю і падзякаваў за плённую супрацу. «Што-небудзь прыдумаем», — сказаў ён. 8 сакавіка звоніць Алесь: «9-га ў Бараўляны...» Абследавалі. «Ніякіх аперацый! Вы малады здаровы мужчына», — кажа лекарка. ?!! Пабачыла, што я нечага не разумею, і паўтарыла гэта некалькі разоў. Мне ўспомніўся нядаўні артыкул у мясцовай прэсе, што ў абласных цэнтрах плануецца адкрыццё цэнтраў па трансплантацыі органаў. Брэст спецыялізуецца на нырках. У красавіку ў той жа газеце з'явілася інфармацыя, што адкрыццё аддзялення трансплантацыі ныркі пераносіцца на пазнейшы тэрмін. Каб не Алесь, быў бы з мяне не праваабаронца і апазіцыянер, а яшчэ адзін інвалід.

Падчас «прафілактычных» гутарак, затрыманняў, судоў і пасадак нам, праваабаронцам, даволі часта даводзіцца чуць ад розных службовых асоб і супрацоўнікаў МУС і КДБ, што з такімі поглядамі трэба эміграваць... Гэтыя структуры наўмысна ствараюць многім з нас і нашым сем'ям невыносныя ўмовы жыцця на Радзіме, каб толькі нас у Беларусі не было. Вось і Алеся Бяляцкага паставілі перад выбарам: эміграцыя або турма, але сапраўдны беларус Радзіму на эміграцыю не прамяняе. Чатыры з паловай гады за любоў да Радзімы, за праваабарончую дзейнасць. Алесь мужна вытрымаў беспадстаўны тэрмін, не зламаўся, стаўся яшчэ больш шанаваным і годным чалавекам.

Пасля 20 гадоў супольна перажытых падзей і супрацы я ведаю і перакананы, што Алесь Бяляцкі — сапраўдны лідар і праваабаронца, кіраўнік і надзейны сябра, які ні пры якіх умовах не здрадзіць і не пакіне ў патрэбе ні сябра, ні краіну. На сённяшні дзень Алесь Бяляцкі — гэта гонар і годнасць Беларусі, прыклад для суайчыннікаў.

Бяляцкі і ёсць «Вясна», надзея на адраджэнне...

*Ліпень 2012 года*




**2005.**

Сябры ПЦ «Вясна» ў Гродне каля бюста Адама Міцкевіча і будынка грамадскага аб'яднання «Саюз палякаў Беларусі» на знак падтрымкі, бо 12 траўня Міністэрства юстыцыі Беларусі скасавала вынікі выбараў VI з'езда СПБ, адбыўся раскол арганізацыі.

21 траўня.

*Віктар Сазонаў*

# Гонар эпохі

Калі з Малдовы падчас выбараў сталі выкідваць, як непатрэбныя рэчы, міжнародных назіральнікаў, хтосьці з нашых сярэднеазіяцкіх калегаў са шчырай усмешкай на загарэлых скулах падмеціў:

— Ад пачатку было ясна, што ў гэтай краіне нас доўга цярпець не будуць. Бо сярод нас багата дасведчаных спецыялістаў. Нават «вясноўцы» з Беларусі ёсць. А гэтыя ж усё раскапаюць. Гэтыя ні адно парушэнне не прапусцяць. А аўтарытарнай уладзе гэта сто год не трэба. Вось і выкінуць нас адсюль з такой прыткасцю і нянавісцю, з якой кухар саліднага габрэйскага рэстарана выкідае кавалак некашэрнага мяса.

І хоць гэта было сказана напаўжартам, каб размову завязаць, я тады адчуў незвычайны гонар за арганізацыю, да якой належу. Аж нос задзёрся ў неба, не зважаючы на тое, што гарачае паўднёвае сонца ўжо добра намуляла мае паўночныя вочы сваім навязлівым сэрвісам. Я ўсміхнуўся свайму азіяцкаму калегу, і мы зацягнуліся смачным і дурманячым цыгарэтным дымком. Я тады не падазраваў яшчэ, што зусім хутка курыць кіну. Нават з ранішняй кавай. Ды пра гэта пасля.

А зараз я павінен унесці папраўку да сказанага маім азіяцкім калегам. І хоць мая папраўка не прэтэндуе заняць сваё месца ў «Білі аб правах», усё адно ў імя справядлівасці яе таксама трэба ўспрымаць сур'ёзна. Да гонару іншых, мы, «вясноўцы» з Беларусі, былі не адзіныя, каго тады выперлі з Малдовы. Грузінскіх назіральнікаў нават з самалёта не выпусцілі, нібы тыя былі якія заразныя. Не далі хоць адной нагой ступіць на надзвычай гасцінную і прыветную малдаўскую зямлю з яе добразычлівымі жыхарамі і не менш прыемным пры блізкім знаёмстве белым, чырвоным ды чорным віном хатняга вырабу і каляхатняга разліву.

Многія пасля жартавалі, што ўлады тагачаснай Малдовы хіба падумалі, што ў грузінаў свайго віна хапае. І добрага. Таму, каб тыя не зрабілі ў прысутнасці міжнародных назіральнікаў з усяго свету публічнага параўнання вінаў на карысць «Кіндзмараулі», зробленага са спелых гронак вінаграду гатунку сапераві, іх і выперлі з краіны абсалютна цвярозымі.

Але гэтыя жарты былі пасля. А ў той момант, калі ля нашых начлегаў хадзілі нейкія невядомыя людзі з дубінамі ў наколатых руках і на ўсё горла пасылалі нас туды, адкуль мы прыехалі, было не да жартаў. Бо ў адваротным выпадку яны абяцалі пераламаць нам тыя часткі цела, на якіх мы пакуль што можам уцячы.

Не лепшым чынам абышліся і з украінскімі назіральнікамі. Расказвалі, што іх гвалтам вывезлі праз мяжу і выкінулі ў кукурузным полі без асабістых рэчаў і сродкаў для ранішняга лячэння ад таго, чым так ганарыцца малдаўская спажывецкая вытворчасць і чаго так і не змаглі набыць сабе хоць бы ў якасці доказу свайго наведвання Малдовы грузіны.

Але ж як выганялі нас, беларусаў, то гэта была байка! Хіба нікога так весела і настойліва не прасілі вярнуцца туды, адкуль яны родам, як нас.

Аднаго дня я заўважыў, як супрацоўнікі малдаўскіх

спецслужбаў прыйшлі ў гатэль у слаўным і гасцінным горадзе Бельцы, дзе мы начавалі, і ўсё вынюхвалі ў служачых гатэля, што мы за беларусы. Чым мы там дыхаем, так бы мовіць. Ці мы думаем працаваць сумленна, ці толькі нумар адбыць. Відаць, і такіх назіральнікаў яны сустракалі, што толькі нумар адбываюць. Хіба што прысланых па лініі Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Такая ў іх садружнасць хіба, не заўважаць махлярства на выбарах адзін у аднаго. І па гладка паголеных тварах тых спецслужбоўцаў адразу было бачна, што ім больш даспадобы тыя, ад СНД.

А яшчэ было бачна, што яны лічаць, нібыта такая ўлада, як у сённяшняй Беларусі, вельмі пасуе і для іх малдаўскіх геаграфічных шырот. Вось толькі як зразумелі, што мы ўсяго толькі за выбары без парушэння нацыянальнага заканадаўства і ў Беларусі, і ў Малдове, і ва ўсіх астатніх кутках свету, куды нас закідваў злы лёс і добрае кіраўніцтва, то адразу прынялі радыкальныя меры. Хоць мы ім і тлумачылі, што і ў іхнім выбарчым заканадаўстве нідзе не напісана, што на выбарах старшыням і шараговым сябрам выбарчых камісій абавязкова трэба махляваць, а супрацоўнікам спецслужбаў трэба сачыць, каб ніхто гэтага факту падману і фальсіфікацый не зафіксаваў: ні свае назіральнікі, ні міжнародныя.

Частку нашых назіральнікаў вытурылі з гатэля яшчэ ўночы, не даўшы нават як належыць пралупіць тыя органы, якімі яны і збіраліся назіраць. А свежым сонечным ранкам узяліся за астатніх. Мы злятаелі з гасціннай той зямелькі на першым жа самалёце, які толькі змог падняцца ў блакітнае неба СНД. Хоць нам туды сто гадоў не трэба было, бо ляцеў ён да Масквы. І як мы прызямліліся там, то аказалася, што ад Беларусі мы знаходзімся яшчэ далей, чым да ўзлёту.

Ды быў у тым, як ні дзіўна, адзін станоўчы момант. Пакуль мы ляцелі над шырокімі прасторамі былога

СССР, узнікла мажлівасць зрабіць тое, на што ў звычайнай мітусні вечна бракуе часу, — спакойна паразважаць пра жыццё. Тым больш што ў мяне іншага занятку не было, бо, як назло, цыгарэты скончыліся.

Лячу сабе і разважаю пра рэчы розныя, каб курыць не хацелася. А з галавы не вылазіць малдаўскі шафёр, што вазіў нас, назіральнікаў, па выбарчых дзяльніцах сонечнай Малдовы.

— Хлопцы, — казаў ён праз слёзы, — гэта найгоршы дзень у маім жыцці. Я так спадзяваўся, што пасля гэтых выбараў Малдова абярэ нарэшце свой шлях. Але зараз бачу, што як выганяюць міжнародных назіральнікаў, то справядлівых выбараў не будзе. Бо гэта галоўны паказчык — наяўнасць справядлівага назірання. А цяпер канец маім надзеям. І не толькі маім.

Што мы маглі яму сказаць? Толькі ўздыхнулі і раз’ехаліся з цяжкім сэрцам. Ды закурылі па цыгарэціне на развітанне. Тады яшчэ цыгарэты ў мяне былі. Добрыя такія. У «д’юці фры» купіў быў іх.

А яшчэ не вылазілі з галавы тыя гладкавыгаленыя спецслужбоўцы, якіх паслалі разабрацца, што мы за назіральнікі. Бо з Беларусі, аказваецца, могуць быць і такія, якіх маглі і не выгнаць. Якімі — справядлівымі ці несправядлівымі — былі выбары, агучвае старшыня ЦВК, які, ці якая, па сумяшчальніцтве яшчэ можа быць ярым прыхільнікам непераможнага кандыдата ад улады.

Стала цяжка на душы, што нас, беларусаў, і так расцэньваць могуць. За дзяржаву стала крыўдна. За сваю.

Але падумалася, што ёсць жа яшчэ і мы, прадстаўнікі ПЦ «Вясна», ёсць назіральнікі ад іншых праваабарончых арганізацый Беларусі, місія якіх, акрамя непасрэдна назірання, яшчэ і змагацца за гонар нашай краіны і гонар нашай эпохі.

Гонар эпохі! Толькі падумаў пра гэта, адразу іншыя выбары ўспомніліся. Ужо на Украіне. Мы тады ў пары з Ігарам Ходзькам працавалі ў Роўне. У дзень выбараў

такі пяшчотны ранак быў, што справядлівага падліку галасоў патрабавалі нават мясцовыя і пералётныя птушкі, хоць яны і права голасу то не маюць.

— Тут хіба ўсё будзе па-чэснаму, — сумна кажа мне Ігар, пралупіўшы вочы. — Такое выбарчае заканадаўства забацалі яны сабе, што ў камісіях прадстаўлены прадстаўнікі ўсіх плыняў і лічаць галасы разам. Вось што значыць драпежны наступ капіталізму на постсавецкія землі. Яны нават сімпатыі свае выказваць не захочуць такім, як мы, прыезджым. І мы ім, зрэшты, таксама не будзем. Бо не маем права. Наша справа — назіраць, каб не было парушэнняў.

— Ваша справа — назіраць, каб не было парушэнняў, — паўтарыла нам яго думку ўжо на свежавымытым ранішнім паветры наша кіраўнічка Таня Рэвяка, якая ў гэты дзень была надзвычай рашучая, урачыстая і скіраваная выключна на дасягненне пастаўленай задачы, як айсберг, які патапіў «Тытанік».

— Ес, мэм, — адрапартавалі мы, узялі пад брыль і імгненна растварыліся ў ранішнім тумане ўкраінскіх прастораў, захапіўшы з сабой на ўсялякі выпадак машыну і шафёра.

Аналітычныя здольнасці Ігара не падвялі. Парушэнняў сябры выбарчых камісій упарта не хацелі рабіць, і наш пошук несумленных украінцаў пачаў заходзіць у глухі тупік. Ігар нават пажартаваў, што нам трэба было б напрошвацца назіраць на ўсход Украіны. Можа, там, маўляў, удалося б праявіць сябе ў якасці прэтэндэнтаў на прэмію імя дэдуктыўнага метаду Шэрлака Холмса. І раптам, як ужо нават сонцу стала сумна і яно вырашыла схавацца за царквой невялічкай вёсачкі, дзе мы з Ігарам наведвалі адну з апошніх запланаваных на гэты дзень выбарчых дзяльніц, мы адчулі моцны ўсплёск адмоўнай энергіі, скіраванай прама ў наш бок. На нас з нянавісцю, як Ленін на буржуазію, глядзеў мясцовы міліцыянт, які тут рабіў выгляд, што выконвае свае

службовыя абавязкі, і якому страшна не падабаліся наваўвядзенні ў метады правядзення выбараў. Бо яны кардынальна адрозніваліся ад былых савецкіх, значна больш прывычных для яго натуры.

Адмоўна ён пачаў нас успрымаць адразу пасля таго, як яго круглыя вочы прачыталі на нашых бэйджах, што мы належым да міжнароднай назіральніцкай місіі ENIMO. Але, як пачуў наш беларускі акцэнт, імгненна памяняў сваё стаўленне да нас на цалкам супрацьлеглае.

— О, нарэшце нармальныя людзі прыехалі, — расплыўся яго твар, як смятана з разбітага слоіка, і ўжо па гэтым разлезлым выразе было бачна, што ў нас з ім розныя ўяўленні пра нармальных людзей. — А то тут некаторыя лазяць, фальсіфікацыі шукаюць.

— І мы гэта робім, — адказваем яму. — А прадстаўляем мы тут міжнародную місію.

Слоік смятаны зноў сабраўся ў кучу і пажаўцеў. А ў нас на душы як сто катоў нагадзілі. Крыўдна стала. З-за каго нас, беларусаў, усіх так успрымаюць? Нервова закурылі мы тады ўкраінскіх цыгарэт, шафёра пачаставалі, памаўчалі ды за працу. Ратаваць некім згублены гонар. Хіба зноў тымі згублены, ад СНД каторыя. А міліцыянту цыгарэту не далі.

А вось тыя, хто рабіў падлік галасоў, якраз радаваліся, што прыйшоў на Украіну час, калі фальшаваць не прымушаюць. Ды і мы пастараліся не зганьбіць гонару ні міжнародных назіральнікаў, ні свайго, беларускага. Але асадак у нас на душы яшчэ нейкі час заставаўся.

Заставаўся, ажно пакуль не прыехалі ў Роўна і зноў не ўбачылі нашу кіраўнічку Таню Рэвяка. Тая была настолькі задаволеная работай усіх сваіх падначаленых, ззяла такой бліскучай усмешкай, што нават мясцовая крапіва ля акруговай выбарчай дзяльніцы слаўнага горада Роўна ледзьве не заквітнела цюльпанамі.

Мы ў той дзень яшчэ глынулі разам пахучага цыгарэтнага туману ды пагаварылі і пра выкананую працу,

і пра гонар эпохі. Эх, як прыемна пакурыць з сябрамі пасля добра зробленай працы!

А яшчэ, калі ляцеў у тым самалёце на Маскву, успомнілася мне, як Алесь Бяляцкі запрашаў мяне працаваць у «Вясну».

— Трэба ж некаму змагацца за гонар нашай эпохі, — прывёў ён сярод іншых аргументаў і такі.

І як яго судзілі, ці, лепш сказаць, садзілі, ён паўтарыў гэта яшчэ раз, заявіўшы, што некалі ніхто не зможа абвінаваціць нас у тым, што ў гэты складаны для Беларусі час тут ніхто нічога не рабіў.

Таму, калі ў мяне пытаюцца, што для мяне праваабарончы цэнтр «Вясна», я ўспамінаю людзей, якія там дзейнічаюць, з якімі разам працаваў і працую, і адказваю, што гэтую арганізацыю, акрамя ўсяго іншага, я ўспрымаю яшчэ і як гонар нашай эпохі.

І вельмі тады зноў цягне закурыць. Бо яшчэ ў такі момант прыпамінаецца мудрае сцверджанне Міхаіла Жванецкага пра тое, што адным людзям трэба рабіць геройства з-за таго, што іншыя ўчынілі злачынства.

Толькі закурыць не магу. Курыць я кінуў. Яшчэ тады, як ляцеў з Малдовы ў Маскву і пра ўсе гэтыя выбары ўспамінаў. Бо спачатку цыгарэтаў не было дзе ўзяць, а пасля не хацеў браць. Бо ў свой час зарокся, што нічога расійскага купляць не буду, пакуль улада ў гэтай краіне не стане дэмакратычнай і перастане замахвацца на нашу беларускую незалежнасць. А там, у Маскве, цыгарэты расійскай вытворчасці прадавалі. Відаць, назло мне. Хоць ты здохні бясслаўна на чужыне. Таму, хоць у мяне вушы скруціліся ў трубачкі ад жадання глынуць дурманячага тытунёвага водару, я цярпеў, ажно пакуль мы не прыбылі ў сталіцу, якая, па словах сённяшняй беларускай улады, «смела глядзіць у будучыню». А там мне падумалася: «А чым тутэйшая ўлада ад той адрозніваецца?» І зноў не стаў цыгарэты набываць.

*Сакавік 2012 года*




**2006.**

Вацлаў Гавел уручае ў Празе Алесю Бяляцкаму
прэмію «Homo Homini», заснаваную чэшскай гуманітарнай
і праваабарончай арганізацыяй «Чалавек у нядолі».

1 сакавіка.

*Уладзімір Хільмановіч*

# За права «людзьмі звацца»

## 1. «Авечым шляхам» (кароткі агляд нацыянальнага светагляду)

Шмат стагоддзяў мы некуды ідзём. Невядома куды, мы нават не вызначыліся: хто ж мы? Гэта ва ўсходніх суседзяў цэнтральныя пытанні: «Што рабіць?» і «Хто вінаваты?». У нас зусім іншыя: «А хто там ідзе?» і «Хто смяецца апошнім?». Расія — гэта агромністая раўніна, па якой носіцца ліхі чалавек. Па Беларусі так не палётаеш. Рэдкі паветраны шар даляціць да сярэдзіны Белавежскай пушчы!

Белыя плямы, чорныя дзіркі, выдраныя старонкі, забытыя імёны, невядомыя падзеі — кароткі нарыс айчыннай гісторыі. Курапаты — дарога смерці. Дзяды — дарога жыцця. Асветнікі нашы ў магілах, магілы — наша асветніцтва. Кола замкнулася, але круціцца далей. Гэта ў іншых народаў гісторыя развіваецца па спіралі, у нас яшчэ і па «вертыкалі».

Наша салідарнасць дрэмле, як здзірванелы курган векавечны. Калі дрыгавічы дрыжаць — радзімічы радуюцца, калі палачане плачуць — тураўцы смяюцца,

крывічы крывяцца. Чарнобыльцы — у зоне, беластокцы — у гета.

Сімяон Полацкі вучыў Пятра Першага, Шушкевіч — Лі Харві Освальда, Трашчанок — Лукашэнку. Хто болей маці-гісторыі вінен?

Мы — жалезная нацыя — на вачах у людзей не адцураемся камсамольскага білета, не пакідаем мовы нашай беларускай толькі дзеля таго, каб ня ўмёрці. Мы маўчым, маўчым, трываем, але толькі да пары. Вось дачакаемся залацістага яснага дня — і ўсе ў ружжо! Касінеры Ясінскага і араўканы Дамейкі, дзецюкі Каліноўскага і гавайцы Судзілоўскага, хлопцы Балаховіча і бэнээфаўцы Пазьняка. Сустрэнемся на барыкадах, абы дажыць да світання. Ад філаматаў да мітрапаліта Філарэта. Дайце нам бочку кагору — і мы перавернем увесь свет! Мы і так яго перавярнулі. У імя Айца і Сына і Трэцяга Рыма. Якая эвалюцыя! Гуманіст Гусоўскі пісаў вершы на лаціне, а гаўляйтар Кубэ ўжо па-беларуску.

Мы выйдзем шчыльнымі радамі — пінская шляхта і слуцкія ткачыхі, мсціслаўскія недасекі і шклоўскія фальшываманетчыкі, палескія рабінзоны і белавежскія зубры. Старадаўняй крывіцкай Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць. Усе мы ляцім да зор, дзіркі ў небе — маўклівы дакор. Багдановіч быў першым беларускім нудыстам — буду ў далёкім краі я нудзіцца. Аголенасць душы не схаваеш пад вокладкай. «Вянок» на «Сцяне» — ад Багдановіча да Быкава. Ад Бядулі — да Брыля. Ад «Знаку бяды» да «Цынкавых хлопчыкаў».

Беларускі след паўсюдна: паміж пяскоў Егіпецкай зямлі і ў краіне райскай птушкі, ад водаў Нёмана да берагоў Ціхага акіяна, у краіне светлай ля белай бухты і ў Кардыльерах.

На гэтай зямлі адбыліся лёсаносныя падзеі для гісторыі Старога свету: Крэўская унія і Віскулёўскія пагадненні. Паміж імі Нямы сойм і Курлоўскі расстрэл,

Бярэзінская пераправа і Бабруйскі кацёл. Самагубства Рэйтана і выбух Грынявіцкага як вынік нацыянальнага адчаю. Павешанне Каліноўскага і расстрэл Філістовіча як замацаванне акупацыі. Галоўнае, што рэшта пайшла звыклым авечым шляхам. Разумных бараноў увогуле нямнога. Хітрыя трапляюцца. А дурных не ўсіх вайна пабіла. Вайна — гэта наш адвечны шанец. Шанец памяняць адну акупацыю на іншую. Кепскую акупацыю на горшую. Нацыянальны гонар — кожны трэці загінуў. А гэта значыць — кожны трэці страляў. Трэцяе пакаленне, трэці райх, трэцяя ракета, тройка энкавэдыстаў. Астральная лічба 3. У сярэднявеччы — Трэці Статут, у сучаснасці — трэці прэзідэнцкі тэрмін. Нікуды ад гэтай тройкі не падзецца.

А пакуль над краінай хмары і здані. Дзікае палянванне караля Стаха і эскадрон смерці Паўлічэнкі. Гадзіннік спыніўся апоўначы...

### 2. «Пачэсны пасад»
### (мы і суседзі: кароткі нарыс дачыненняў)

Гомельскія дойліды пабудавалі на сваю галаву і галаву наступных дзясяткаў пакаленняў маскоўскі Крэмль, які стаўся нашай вавілонскай вежай. Гэтая вежа накрыла нас на доўгія стагоддзі. Накрыла так, што аж родную мову адбіла. Іншая вежа — Астанкінская — у новым веку прамывае мазгі капітальна — аж да парэшткаў свядомасці. Занялі б мы даўно «свой пачэсны пасад», каб не сунуў г...но такі добранькі «брат». Але і самі не лепшыя — бульбашы на шашы. І дарога гэтая, наша роля і доля, некім даўно фатальна вызначаная...

Іх Мендзялееў вынайшаў табліцу перыядычных хімічных элементаў (гэтымі элементамі, такімі, як палоній, перыядычна паспяхова карыстаюцца сённяшнія

маскоўскія «хімікі»). А наш Іваноўскі перакладаў яму выступ у Брытанскім геаграфічным каралеўстве, бо вынаходнік табліцы не ведаў англійскай мовы. Іваноўскі-бацька, зрэшты, быў хутчэй іх — вернападданы яго імператарскай вялікасці. Да ўсяго знішчыў першую беларускую газету, якую ціснуў ягоны сын Вацак у радавым маёнтку Лябёдка. Дзеці нашай Лябёдкі, дарэчы, цягнулі кожны ў свой бок — нібы тыя лебедзь, рак і шчупак з іхнага Крылова. Хоць ты казку складай: было ў бацькі-расійца тры сыны — беларус, паляк і жмудзін. А нашчадкі? На тое ён наш і Страцім-лебедзь…

Сын таксама быў добрым перакладчыкам, толькі з нямецкай, ратаваў людзей ад Саветаў і гітлераўцаў адначасна. За што і злажыў галаву. Так, на Вацлаве Іваноўскім закончыўся наш кальвінізм, які пачынаўся з Мікалая Радзівіла Чорнага. Забітага бургамістра Мінска святары «старых традыцый» нават адпяваць не хацелі, бо ён быў «няправільнай» канфесіі. Вядома ж — наша талерантнасць не мае абмежаванняў. Досыць згадаць хоць бы забойства ўніяцкага арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча ці праваслаўнага Апанаса Філіповіча. Абодва пазней былі далучаны да ліку святых. Наша айчыннае хрысціянства — гэта паганскі калос на гліняных нагах. І ногі гэтыя — польскае каталіцтва і расійскае праваслаўе. А паміж імі — талерантнасць.

Крыж Ефрасінні Полацкай — гэта наша Чаша Грааля. Пакуль ён не вернецца ў Беларусь, ні даравання, ні любові, ні вольнасці нам не дачакацца. Ёсць перакананне, што гэты хрысціянскі артэфакт менавіта на Усходзе — дзе ў нетрах расійскіх бяскрайніх і бяздонных сталічных і правінцыйных сховішчаў, у глыбокіх сутарэннях вялізнымі гурбамі і стосамі складзены нясвіжскія габелены, любчанскія кнігі, слуцкія паясы, карэліцкія шпалеры і многія іншыя скарбы нашага Вялікага Княства.

Парахункі з усходнімі суседзямі ў нас яшчэ тыя. Братэрская любоў не мае межаў: мы ім далі кнігадрукаванне — і яны павывозілі ўсе нашы кнігі. Мы ім далі Дастаеўскага, яны нам — Мураўёва-вешальніка. «Вышэй галаву!» — сказаў кат, накідваючы пятлю. «Здравія жалаем, гаспадзін генерал-губернатар!» — адказаў удзячны народ. Наш Грынявіцкі з адчаю забіў іхняга цара Аляксандра Другога, праз сто з хвосцікам гадоў гэта вярнулася бумерангам — яны нам паставілі Аляксандра «Несмяротнага».

Дзіда Альгерда, здаецца, страчана назаўсёды. «Нам краёў чужых не трэба!» Не трэба і сваіх. Толькі тупы народ мог так лёгка аддаць Вострую браму! Нашы людзі заўсёды гатовыя адрачыся ад усяго — і ад свайго мінулага, і нават ад сваіх сноў. Вільня-то вольнай засталася, але ў Мінску ўсё па-свінску. І ў Слуцку ўжо не палюдску.

У каго яшчэ такое было: нашага Тарашкевіча мянялі на нашага ж Аляхновіча. Галоўнае — што канец быў адзін і нязменны. Нашы хлопцы за чужыя інтарэсы складалі свае галовы па ўсім свеце — ад Монтэ-Касіна да Гіндукуша, ад Масквы да Берліна. «Разумных бараноў увогуле нямнога», а тым, хто ёсць — на бойню простая дарога. У Катыні і Хатыні, у Курапатах і Чарнобылі. Наша «крывавае вяселле» пачалося яшчэ з наўгародскага князя Уладзіміра і полацкай княжны Рагнеды. І далей суцэльнае замілаванне. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі і Кацярына II, сувораўскія «чудобогатыри» і «сталыпінскі гальштук», Беламорканал і Чарнамырдзін. «Слаўся, народаў братэрскі саюз!..»

## 3. «Людзьмі звацца»
## (кароткі нарыс нашай праваабароны: ад Мікалая Радзівіла Чорнага да Алеся Бяляцкага)

Можна спрачацца, хто ўсё ж быў першым беларускім праваабаронцам. Можа, Мікалай Радзівіл Чорны, які сцвярджаў права свайго народа на Божае слова і надрукаваў Берасцейскую Біблію. А можа, Казімір Лышчынскі, якога спалілі за яго нібыта атэістычныя погляды. На жаль, пры ўсіх прыгожых міфах аб нашай нібыта спрадвечнай талерантнасці і верацярплівасці рэальнасць найчасцей зусім іншая. Куды лягчэй здзейсніць вырак іншаму, чым разабрацца ў сабе. Куды лягчэй даць катэгарычную ацэнку пэўнай канфесійнай з'яве і яе прадстаўнікам, чым пастарацца разабрацца ў іх сутнасці, плюсах і мінусах, акалічнасцях існавання. Калі ўзяць усю гісторыю хрысціянства на беларускіх землях, то, бадай, не знойдзецца перыяду, калі б якаянебудзь з канфесій не пераследавалася, дыскрымінавалася дзяржаўнай уладай ці дамінантнай рэлігійнай плынню. Маю на ўвазе параўнальна мірныя часіны. Бо бывалі эпохі, прыкладам час панавання савецкай улады ці гітлераўскай акупацыі ў дваццатым стагоддзі, калі жудасны і пакутніцкі пераслед, нібы першае пакаленне хрысціян пры жахлівым Нерону, зведвалі прадстаўнікі ўсіх рэлігійных накірункаў нашай шматпакутнай Айчыны. Змаганне ж за Унію было змаганнем за беларускую Царкву, якой зноў не стала ў 1839-м.

Тры паўстанні за вольнасць і правы вынішчылі фізічна цвет нацыі, але не зламалі яе дух. Ахвярнасць змагароў не была марнай. «Мужыцкая праўда» Каліноўскага была першай ластаўкай незалежнага друку — семя ўпала на раллю і прарасло «Нашай Нівай». «Сялянскі адвакат» Багушэвіч стаў першым класічным грамадскім праваабаронцам, замкнуў сваім жыццём дзевятнаццатае стагоддзе і пакінуў запавет шанавання

беларускай мовы — «такой жа людскай і панскай», як і іншыя.

Права на сваё вольнае слова дорага каштуе апошнія дзвесце гадоў. Паўлюк Багрым напісаў толькі адзін верш на роднай мове, і яго адправілі ў рэкруты на дваццаць пяць гадоў. Паэт сучаснасці Славамір Адамовіч спярша зашываў рот, а потым напісаў на «обшчапанятнам» верш «Убей президента» і патрапіў за гэта ў турму.

Беларусы змагаліся за свае правы ў розных праявах усё дваццатае стагоддзе. Таму пацверджанне — абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і Слуцкі вызвольны чын. Пра што яны думалі? Актывісты заходнебеларускага руху, якія па многу разоў сядзелі ў турмах і якіх забівалі па начах у сваіх родных хатах разам з сем'ямі. Вязні самых страшных у гісторыі чалавецтва сталінскіх канцлагераў, дзе на зямлі было сапраўднае жудаснае пекла. Розныя насельнікі нашай зямлі ў час Другой сусветнай вайны, калі ратунку не было з аніякага боку. Калі нашу зямлю дратавалі, здзекаваліся з насельніцтва крыважэрныя цмокі з Захаду і Усходу. А беларускія дзеячы і ў гэтых страшэнных умовах стваралі свае нацыянальныя арганізацыі, самапомач, культурніцкія ўстановы, выдавалі роднае друкаванае слова. І рабілі беларускую справу, нягледзячы на аніякія акупацыі, татальныя перасляды, чырвоныя і карычневыя тэроры. Рабілі перад рэальнейшай пагрозай фізічнай гібелі. І гінулі сотнямі і тысячамі — адукаванейшыя і сумленнейшыя людзі нацыі. Але нават у час сталінізму ў канцлагеры народаў Нарыльскае паўстанне ўзнялі менавіта беларусы, былі нашы суайчыннікі і ў Кенгірскім паўстанні.

І дысідэнтаў у нас было нямала, хоць пра іх і не ведаюць ці ведаюць надзвычай мала: Міхась Кукабака і Браніслаў Ржэўскі, Лявон Баразна і Мікалай Лагодзіч... Старыя дысідэнты разбудзілі і натхнілі Бяляц-

кага, Бяляцкі разгарнуў прававую абарону. Разам з аднадумцамі і паплечнікамі ён стварыў дзейсную і эфектыўную арганізацыю, якая выразна сцвердзіла права грамадзян на абарону. На абарону ад беззаконня ўладаў, на абарону ад рэпрэсій з боку сілавых структур, на абарону ад свавольства чыноўнікаў, на абарону ад карнай машыны дзяржавы. Зараз гэтае права ў беларусаў забіраюць — адвакатаў пазбаўляюць ліцэнзій, праваабаронцаў запалохваюць і садзяць у турму. Гэта робіцца для таго, каб пакінуць чалавека сам-насам з цынічнай дзяржаўнай машынай ціску. Але права на абарону — гэта святое права.

Невядома, куды павернецца кола гісторыі ў агляднай будучыні, як складзецца лёс беларускай нацыі ў бягучым стагоддзі. Што чакае кожнага з нас. І як будуць ацэненыя гэтыя апошнія сямнаццаць гадоў у летапісе краіны пад назвай Рэспубліка Беларусь. Чалавек у выніку навукова-тэхнічнага прагрэсу трапіў пад татальны кантроль, здавалася б, усёмагутнай «электроннай» дзяржавы з яе спецслужбамі, рэпрэсіямі і сачэннем. Але ніякія тэхнічныя прыстасаванні, ніякія прыёмчыкі адмыслоўцаў у галіне вышуку і падаўлення не ў стане сканаваць стан чалавечай душы, яе памкненні і нацэленасць. Аніякімі мудрагелістымі прыборамі не вымераць ровень сумленнасці, салідарнасці, шчырасці, міласэрнасці і дабрыні. У гэтым сэнсе чалавек заўсёды застанецца незалежным, заўсёды будзе вольным і справаздачным толькі Усявышняму. І хочацца верыць, што ўрэшце «загляне сонца і ў наша ваконца», што для ўсіх, хто прагне «людзьмі звацца», прыйдзе Вясна...

*Сакавік 2012 года*




**2007.**

У межах акцыі «Міжнароднай Амністыі» на знак салідарнасці з палітвязнем Змітром Дашкевічам тысячы жураўлікаў былі дасланыя ў Беларусь. Сябры ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч, Сяргей Сыс і Алесь Бяляцкі перадаюць іх у прыёмную МУС.

13 снежня.

*Уладзімір Целяпун*

## Шлях да «Вясны»

4 жніўня 2011 года... Толькі размаўляў па скайпе з Алесем. Дамовіліся пра сустрэчу ў Мінску. Раптам, праз 20–30 хвілін, як маланка, зноў жа па скайпе прыляцела сумная навіна: на плошчы Перамогі затрыманы Алесь Бяляцкі!

Кожны з сяброў «Вясны» гатовы да затрыманняў, арышту штодня. Асабліва тыя, хто не хавае сваёй прыналежнасці да ліквідаванай у 2003 годзе арганізацыі. Гэтае затрыманне кіраўніка арганізацыі, лідара праваабарончага руху Беларусі, дый не толькі, выклікала занепакоенасць і тугу на душы. Бяда прыйшла адтуль, адкуль яе не чакалася. З еўрапейскіх краін-суседзяў, якія ганарацца сваёй прыналежнасцю да дэмакратычных прынцыпаў. За такія прынцыпы і каштоўнасці змагаюцца, церпяць пераслед і здзекі ў турэмных засценках лепшыя прадстаўнікі Беларусі...

Маё асабістае знаёмства з Алесем Бяляцкім адбылося на форуме Асамблеі ў 2001 годзе. Перад гэтым ад сяброў «Вясны» Алеся Данільчыка і Віктара Раманішкі мне паступіла прапанова быць прадстаўніком арганіза-

цыі ў Мазыры. Чаму менавіта мне? Я нікому не задаваў гэтага пытання...

***

Мая грамадская дзейнасць пачалася ў канцы 1988 года. Ужо поўным ходам ішла перабудова, абвешчаная Гарбачовым. У красавіку 1986 года адбыўся выбух на Чарнобыльскай АЭС. Жонку з гадавалым сынам і двухмесячнай дачкой прыйшлося адправіць да яе бацькоў у Нальчык, дзе яны правялі амаль паўгода. Усё лета мяне, маладога спецыяліста, адпраўлялі ў зону на ліквідацыю наступстваў гэтай жудаснай катастрофы. У зоне, калі нехта з працуючых там спрабаваў падысці да спецыялістаў у спецвопратцы, рэспіратарах, якія прыязджалі на бронетранспарцёры праводзіць замеры, тыя хутка хаваліся зноў у гэты вайсковы транспарт і з'язджалі (збягалі — будзе дакладней) ад нас, як ад пракажоных. Скажоная, дазіраваная афіцыйная інфармацыя аб рэальным экалагічным становішчы, чуткі і плёткі, масавы вываз людзей з эвакуяваных вёсак накладалі пэўны адбітак як разгубленасці, так і жадання нешта рабіць і на нашае жыццё. Таму ў 1988 годзе, выпадкова даведаўшыся пра сход у Мазырскім гарадскім тэатры ініцыятывы па стварэнні Беларускага народнага фронту, я разам з сынам (мы ехалі з дзіцячага садка, гэта было вечарам, кастрычнік) пайшлі на гэтую сустрэчу. Так адбылося маё знаёмства з цудоўным чалавекам — паэтэсай, мастаком, мужнай і прыгожай жанчынай Нінай Аксёнчык. Была створана суполка ГА «БНФ "Адраджэнне"». Пачыналася актыўная дзейнасць па распаўсюду інфармацыі. Дарэчы была нагода — 1989 год, праводзілася кампанія па выбарах у Вярхоўны Савет СССР і адначасова, здаецца, у мясцовыя Саветы дэпутатаў.

Пасля першага мітынгу ў Мазыры каля кінатэатра «Летні», дзе выступалі кіраўнікі БНФ Юрый Хадыка, Валерый Буйвал, — ужо тады спецслужбы рабілі здымкі мерапрыемстваў і прысутных на ім, — гэтая інфармацыя была паказана кіраўнікам прадпрыемстваў, і тыя, у сваю чаргу, пачалі праводзіць прафілактычныя гутаркі са сваімі падначаленымі. Не пазбег такой гутаркі і я, інжынер-тэхнолаг завода «Мазыркабель». У канцы працоўнага дня я быў выкліканы да дырэктара, дзе сабралася тройка кіраўнікоў — партарг, галоўны інжынер і дырэктар. Асноўнай страшылкай у той час была тэза, што БНФ — гэта нацыяналісты, сваёй мэтай ставяць тэрмінова ўсіх абавязаць размаўляць па-беларуску, а тых, хто не згодны, выселіць з Беларусі і г. д. Дарэчы, уся «тройка» была ўкраінскага паходжання, але, мабыць, акрамя аднаго — галоўнага інжынера — ніхто і ўкраінскую мову дакладна не ведаў. Дырэктар з галоўным інжынерам пачалі экзаменаваць мяне на веданне беларускай мовы. Падручнікам для дырэктара служыла мясцовая газета «Камуніст Палесся», якая ў той, савецкі, час друкавалася цалкам на беларускай мове. Менавіта гэтая газета была падручнікам для тых прыезджых з іншых рэспублік СССР, хто сам жадаў хаця б крыху ведаць мову краіны, куды іх закінула жыццё, якая прытуліла, дала жыллё і працу ўсім ім, не беларусам…

Яны мелі рацыю і ведалі, як мяне збянтэжыць…

Так сталася, што ў 1963 годзе ў першых класах у нашай школе № 5 г. Мазыра пачалі цалкам весці навучанне на рускай мове. Самі настаўнікі не былі да гэтага гатовыя. Не было падручнікаў. Але партыйны загад быў няўмольны, і яны проста на ўроках самі рабілі пераклад на рускую мову з падручнікаў па-беларуску. І беларускую літаратуру нам у расклад урокаў уключылі толькі з пятага класа. Беларускай мовы, яе граматыкі наш адзіны выпуск (тры класы, потым з 9-га

зрабілі два) так і не вывучаў. Мова, на якой гаварылі дома, — мясцовы дыялект, нават з «етвыжскімі» словамі — была маёй размоўнай гутаркай. І пазней, каб выправіць гэтую недарэчнасць, я падчас адпачынку з'ехаў на лецішча амаль на два тыдні. Для чытання я ўзяў толькі беларускамоўную літаратуру — часопіс «Маладосць», газеты «ЛіМ» і «Свабоду». Гэтага часу мне хапіла, каб неўзабаве заўважыць за сабой, што я пачаў думаць па-беларуску. І хаця «тарашкевіца» і «наркамаўка» блытаюцца ў маім напісанні і размове і ёсць русізмы, але няма той разгубленасці пры гутарцы з рускамоўным суразмоўцам.

Але тады я не паддаўся на іх правакацыю. Сказаў, звяртаючыся да дырэктара і галоўнага інжынера: «Калі ў вас ёсць да мяне прэтэнзіі па працы і маёй працоўнай дзейнасці, мы можам гэта абмеркаваць у працоўны час. А партарг, які за ўсю размову не сказаў ні слова, можа да мяне звярнуцца ў працоўны час, калі я, беспартыйны, палічу мэтазгодным з ім размаўляць. А зараз мне трэба ісці па сына ў дзіцячы сад». Устаў і пайшоў з кабінета. Наўздагон дырэктар мне крычаў: «Я з тэхнолага стаў дырэктарам (дарэчы, абраным на пасаду працоўным калектывам, аднойчы была такая магчымасць), а ты можаш і тэхнолагам тут не быць...» Але мне прыйшлося прайсці шмат ступеняў прафесійнага росту, да начальніка тэхнічнага аддзела, амаль галоўнага тэхнолага ўжо ААТ «Беларускабель». На гэтую пасаду мог быць прызначаны, калі адмоўлюся займацца праваабарончай дзейнасцю, палітыкай. З 30 чэрвеня 2010 года, пасля 34 гадоў працы на адным прадпрыемстве, па накіраванні якога я вучыўся і закончыў Ленінградскі політэхнічны інстытут імя М. І. Калініна, без тлумачэння прычыны і нават проста размовы са мной не быў працягнуты працоўны кантракт. Не прапанавана іншая пасада, нават рабочага. Гэта быў вынік удзелу ў мясцовых выбарах у якасці кандыдата ад Партыі БНФ. Апа-

ненты рэжыму не павінны займаць ніякіх пасадаў і мець кантакты з працоўнымі калектывамі. За беспрацоўных ніхто галасаваць не будзе...

Але гэта асобная гісторыя... Прозвішчы асобаў, з якім мне прыйшлося сутыкацца, я наўмысна не называю...

А тады, у 1989 годзе, я напісаў сваю першую скаргу ў пракуратуру на парушэнне выбарчага заканадаўства. Ужо дакладна і не памятаю гэтага парушэння. І хаця прайшлі ўсе тэрміны падачы скаргі, яна была разгледжана памочнікам пракурора. Ён мяне выклікаў у пракуратуру. З усёй нашай размовы, якую я таксама ўжо і не ўспомню, мне запомніўся ягоны адзіны спіч: «Калі мы будзем выконваць дакладна законы, у нас усё жыццё спыніцца і абваліцца дзяржава!» З гэтай гутаркі я даведаўся і пра закон Феміды: «Закон есть закон! Пусть рухнет мир, да здравствует Закон!»

«Што ж гэта за такая дзяржава, якая лічыць сябе самай магутнай у свеце, а так баіцца выканання сваіх жа законаў чыноўнікамі і грамадзянамі сваёй краіны?» — гэтае пытанне, якое задаваў сабе ў той час, можна і сёння задаць цяперашняй, ужо беларускай, уладзе.

***

1990 год мне запомніўся арганізацыяй і ўдзелам у маршы «За выжыванне».

Гэты марш у абарону жыхароў, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС, быў арганізаваны 6–8 ліпеня 1990 года па ініцыятыве стачкама і Гомельскай абласной арганізацыі грамадскага руху «Беларускі народны фронт “Адраджэнне”» і падтрыманы дэмакратычнымі мясцовымі дэпутатамі. Да маршу далучыліся і жыхары пацярпелых раёнаў Магілёўшчыны і Браншчыны — усяго каля 300 чалавек.

Тады частка прадстаўнікоў улады, апазіцыі і прафсаюзаў, дэпутаты, шматдзетныя маці і пенсіянеры, не зважаючы на раз’яднанасць у поглядах і перакананнях, аб’ядналіся, каб данесці свой боль за лёс сваіх дзяцей спачатку да сцен Крамля, а ў кастрычніку — і да Мінска. Да ўсёй міжнароднай супольнасці.

Красная плошча ці не ўпершыню заззяла пад палотнішчамі бел-чырвона-белых нацыянальных беларускіх сцягоў.

7 ліпеня ў Свярдлоўскай зале з намі сустрэўся Мікалай Рыжкоў (Старшыня Савета Міністраў СССР). Сцены Крамля, мабыць, ніколі не чулі столькі болю, колькі было яго ў словах выступоўцаў, якія амаль аднагалосна патрабавалі адстаўкі беларускага ўрада. Пра гэта сведчылі і слёзы маскоўскіх стэнаграфістак. Разам з намі быў Алесь Адамовіч...

Менавіта пасля гэтага маршу ўвесь свет даведаўся пра наша агульнае гора і людзі добрай волі прыйшлі нам на дапамогу.

Пацярпелае насельніцтва не атрымала належнай кампенсацыі, хаця ў першыя гады дзяржава выдзяляла невялікую грашовую кампенсацыю («грабавыя» — такую назву далі людзі гэтым грашам), пастаўляла чыстыя прадукты харчавання, аказвала тэхнічную дапамогу ў вытворчасці адносна чыстых прадуктаў. У 1991 годзе Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь быў прыняты Закон «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы», які прадугледжваў неабходныя льготы і кампенсацыі людзям. Гэта, разам з сістэмай радыяцыйнага кантролю і сістэмай аховы здароўя, дзяржаўнымі праграмамі ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы, дазваляла пазбегнуць сур’ёзных медыцынскіх наступстваў. Аднак праіснаваў Закон толькі чатыры гады. Першы прэзідэнт сваімі ўказамі № 349 і 350 ад 1 верасня 1995 года пазбавіў жыхароў пацярпелых раёнаў і ліквi-

датараў-чарнобыльцаў практычна ўсіх ільгот і кампенсацый. Не дапамагло рашэнне Канстытуцыйнага Суда аб неадпаведнасці іх Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь. Кіруючыся гэтымі антыдзяржаўнымі актамі, міністэрствы і ведамствы сталі ліквідаваць рэшткі Закона.

Пра Чарнобыль нельга забыць. Ён побач з намі ўжо чвэрць стагоддзя. І невядома калі перастане балець гэтая пакуль яшчэ незагойная рана. Але грамадства ўсё яшчэ паралізаванае страхам і апатыяй. Супраціў рэдка пакідае сцены кухняў. І гэта ў той сітуацыі, калі дзяржаўная палітыка ў справе ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы пагражае здароўю кожнага з нас! У выніку толькі жменька актывістаў з году ў год спрабуе прыцягнуць увагу грамадства і міжнароднай супольнасці да чарнобыльскай праблематыкі. Іншыя ціха маўчаць, спадзяюцца перасядзець, перахітрыць, пражыць... Але рэчаіснасць зноў і зноў падводзіць іх да думкі, што выхад ёсць толькі адзін: барані сябе сам!

Калі ўлада не лічыцца з народам, хавае ад яго праўду, закрывае вочы на тое, што па ўсёй краіне «распаўзаюцца» забруджаныя прадукты харчавання, народ павінен прымусіць уладу паважаць сябе.

***

Тыя гады зараз называюць «шалёнымі (лихими) дзевяностымі».

Камуністычнае кіраўніцтва на месцах адчувала свой непазбежны канец. «Адзіны блок камуністаў і беспартыйных» пачаў гніць і распадацца з самой КПСС ад недаверу да яе з боку грамадства. Эканамічны складнік жыцця жыхароў горада, дый вялікай краіны СССР, быў нестабільны і непрадказальны. Пачаліся затрымкі заробкаў, пенсій. Уводзіліся талоны на харчовыя тавары

і рэчы. Мясцовае чынавенства прыціхла. Людзі, адчуваючы хмяльны водар пераменаў, пазбаўляліся жахаў, арганізоўваліся ў грамадскія аб'яднанні для дапамогі самім сабе. Улады самі дапамагалі некаторым групам і рэгістравалі гэтыя грамадскія аб'яднанні. Так, у красавіку 1991 года ў Мазыры быў зарэгістраваны клуб шматдзетных сем'яў «Надзея», хаця дзейнасць па стварэнні арганізацыі пачалася ў 1989 годзе. Я быў у курсе гэтай ініцыятывы, на той час у мяне ўжо было трое дзяцей, а гэта лічылася прыналежнасцю да шматдзетных сем'яў. Да таго ж на прадпрыемстве працаваў адзін з арганізатараў гэтай ініцыятывы Леанід Мазуркевіч, бацька пяцярых дзяцей, і ён раз-пораз звяртаўся да мяне па параду, як зарэгістраваць грамадскую арганізацыю. Асноўны ж касцяк ініцыятараў складаўся з цудоўных і прыгожых жанчын — Ганны Вячоркі, Вольгі Мароз, Надзеі Цэйка, Галіны Дубіны і іншых. Калі пералічыць усіх, гэта будзе дастаткова вялікі спіс з мужчын і жанчын шматдзетных сем'яў. І вось вясной 1991 года Лёня Мазуркевіч зрабіў мне прапанову ўвайсці ў склад клуба шматдзетных сем'яў «Надзея». Я прыняў прапанову. Стаў сябрам гэтай арганізацыі і на адным з паседжанняў быў уведзены ў склад савета. Першым старшынёй клуба на той час была Ганна Вячорка. Недзе ў кастрычніку-лістападзе на гэтую пасаду абралі мяне. Большая частка жанчын палічыла мэтазгодным, каб арганізацыю ў такі складаны час узначаліў мужчына. Змянялася заканадаўства. Улады патрабавалі дапрацоўкі статута арганізацыі і яе перарэгістрацыі ў Гомельскім упраўленні юстыцыі.

Нядаўна прачытаў у «Свободных новостях» інтэрв'ю з Анатолем Буяльскім, былым трэнерам жаночай нацыянальнай зборнай па баскетболе. Спадабалася яго меркаванне: «Я глубоко убеждён, что с женщинами можно свернуть горы! Правда, можно и завалить всё что угодно». Згодны з гэтым меркаваннем. Яшчэ ў тыя

часы я на розных семінарах і сустрэчах гаварыў, што калі хто і ўратуе Беларусь, то гэта будуць жанчыны. На жаль, пакуль гэтую тэзу выкарыстоўвае толькі адзін палітычны дзеяч — Аляксандр Рыгоравіч. Ён не скупіцца на розныя прыгожыя ліслівыя трызненні на адрас жанчын, аднак на пасадзе прэзідэнта ён іх упарта на жадае бачыць. І значная частка жанчын даруе гэта яму. І нават даруе той амаральны, з пагляду хрысціянства ўсіх канфесіяў, учынак у адносінах да сваіх афіцыйных і неафіцыйных жонак і каханак. Да свайго — раптам, неўзабаве з'явіўшагася — трэцяга сына Колі, якога ён прылюдна пазбаўляе дзяцінства. Усё яшчэ шмат жанчын галасуюць на выбарах за яго...

Грамадскае аб'яднанне «Мазырскі клуб шматдзетных сем'яў "Надзея"» я ўзначальваў да лістапада 1996 года. Кожныя два гады (згодна са статутам ГА) мяне пераабіралі таемным галасаваннем усе сябры клуба. Можна было і далей заставацца, але дзеля гэтага патрэбна было ўзяць прыклад з Аляксандра Рыгоравіча і змяніць статут ГА. Дрэнны прыклад, але яго ўзялі на ўзбраенне наступныя старшыні клуба. Тым не менш ужо больш за 20 гадоў арганізацыя існуе, збірае ўзносы з сяброў клуба і шукае спонсараў для сваёй дзейнасці. За гады майго кіравання ГА (1991–1996) мне ўдалося стварыць і правесці адбор сапраўдных прыхільнікаў грамадскай дзейнасці сярод шматдзетных сем'яў. З дапамогай ГА «Аб'яднаны шлях» прайшлі навучанне на семінарах сябры клуба па арганізацыі справаводства, бухгалтэрыі, лідарства ў ГА. Шмат хто ўзначаліў і дагэтуль кіруе іншымі ГА Мазыра, уваходзіць у рэспубліканскія структуры грамадскіх арганізацыяў. Клуб стаў апірышчам сацыяльнай дапамогі не толькі шматдзетным сем'ям, але і інвалідам, адзінокім старым і іншым малазабяспечаным жыхарам Палескага рэгіёна. З дапамогай нямецкіх дабрачынных арганізацый з Ботрапа, Гладбека, Гельзенкірхена, Эсэна былі

забяспечаны бальніцы Хойнікаў, Мазыра, Слабады, Скрыгалава бялізнай, спецыяльнымі ложкамі. Працаваў кіёск па бясплатнай выдачы хворым імпартных лекаў па рэцэптах. У кожным мікрараёне працавалі школы кройкі і шыцця для дзяцей са шмадзетных сем'яў. Дзеці і дарослыя праводзілі модэ-шоу са сваімі вырабамі, старым адзінокім пенсіянерам на вёсках шылі буркі. Швейныя машынкі і матэрыялы прывозілі нашыя нямецкія сябры. Пасля скарачэння сацыяльных работнікаў з Чырвонага Крыжа былі знойдзены спонсары і сродкі для іх далейшай працы па доглядзе адзінокіх старых людзей і інвалідаў у Мазыры. Пры непасрэдным удзеле і падтрымцы клуба быў арганізаваны і дзейнічае да гэтага часу цэнтр для дзяцей, хворых на ДЦП, «Радуга» і іншыя праекты. Каб ажыццявіць шмат якія праекты, патрэбен быў удзел уладаў. І саветам клуба выкарыстоўвалася такая методыка, што нашая ідэя ў нейкіх прыватных гутарках даводзілася да супрацоўнікаў выканкама, а затым пры пэўных абставінах яны гэтую ідэю, больш канкрэтную і з уласным рэсурсам, рабілі сваёй, і яна ўвасаблялася ў жыццё. Але гэта тэма іншай размовы...

І ўсё ж хачу адзначыць: тыя, камуністычныя кіраўнікі нашага горада (І. Д. Замулка, В. Р. Арцёменка, Т. А. Шкрэд, Ф. Лянкевіч), пры ўсім ідэалагічным неўспрыманні мяне, былі больш маральнымі і адказнымі перад гараджанамі. Тое, што было створана грамадзянскай супольнасцю за тыя гады, хоць у нейкім выглядзе існуе і да гэтага часу. Яны маглі вылучыць каштоўную ініцыятыву грамадзян (вядома, не ўсе) і збольшага не перашкаджаць яе ажыццяўленню, а пры пэўных абставінах і дапамагаць. Цяперашняя вертыкаль ці можа гэтым пахваліцца?.. Яны забіраюць зямлю садовага таварыства «Надзея» ў шматдзетных сем'яў ля вёскі Васькаўка. У 90-х гадах гэтая зямля многім дапамагла выжыць. У нас не было сродкаў правесці

там ваду і электрычнасць. Смерч у 2000-х нарабіў шмат шкоды. У «вертыкалі» дапамагчы шматдзетным бацькам правесці ваду і электрычнасць розуму і жадання не хапіла. Затое выклікаюць у аддзел землеўладкавання і вельмі настойліва прапануюць адмовіцца ад зямлі. Бясплатна. Нават у тых, у каго яна прыватызаваная. «Вертыкаль» працуе па прынцыпу МНС (ствараюць штабы, праводзяць рэйды з мэтай накладання штрафаў і папаўнення мясцовай казны для сваіх дабавак да заробку) — тушыць там, дзе ўжо ўсё згарэла...

***

1994 год. Першыя выбары першага прэзідэнта краіны. І да гэтага часу — бяззменнага. Аўтобус клуба быў перасовачным штабам кандыдатаў, за якіх збіралі подпісы, агітавалі і вялі назіранне ГА «БНФ “Адраджэнне”», дэмакратычныя мясцовыя дэпутаты. На вокнах былі размешчаны партрэты Пазьняка. І ніхто нас не спыняў, не арыштоўваў, не штрафаваў...

1995 год. Выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 13-га склікання. Працаваў у камандзе Ніны Аксёнчык. Быў назіральнікам ад клуба ў гарадскім Доме афіцэраў. На гэтых выбарах мне старшыня камісіі расказала і паказала, як могуць рабіцца выбары... Яна ўжо больш за 15 гадоў узначальвала выбарчую камісію на гэтым участку. Ведала значную частку альбо паводзіны ўсіх сваіх выбаршчыкаў. Хто ходзіць на выбары, а каго гэта не турбуе і ланцугом не зацягнеш, хто за каго галасуе (гэта каму можна выдаць бюлетэні за родзічаў, а то і за ўвесь пад’езд, а каму па закону — толькі адзін на рукі). Нават паказала скрыню для галасавання дома (такая ж была і на датэрміновым галасаванні). Зверху апячатаная, стаяць подпісы сяброў камісіі, падышла, каб я паставіў і свой. Здзівілася маёй

упартасці, што з самага пачатку сяджу, лічу прыйшоўшых галасаваць і нават на абед не сходзіў. Разгаварыліся. Пры размове яна перакуліла скрыню і ногцікамі так акуратна пачала вымаць цвікі, якімі было прымацаванае дно скрыні. Яны былі змазаныя і лёгка паддаваліся. Памяняць бюлетэні ў скрыні можа нехта з сяброў камісіі, а могуць прыйсці з выканкама (гарадской выбарчай камісіі).

Зараз ужо мяняюць усю скрыню з патрэбнай колькасцю бюлетэняў і з патрэбным вынікам. Досвед набываюць не толькі назіральнікі.

1996 год. Ганебны для свядомых беларусаў рэферэндум. Зменены нашыя гістарычныя сімвалы. Перапісана Канстытуцыя. Пры ўдзеле расійскіх правакатараў Строева, Селязнёва, Чарнамырдзіна быў распушчаны Вярхоўны Савет 13-га склікання і заменены так званай Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу — дэпутатамі, прызначанымі самім Лукашэнкам.

Жыць не хацелася...

1999 год. Выбары, арганізаваныя Віктарам Ганчаром. Не ведаю, як у іншых месцах, а ў Мазыры не было каму іх канкрэтна арганізоўваць. У мясцовым Савеце нікога з дэмакратычных кандыдатаў ужо на той час не засталося. Дый Саветы гэтыя не мелі рэальнага ўплыву і ўлады пасля перавароту ў 1996 годзе.

Тым не менш каля паўсотні грамадскіх актывістаў прапусцілі праз допыты ў пракуратуры. Тады КДБ не так адкрыта займаўся ўнутраным вышукам, хаця, вядома, без яго тут не абышлося. Міліцыянты выклікалі да сябе альбо прыходзілі на працу, дахаты і бралі тлумачэнні ў актывістаў пра іх адносіны да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Каля дзевяці раніцы прыперліся і да мяне ў выходны дзень. Праз гадзіну, каб ад іх адчапіцца, напісаў: «Падтрымліваю Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь ад 1994 года без дапаўненняў і змяненняў, прынятых незаконным рэферэндумам у 1996 го-

дзе. Дата. Подпіс». Тым самым афіцыйна прызнаў нелегітымнасць пасады прэзідэнта пасля сканчэння яго першага тэрміну на гэтай пасадзе.

У 2000 годзе я стаў сябрам самай дзейнай рэгіянальнай грамадскай арганізацыі «Гомельскае абласное грамадскае аб’яднанне “Грамадзянскія ініцыятывы”». Шмат семінараў па арганізацыі і дзейнасці грамадскіх арганізацый, мясцовага самакіравання, народны ўніверсітэт давалі магчымасць не толькі збірацца разам актывістам для навучання, але і абмяркоўваць сітуацыю ў краіне, абменьвацца досведам у грамадскіх справах. Неўзабаве, прайшоўшы навучанне па макетаванні і вёрстцы, у Мазыры пачаў выдаваць бюлетэнь «Мазырскія ведамасці». Дзейсную дапамогу ў гэтым нам аказалі прафесійны журналіст Аляксандр Шкут (Гомель), фонд IDEE.

***

Вось з такім багажом я прышоў да высновы, што мне не хапае ведаў па юрыдычным чынніку маёй грамадскай дзейнасці. І на Асамблеі мяне пазнаёмілі з Алесем Бяляцкім. Мы пагаварылі, я перадаў яму некалькі нумароў бюлетэня «Мазырскія ведамасці». Седзячы ў зале, я бачыў, як Алесь, гартаючы нумар, нешта спытаў у сядзеўшага побач Віктара Карняенкі (кіраўніка на той час Гомельскага аддзялення ГА «Грамадзянскія ініцыятывы»), паказваючы на маё прозвішча і выходныя дадзеныя бюлетэня. Віктар быў у курсе гэтай прапановы і маёй дадатковай дзейнасці і рэкамендаваў мяне Алесю. Пра гэта ён сам мне паведаміў у перапынку паміж паседжаннямі.

У 2003–2004 гадах было ліквідавана шмат дэмакратычных грамадскіх аб’яднанняў. У тым ліку «Вясна» і «Грамадзянскія ініцыятывы». Але толькі струк-

туры і аддзяленні «Вясны» не спынілі сваёй дзейнасці. Яшчэ ў 2005 годзе я, не дачакаўшыся ліста ні з Мінюста, ні з Гомельскага ўпраўлення юстыцыі, ні з юрыдычнага аддзела Мазырскага гарвыканкама, ні ад ліквідацыйнай камісіі (якая, мабыць, і не была створаная), сам зняўся з уліку ў падатковай інспекцыі, здаў пячатку ў міліцыю. Толькі Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, куды я павінен быў прадстаўляць раз на квартал паперы, што аддзяленне не вядзе камерцыйнай дзейнасці і не мае ў штаце бухгалтара, не прыняло маёй заявы на зняцце з уліку. Усе дакументы Мазырскага аддзялення ГА «Праваабарончы цэнтр “Вясна”» я аднёс у гарвыканкам і здаў супрацоўніцы па сувязях з грамадскімі арганізацыямі. Спробы зарэгістраваць маю заяву закончыліся беспаспяхова. Адно запэўніванне — «мы вам паведамім».

І да гэтага часу не дачакаўся. Не паведамілі ні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, ні ў гарадскі аддзел статыстыкі. Але раз на два гады, калі мяняецца супрацоўніца ў ФСАН, гарстаце, нават намеснік старшыні выканкама, які курыруе пытанні па сувязях і дзейнасці з ГА, мне дасылаюць лісты альбо тэлефануюць… прадставіць даведку аб дзейнасці арганізацыі. Дзеля гэтага я на сваім камп’ютары завёў асобную тэчку з інфармацыяй па ліквідацыі «Вясны» Мінюстам, скаргамі кіраўнікоў арганізацыі ў Вярхоўны Савет, у Камітэт ААН па правах чалавека, рашэннем КПЧ па незаконнай ліквідацыі ГА «Праваабарончы цэнтр “Вясна”». Да гэтых дакументаў прыкладваю агляды-хронікі «Вясны» па парушэнні правоў грамадзян у Беларусі і адношу ў гэтыя структуры. Усё ж такі там таксама працуюць людзі. І ім патрэбна гэтая інфармацыя. «Неужели это творится в нашей стране?» — самае тыповае пытанне, якое чую ад іх. Але апошнім часам і яго не задаюць. Мабыць, чытаюць сайт www.spring96.org!

Свае скаргі, заявы, напісаныя сухой юрыдычнай

мовай, я дапаўняю сваім пытаннямі, меркаваннямі. Гэта не задавальняе майго юрыста. Пры складанні гэтых дакументаў існуюць пэўныя рамкі. А калі ўжо вельмі хочацца выказацца на адрас чыноўніка альбо па праблеме, якая мяне турбуе, я пісьмова выказваю сваё асабістае меркаванне. І заўважце: заява, зварот альбо скарга не адразу трапляе на стол чыноўніка, які прымае рашэнне. Яна праходзіць пэўны ланцуг клеркаў. І яны ўсё гэта чытаюць, дзеляцца сваімі развагамі з іншымі калегамі за кубкам гарбаты альбо кавы ў свой вольны час. «Ідэалагічны тэрарыст» — самая мяккая мая мянушка ў калідорах выканкама і сяброў выбарчых камісій.

Каб правесці маніторынг выбарчага заканадаўства, прыходзілася самаму ісці кандыдатам у дэпутаты рознымі шляхамі — ад грамадзян, шляхам збору подпісаў і ад партыйнай структуры БНФ.

У 2007 годзе за надрукаваную агітацыйную ўлётку мяне здымалі з кандыдатаў у Гомельскі абласны Савет дэпутатаў менш чым за суткі да прызначанай сустрэчы з выбаршчыкамі і маёй даверанай асобе Аляксандру Мілінкевічу не ўдалося сустрэцца з выбаршчыкамі ў ДК «МНПЗ». Потым узнавілі пасля скаргі ў Гомельскую абласную выбарчую камісію. Але час быў упушчаны.

У 2010-м мяне спачатку не зарэгістравалі адразу ў два Саветы — Гомельскі абласны і Мазырскі раённы. Удалося аднавіцца толькі ў Гомельскі абласны Савет. Але гэтым разам маю агітацыйную прадукцыю ўвогуле адмовіліся друкаваць. І ніхто не дапамог — ні Гомельская абласная выбарчая камісія, ні ЦВК. Раённы суд Мазыра ўвогуле палічыў, што няроўныя ўмовы выбараў сярод кандыдатаў — гэта яму непадсудна.

Гэта для тых прыхільнікаў удзелу, хто збіраецца спачатку рэгістравацца, правесці тлумачальную працу з выбаршчыкамі, а потым зняцца. Не дадуць! Нават

выступ па тэлевізіі здымуць, калі там будзе заклік не хадзіць на выбары. І суды накруцяць такія лічбы штрафаў, якія ім пададуць выбарчыя камісіі...

***

І вось я ўжо адзінаццаты год амаль цалкам належу праваабарончаму брацтву пад назовам «Вясна»!

З арыштам Алеся разгубленасці, адчаю чамусьці не было... Было жаданне нешта рабіць. І серыя заявак на пікеты адбылася своечасова і маштабна па ўсёй краіне. Ведаючы ўжо адказы па заявах у абарону Мікіты Ліхавіда, Андрэя Саннікава і іншых палітзняволеных, вырашыў адразу падаць некалькі заявак на працягу тыдня — 22, 23 і 27 жніўня 2011 года. Усяго іх было шэсць. Ніводнай не задаволілі... Дзяцей выгналі ў дождж гуляць у футбол, каб толькі паказаць, што стадыён «Спартак» заняты. Ад суда асаблівых сюрпрызаў не чакаў... Але ў суд першай інстанцыі выцягнуў усю гэтую хеўру — намесніка старшыні Мазырскага райвыканкама Фелікса Галюка, начальніка ідэалагічнага аддзела райвыканкама Таццяну Ганчарэнка, начальніка юрыдычнай службы райвыканкама Вячаслава Гарбунова, начальніка РАУС Пятра Зыкуна з яго намеснікам Васілём Цімашэнкам, дырэктара дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву № 1 г. Мазыра Сяргея Кавалевіча, генеральнага дырэктара КЖУП «Мазырскі райжылкамунгас» Эдуарда Раманоўскага...

На судзе прысутнічалі рэгіянальныя кіраўнікі ГА «Рух “За свабоду”», аргкамітэта ствараемай партыі БХД, маладыя ўдзельнікі маўклівых акцыяў. Яны не сталі, з-за адсутнасці веры ў справядлівасць суда, абскарджваць адмовы ў правядзенні раней заяўленых імі пікетаў...

Але ім спадабалася, як усе гэтыя чынушы, па іх выразах, «як вужакі на патэльні» круціліся, адказва-

ючы на мае і суддзі пытанні. Судовае разбіральніцтва працягваецца. Зараз мае скаргі на чарзе ў старшыні Гомельскага абласнога суда. Потым Вярхоўны Суд... І, думаю, у Камітэце ААН па правах чалавека закончыцца.

І ўжо паўгода без Алеся...

Але ён стварыў КАМАНДУ! І якія б ні былі цяжкасці — яна працуе.

І мы дачакаемся ВЯСНЫ на Беларусі!

*Сакавік 2012 года*




**2008.**

Падчас правядзення інфармацыйнай акцыі, прысвечанай 60-годдзю Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, у Мінску былі затрыманыя і дастаўленыя ў пастарунак шасцёра вясноўцаў.
На здымку: невядомыя ў цывільным прапануюць Ірыне Тоўсцік прайсціся з імі да мікрааўтобуса.

10 снежня.

*Фота БелаПАН.*

*Алесь Капуцкі*

## Прадвесне ў забраным краі

Для мяне прадчуванне Вясны пачалося задоўга да яе надыходу. Але спачатку былі мары пра Вясну. Яны з'явіліся падчас сцюдзёнай савецкай зімы напрыканцы 70-х, калі я пасля 9-га класа па заданні беларусіцы прачытаў раман У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Прачытаў, што праўда, па-расейску, бо іншага не знайшлося. Гэта можа падацца неверагодным, але ўжо тады ў мяне з маім стрыечным братам Юрасём, які прыязджаў час ад часу з Мінска ў нашую родную вёску Селівонаўку, што ля Маладзечна, адбываліся размовы-фантазіі пра беларускую Беларусь. Ён ужо тады размаўляў са мной па-беларуску, бо любімым яго прадметам у школе была родная мова. Я ж яшчэ быў далёкі ад гэтага, бо ў маёй школе № 6 г. Маладзечна на той час не было нават такога прадмета, бо была гэта школа «з ангельскім ухілам». Але дзякуй Богу, што хоць была родная літаратура. Дык вось, пасля прачытання рамана размоў у нас ні пра што, як толькі пра беларускую Беларусь, не было. Тады ж брат выразаў з дрэва сабе і мне па медальёну, з аднаго боку якога быў шасцікан-

цовы крыж, а з другога дзве літары — З і К, што азначала «Забраны край» — словы з верша Янкі Купалы. І мроілі мы пра стварэнне тайнай патрыятычнай арганізацыі, ці, прынамсі, пра тое, каб знайсці такую. І знайшлі! Аднаго разу, калі я ўжо быў студэнтам Беларускага тэхналагічнага інстытута, завёў мяне Юрась у сталічны Дом прафсаюзаў, дзе сабраліся з дзясятак маладых людзей, якія ўсе спрэс размаўлялі па-беларуску. Так адбылося маё першае і апошняе спатканне з «Беларускай майстроўняй». Апроч беларускай мовы тая сустрэча мяне асабліва не ўразіла, бо гутарка вялася перадусім пра спевы ды пра здымкі нейкага фільма, што мне падалося занадта памяркоўным. Быў гэта 1983 год, і па-беларуску я яшчэ не размаўляў, але нейкае няўцямнае прадчуванне Вясны ўжо з'явілася.

Потым, ужо пасля заканчэння інстытута ў 1985 годзе, падзеі сталі разгортвацца больш імкліва, а прадчуванне Вясны — узрастаць. У пачатку 1987 года дзякуючы Вінцуку Вячорку адбылося нашае з братам знаёмства з вядомым маладзечанскім краязнаўцам і аўтарам кнігі «Адчыніся, таямніца часу» Генадзем Каханоўскім, які, у сваю чаргу, навёў нас на стваральніка маладзечанскай «Беларускай хаткі» Міхася Казлоўскага. З цягам часу адбылося знаёмства і з цяпер ужо легендарным Міколам Ермаловічам, які, як аказалася, жыў зусім непадалёк ад майго дома. У тым жа годзе ў Маладзечна пераехаў Сяргей Дубавец з жонкай — паэткай Таццянай Сапач. А ўвосень у горадзе паўстала маладзёжная суполка «Крывіч», якую мне даверылі ўзначаліць і якая ўвайшла ў агульнанацыянальную Канфедэрацыю беларускіх суполак. 1987 год — год майго цалкавітага пераходу на родную мову: сям'я, сябры, праца — ніхто больш не чуў ад мяне расейскай мовы. Падзеі нарасталі як снежны камяк, а прадчуванне Вясны станавілася ўсё больш выразным.

Потым былі экспедыцыя па Прыпяці, Другі Валь-

ны сойм Канфедэрацыі беларускіх суполак у Вільні, стварэнне ў Чырвоным касцёле аргкамітэта руху за перабудову «Беларускі народны фронт “Адраджэнне”», дастаўка самвыдата з Вільні і выраб уласнага мясцовага, першыя мітынгі ў Маладзечне, першыя якія-ніякія выбары, першыя суды за нацыянальную сімволіку, устаноўчы з’езд БНФ у Вільні і шмат-шмат чаго іншага. І нарэшце ў жніўні 1991 года яна, Вясна, надышла, бо пасля зімы заўсёды надыходзіць Вясна.

P. S. Вясна, праўда, у нашай краіне зацягнулася на доўгія гады, вясна зімная, з частымі замаразкамі. І пасярод гэтай халоднай вясны ў 1996 годзе паўстала іншая «Вясна», якая набліжае Лета. І ў гэтай «Вясне» давялося знайсці сваё месца і мне.

*Сакавік 2016 года*



**2009.**

Ва ўстаноўчым сходзе заснавальнікаў грамадскага праваабарончага аб'яднання «Наша Вясна» ўдзельнічалі 82 прадстаўнікі з усіх рэгіёнаў Беларусі дзеля ажыццяўлення трэцяй спробы рэгістрацыі пасля пазбаўлення афіцыйнага статусу ў 2003 годзе.

Мінск, 29 сакавіка.

*Алесь Дзергачоў*

# Тры крокі да «Вясны», тры крокі да свабоды

Яшчэ задоўга да «Вясны» я пачынаў сваю кар'еру юрыста-гаспадарніка. Гэта было ў далёкім 1981 годзе ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі Сенненскага райвыканкама, куды быў накіраваны пасля заканчэння БДУ.

У той час лічыў, што з дапамогай выканання законаў можна дасягнуць парадку ў краіне.

З такімі думкамі ўжо ў Смаргоні сустрэў 1990 год, калі адбыліся першыя вольныя выбары. Але яшчэ да таго навучыўся бачыць недасканаласць законаў, якія ўладкоўваюць жыццё. Таму на канферэнцыі працоўнага калектыву будаўніча-мантажнага трэста № 41, дзе планавалася вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР старшыню гарвыканкама, да мяне прыйшла думка: Вярхоўны Савет — орган, дзе рыхтуюцца і прымаюцца законы. Таму будзе непарадак, калі там стане займацца заканадаўствам чалавек, які ў гэтым мала што разумее. І я прапанаваў дэлегатам канферэнцыі вылучыць кандыдатам у дэпутаты вышэйшага заканадаўчага органа маю кандыдатуру.

Калегі па працы падтрымалі мяне большасцю галасоў. Цікава, што вынікі канферэнцыі былі аспрэчаныя з-за працэдурных парушэнняў. Таму канферэнцыя адбылася зноў. І на гэты раз таксама працоўны калектыў аддаў перавагу юрысконсульту, які адпрацаваў у трэсце толькі каля чатырох гадоў.

Так была атрымана першая перамога над уладай у імя адстойвання грамадскіх інтарэсаў. І гэта быў першы крок да «Вясны».

Дэпутатам Вярхоўнага Савета я не стаў, бо пры пяці кандыдатах адбыўся другі тур выбараў, але ў ім ні я, ні мой супернік не набралі патрэбныя 50 працэнтаў плюс адзін голас.

Тым не менш патрапіў у дэпутаты гарадскога Савета. Мая «стажыроўка» ў гэтым малым парламенце дадала мудрасці. Я зразумеў, што ў заканадаўчым працэсе юрыдычныя веды не гарантуюць прыняцце рацыянальных рашэнняў. Там перамагае большасць аднадумцаў, аўтарытэт трэба заваёўваць паўсядзенняй працай. А гэта ўжо складнік палітыкі.

Так я апынуўся і ў гэтым працэсе — уступіў у Партыю БНФ і пачаў актыўную працу. Гэта быў другі крок да «Вясны».

Дзесьці каля 2000 года імкненне да пошуку аднадумцаў прывяло мяне ў наш праваабарончы цэнтр. Але гэта была толькі палова трэцяга кроку. Акурат пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года я канчаткова зразумеў, што бессэнсоўна палітыкам прабіваць сцяну з дапамогай рамантычнага ўдзелу ў выбарах, не маючы абароны ад фальсіфікацый, спадзеючыся на народны пратэст на Плошчы і на міжнародны ціск. Таму прыйшоў да высновы, што трэба сканцэнтраваць сілы на фіксаванні парушэнняў на выбарах, аналізе, арганізацыі ціску на ўладу з мэтай дамагчыся рэфармавання выбарчага працэсу.

Трэба адзначыць, што праца «Вясны» ў гэтым накірунку дае плён. Мала-памалу ахоўнікі працэдуры падліку галасоў — назіральнікі — наблізіліся да сталоў падліку галасоў, дзе-нідзе ўжо яны бачаць раскладку бюлетэняў на сталах падліку, а то і хапаюць фальсіфікатараў за рукі...

Мне могуць запярэчыць: маўляў, ну што ты пра гэныя выбары завёў кружэлку, кола ж правоў чалавека значна шырэйшае. Я магу адказаць.

Што для мяне значыць свабода? Гэта найперш сумленныя выбары без фальсіфікацый, якія даюць кожнаму грамадзяніну краіны адчуванне ўласнай значнасці і годнасці.

Другой складовай часткай з’яўляецца ўпэўненасць у справядлівасці суда і іншых дзяржаўных органаў. Гэта зноў-такі магчыма, калі мы ўсіх гэтых суддзяў, пракурораў і начальнікаў будзем выбіраць або прызначаць праз абраных намі дэпутатаў. Бо калі ж іх прызначае ідал, яны служаць менавіта ідалу, а не народу.

Калі гэта будзе, то ўсталюецца душэўны камфорт і з’явяцца спрыяльныя ўмовы для любой ініцыятывы па пабудове грамадства з няўхільна ўзрастаючым узроўнем дабрабыту і правоў чалавека.

У сувязі з юбілеем не магу не ўзгадаць маіх настаўнікаў — людзей, якія вялі мяне да «Вясны».

Не ведаю, ці адбыўся б я як праваабаронца, каб у сярэдзіне 1990-х гадоў Алесь Мілінкевіч, на той час кіраўнік Гарадзенскага абласнога грамадскага аб’яднання «Ратуша», не прапанаваў адчыніць у Смаргоні праваабарончую прыёмную і не падтрымаў яе працу. Пасля па рэкамендацыі Алеся я прайшоў навучанне ў тыднёвай школе правоў чалавека ў Варшаве, а затым 480-гадзінны Вышэйшы міжнародны курс па абароне правоў чалавека ў тым жа горадзе. Гэта было ў 2002–2003 гадах. Дарэчы, там маім настаўнікам быў слын-

ны польскі праваабаронца Марэк Навіцкі, лекцыі якога заварожвалі.

Падчас навучання я здружыўся з вядомым беларускім праваабаронцам Барысам Звозскавым, з якім мы жылі ў адным пакоі. Ён таксама шмат зрабіў у накірунку змянення светапоглядаў юрыста на светапогляды праваабаронцы. Мяне ўражвала яго імкненне быць лідарам у ведах. Ягоныя кантрольныя працы былі сярод лепшых.

Гэта імкненне Барыса быць увесь час у жыццёвым тонусе спальвала здароўе: ён уперамежку бязмерна піў каву і паліў. Ніколі скаргаў на здароўе не выказваў. Але на апошняй сесіі навучання, якая праводзілася пад Кіевам, нам даводзілася праходзіць ад месца пражывання да месца лекцый каля 300 метраў. І кожныя метраў пяцьдзясят Барыс спыняўся і адпачываў — калацілася сэрца. Пытаю: чаму аперацыю не робіш? Кажа, у Мінску чарга на іх, а платны варыянт не па кішэні. Я зразумеў, што ў такім стане сябру засталося жыць лічаныя месяцы. І тады неяк пры нагодзе выказаў гэта меркаванне Марэку Навіцкаму, спытаў, ці можна чым дапамагчы. Той выслухаў, нічога не абяцаючы. Але праз кароткі тэрмін Барысу ў Польшчы была зроблена аперацыя, пасля якой ён пражыў яшчэ каля 10 год. А для Марэка Навіцкага дапамога Барысу аказалася адной з апошніх добрых спраў на гэтым свеце — праз некалькі месяцаў ён сам сышоў з жыцця пасля цяжкай хваробы.

Вось такая праваабарончая салідарнасць і чалавечыя адносіны да сяброў.

Ну а я пасля заканчэння Вышэйшага міжнароднага курса ўжо ў стане даволі кваліфікаванага праваабаронцы стаў «вясноўскім».

Вясна ў прыродзе — гэта абнаўленне жыцця, надзея, адкрыццё новых шляхоў і думак. Вось і наша «Вясна»

для мяне асацыюецца з надзеяй на ўсталяванне ідэй правоў чалавека, пошукам і пракладваннем новых шляхоў да свабоды.

*4 красавіка 2016 года*




**2010.**

Сусветнавядомы брытанскі спявак Стынг падчас прыезду з канцэртам у Мінск сустрэўся з прадстаўнікамі кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Валянцінам Стэфановічам (справа) і Алегам Гулаком (злева) і падпісаў Петыцыю за адмену смяротнага пакарання.

18 верасня.

*Сяржук Русецкі*

## Аптымізм застаецца

У свой час я стаў сябрам «Вясны» хутчэй у выніку збегу абставінаў, а не ўсвядомленага мэтанакіраванага выбару. Але сёння «Вясна» і праваабарончая дзейнасць — гэта частка майго жыцця.

«Вясна» для мяне — гэта найперш вясноўцы, з многімі з якіх бачышся пару разоў на год, але адных вельмі паважаеш, другіх любіш, трэціх проста рады бачыць...

Як і любому нармальнаму чалавеку, мне падабаецца, калі ў выніку змагання атрымліваецца нечага дасягнуць, можа, далёка не заўсёды ў поўным аб'ёме — цалкам таго, чаго хацелася б, але выніку.

Мне падабаецца, калі, будучы назіральнікам на выбарчым участку, я магу, не замінаючы працы той жа камісіі, на свае вочы бачыць, што выбарчыя бюлетэні за аднаго кандыдата кладуцца ў стос «за» менавіта гэтага кандыдата, а бюлетэні ягоных канкурэнтаў — у іхнія стосы. Я разумею, што, гледзячы, як некалькі сяброў участковай выбарчай камісіі, за спінамі якіх я стаю, правільна па стосах раскладаюць бюлетэні (бо

бачу адзнакі ў гэтых бюлетэнях), я не магу ў гэты ж момант на свае вочы ўбачыць, як раскладаюць бюлетэні іншыя дзевяць сяброў камісіі справа, злева, насупраць за сталом. Але калі я падыходжу за іхнія спіны і назіраю за імі, то ў мяне няма падстаў лічыць, што яны працуюць несумленна. І зрабіўшы за спінамі камісіі з дзясятак колаў вакол стала, на якім раскладаюць бюлетэні, зыходзячы з прэзумпцыі невінаватасці, я не маю падставаў лічыць, што сябрам гэтай камісіі прыйшлося нешта «хімічыць», каб атрымаць неабходны для начальства вынік. Бо на гэтым выбарчым участку вынікі галасавання ў дзень выбараў былі падобнымі да вынікаў датэрміновага галасавання.

Мяне радуе, што на гэтым выбарчым участку сам працэс падліку галасоў прэзідэнцкіх выбараў — 2015 прайшоў такім чынам. Праўда, на парламенцкіх выбарах — 2012 на гэтым жа выбарчым участку я напрыканцы мог да таго ж на ўласныя вочы перагледзець кожны бюлетэнь, трымаючы ў сваіх руках кожны стос бюлетэняў з вынікамі галасавання. Але тады ў канцы «выбарчай кампаніі» ў бюлетэні застаўся адзіны праўладны кандыдат, і раённыя ўлады маглі дазволіць любы «разгул дэмакратыі» на адзіным у выбарчай акрузе ўчастку, дзе былі не залежныя ад уладаў назіральнікі. А я ж памятаю і прэзідэнцкія выбары — 2001, калі на гэтым жа выбарчым участку да раніцы ў нядзелю сургучовая тады яшчэ пячатка на скрынцы для папярэдняга галасавання «дзіўным чынам» павярнулася недзе на 120 градусаў ад таго стану, які ў яе быў яшчэ напярэдадні вечарам у суботу, ды і сургуч расцёкся зусім па-новаму. Безумоўна, тады ні сябры выбарчай камісіі, ні іншыя (праўладныя) «назіральнікі» нічога гэтага не заўважылі. І я нічым і нікому не мог даказаць тое, што бачыў на ўласныя вочы, але ж я тое бачыў. І вынікі галасавання ў дзень выбараў за Ганчарыка тады былі разоў у дзесяць большымі за ягоныя галасы ў датэрміновым галасаванні.

Мяне радуе, што працэс падліку галасоў прэзідэнцкіх выбараў — 2015 гэткім жа нармальным чынам прайшоў яшчэ на некалькіх участках, дзе былі нашыя назіральнікі: камісіі не хавалі ніякай інфармацыі, колькасць прагаласаваўшых у кожны дзень папярэдняга галасавання ў незалежных назіральнікаў супадала з афіцыйнымі вынікамі камісій...

Хоць я, безумоўна, разумею, што нават такі працэс падліку галасоў, які прынёс мне мае маленькія радасці, збольшага падаецца мне нармальным толькі ў нашых ненармальных умовах, у якіх мы цяпер жывём у нашай сучаснай Беларусі. Бо ні кожны сябар камісіі, ні кожны назіральнік не маглі на свае вочы пабачыць кожны бюлетэнь, як тое робіцца ў нармальных краінах. А такіх адносна нармальных выбарчых участкаў з адносна нармальным падлікам галасоў былі адзінкі. Ды і на гэтых участках скрынкі для датэрміновага галасавання апячатваліся пластылінаваю пячаткаю з аднолькавым для кожнага ўчастка ўсёй Беларусі адбіткам — «участковая камісія».

А што ўжо казаць пра іншыя — не ў такой ступені нармальныя ўчасткі, пра склад выбарчых камісій, умовы для дзейнасці палітычных і грамадскіх арганізацый, умовы і сродкі для агітацыі для розных кандыдатаў і г. д., і да т. п.?..

Мяне радуе, калі атрымліваецца дапамагчы некаму з тых, хто звяртаецца па дапамогу, у адстойванні іхніх правоў, калі атрымліваюцца хай невялічкія, але перамогі ў адстойванні нашых правоў. Хоць парою гадамі прыходзіцца лбом біцца, здаецца, у глухую сцяну.

Але ж змены паціху адбываюцца, хоць парою здаецца — занадта ўжо паціху, занадта эвалюцыйна.

І радуе, што аптымізм яшчэ застаецца, хоць і заўважна вычарпаўся.

*Сакавік 2016 года*



**2011.**

Сябры ПЦ «Вясна» каля сцен СІЗА № 1 Мінгарвыканкама па вул. Валадарскага праводзяць акцыю з нагоды дня народзінаў кіраўніка арганізацыі Алеся Бяляцкага, арыштаванага па палітычна матываванай крымінальнай справе.

25 верасня.

*Тамара Шчапёткіна*

# Пару слоў пра сябе

Я люблю расказваць пра іншых, абараняю ўсё жыццё, а за сябе рабіць гэта не люблю.

Чаму і як я стала праваабаронцам — упершыню задумалася пры напісанні гэтага эсэ.

Лічу, што з ваяўнічым характарам праваабаронцы трэба нарадзіцца. Гэта, хутчэй, недзе на генным узроўні. Як мне ўдалося высветліць, у шэрагах каліноўцаў змагаўся Казімір Андрэевіч. Магчыма, гэта наш продак па лініі мамы Ганны Андрэевіч, якая таксама мела ваяўнічы характар. Як мама, так і бацька Васіль Якубовіч падарылі мне сумленне, гонар, нескаронасць перад несправядлівасцю. У вёсцы Лясковічы на Бярозаўшчыне, дзе я нарадзілася, было прынята за разумнае думаць адно, гаварыць іншае, а рабіць яшчэ інакш. Я паходзіла з «неразумнай» сям'і, дзе што думалі, тое і гаварылі. Маму лясковіцкая грамада лічыла чужой. Бо яе сям'ю — маці і дзвюх сясцёр — вывезлі Саветы з-пад Буга пры «вызваленні».

З дзяцінства мела смелы і ваяўнічы характар. Калі мне было гадоў дзесяць, зімовым вечарам я вярталася

ад сяброўкі. Насустрач мне ішлі два дарослыя чужыя дзядзькі і спыталі, як знайсці Мікалая Рудскага. Ён жыў на іншай вуліцы з паўтара кіламетра ад маёй хаты. Але я, не вагаючыся, адказала: «Зараз я вас правяду». Калі вярталася назад, на мяне напаў сабака і парваў новае паліто. Я не спужалася сабакі, я заплакала па парваным паліто. Бо ведала, як нелёгка было маім бацькам яго набыць. У выніку мама насварылася перш за тое, што я даверылася чужым людзям, якія маглі пакрыўдзіць мяне, а затым за паліто.

Я заўсёды дапамагала ўсім, каму была ў гэтым патрэба і калі я магла дапамагчы. Так рабілі і мае бацькі. І ніколі ў жыцці не думала, што будзе для мяне пасля, калі я ўстану на бок дабра і справядлівасці. Калі я стала дарослай, было вельмі нялёгка ў савецкія часы з такім характарам. Нялёгка і цяпер у аўтарытарнай Беларусі.

У перыяд працы настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе № 3 Белаазёрска (дзе я вучыла дзяцей «разумнаму, добраму» чвэрць веку) упершыню я праявіла свой характар падчас шальмавання Аляксандра Салжаніцына на настаўніцкім сходзе. Каб выказаць падтрымку палітыцы дзяржавы ў справе высылкі Аляксандра Салжаніцына з СССР і яго асуджэння за антысавецкую прапаганду падчас эміграцыі, настаўніца матэматыкі (цяпер ужо нябожчыца) палымяна, з патрыятычным запалам кляйміла здрадніка вялікай дзяржавы. Я не вытрымала і задала пытанне: «А што вы з Салжаніцына чыталі?» У той час я мела гонар прачытаць «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Аратарка, не чырванеючы, адказала: «Нічога, але я веру партыі і ўраду». Маё пытанне не засталося незаўважаным. Так я трапіла ў спіс нядобранадзейных назаўсёды. Да мяне ніколі не падыходзілі за подпісам у інстанцыі па асуджэнні калегі, які не дагадзіў дырэктару школы і раздражняў апошняга, ці нейкай іншай кляўзы. Затое ганімыя заўсёды хіліліся да мяне, а я даставала за гэта

ад начальства. Магла за сябе і за несправядліва пакрыўджаных пастаяць заўсёды. Але ж і ўзнагарод ніколі не мела, хаця была ў нешматлікай на першых часах групе настаўнікаў вышэйшай катэгорыі і перавучыла амаль усіх дзяцей сваіх калег, а яшчэ лічыла высокай узнагародай, калі да мяне прыходзілі бацькі прасіцца, каб узяла дзяцей у свой клас.

Прыходу ў дэмакратычны стан я ўдзячна паэтцы Ніне Мацяш, якая арганізавала літаратурны гурток «Агмень» і паклікала мяне туды. А старшыня партыі БНФ запрасіў на паседжанне. Так я трапіла спачатку ў грамадскае аб'яднанне «Беларускі народны фронт», а пазней стала сябрам Партыі БНФ. І пачала весці працу ў калектыве. Насіла дэмакратычную прэсу і раскладвала на сталах у настаўніцкай, вяла дыскусіі пра новае магчымае жыццё. Газеты разыходзіліся па руках імгненна. У выніку ў нашай школе адбылася першая забастоўка ў Бярозаўскім раёне падчас затрымак заробку. Таксама калектыў падпісаў тэлеграму з пратэстам у Вярхоўны Савет, калі выйшлі газеты з белымі паласамі, з ненадрукаваным антыкарупцыйным дакладам Сяргея Антончыка. Калектыў умеў не толькі ваяваць, але і працаваць. Школа на той час была лепшай у Бярозаўскім раёне.

Потым я стала дэпутатам Белаазёрскага гарадскога Савета, а сяброўка мая Галіна Гарбейка — дэпутатам Бярозаўскага раённага Савета. Тут з'явіліся большыя магчымасці дапамагаць людзям. Таксама было шмат зроблена для людзей. Да майго гонару ў канцы майго тэрміну гарвыканкам у мясцовай прэсе надзяліў мяне тытулам лепшага дэпутата. На другі тэрмін я не пайшла, бо памяняла месца жыхарства.

У раённым горадзе Бярозе, куды мы пераехалі, начальнік ідэалагічнага аддзела райвыканкама таго часу Мікалай Сакалоўскі сказаў: «Вы ніколі не будзеце тут працаваць у школе, мы не дамо вам сапсаваць яшчэ

адзін калектыў». Пяць гадоў я ездзіла дзень у дзень за 26 кіламетраў на працу ў школу № 3 Белаазёрска, якая стала роднай. Але калі мне споўнілася 50 гадоў і была прапанавана работа ў незалежнай газеце «Газета для вас», то я перайшла на працу ў газету, атрымаўшы льготную пенсію. Я лятала на крылах у новай якасці па раёне, калі зноў з'явілася афіцыйная магчымасць дапамагаць людзям. Мне дазвалялася стасавацца з чыноўнікамі ў якасці журналіста і гаварыць: робіце незаконна, так нельга. Атрымалася так, што да мяне ў кватэру не зачыняліся дзверы пакрыўджаных уладамі. Я старалася ўнікнуць у кожную справу, па магчымасці дапамагчы і, канечне, агучваць гэтыя праблемы. А карупцыйныя канфлікты з удзелам чыноўнікаў і нават работніка пракуратуры выклікалі шквал судоў. У такой сітуацыі мяне проста не маглі не засудзіць. Першая справа ў Беларусі ў 2002 годзе, калі журналіста абвінавацілі ў лаянцы матам, — гэта была мая справа. Тады ў поле майго зроку выпадкова трапілі незнаёмыя мне тады памочнік пракурора Аксана Гардзіенка і загадчыца адвакацкай канторы Наталля Літвінчук, якія куплялі ў пенсіянерак неліцэнзійныя цыгарэты, а я рыхтавала артыкул пра жыццё пенсіянерак. І ўвага мая была засяроджана зусім не на цыгарэтах, але маладыя спадарыні пры ўладзе падумалі інакш і скляпалі справу. Звярнуліся ў суд, не грэбуючы дапамогай ілжэсведкаў, што я лаяся на іх матам. Так я атрымала свой першы штраф у 11 000 рублёў. Гэты штраф мне «адрыгнуўся» пазней, калі я балатавалася ў абласныя дэпутаты. Старшыня суда Вадзім Мазоль, які ў 2002 годзе быў простым суддзёй і вёў справу аб маім мацюканні і які добра зразумеў сутнасць, перад выбарамі ў раённы і абласны Саветы напісаў у мясцовую газету ганебны артыкул, што кандыдат Шчапёткіна нявыхаваная, і нагадаў грамадзянам пра суд за ненарматыўную лексіку ў адрас гэтых дзвюх клуш.

Праўда, шанец стаць дэпутатам у мяне ўсё-такі быў, але ўжо насталі часы размеркавання дэпутацкіх месцаў. Чаму я так упэўнена? Перад чарговымі выбарамі ў мясцовыя і абласныя Саветы начальнік ідэалагічнага аддзела райвыканкама Генадзь Курыловіч пацікавіўся, ці буду я балатавацца. Калі на запыт я адказала запытам: «А што?», то ён сказаў: «Калі так, то мне вас шкада». Праз пару дзён у мясцовай раёнцы з'явіўся артыкул, дзе я падавалася нават як польская шпіёнка ў ролі карэспандэнта Беларускага радыё «Рацыя», дзе я на той час працавала і працую сёння.

Мая жыццёвая пазіцыя і жаданне жыць па закону ў Беларусі прывялі мяне ў 2000 годзе ў праваабарончы цэнтр «Вясна», сябрам якога я з'яўляюся і да гэтага часу і ганаруся гэтым.

*Сакавік 2016 года*




**2012.**

Сябры ПЦ «Вясна» каля партрэта Алеся Бяляцкага, усталяванага перад мэрыяй 11-й акругі Парыжа, дзе знаходзіцца офіс FIDH, з прэзідэнтам FIDH Карымам Лахіджы (трэці злева), ганаровым прэзідэнтам Суэр Белхасен (чацвёртая злева) і генеральным дырэктарам Антуанам Бернарам (крайні справа).

*Сяргей Сыс*

## На «Вясне» не бранзавеюць

«Вясна» магла і не адбыцца ў маім жыцці: прайсці недзе побач альбо застацца, як гэта мне бачылася ў даўнейшыя часы, арганізацыяй, што апантана бароніць правы чалавека. Недзе там, у іншым свеце, па-за мною. А магчыма, што нашыя шляхі маглі б некалі перастрэцца, імаверна ў тым выпадку, калі б мне спатрэбілася дапамога ці парада праваабаронцаў.

Жыццё распарадзілася інакш. Адразу пасля пераезду напрыканцы 2006 года з Гомеля ў Мінск да жонкі і дачушкі паўстала пытанне пошуку журналісцкае працы. І пошук той быў няпростым з некалькіх прычынаў. Найперш, ісці на дзяржаўную «службу» ды спяваць там пад ідэалагічную дуду мне даўно ўжо не хацелася, гідка нават было. З іншага боку, як тут, у сталіцы, было ўладкавацца гамяльцу ў аўтарытэтнае выданне без гучнага журналісцкага імя альбо, на скрайні выпадак, без сяброў ды знаёмых?

Дні праходзілі ў чаканні адказаў з часопісаў ды газетаў на шматлікія рэзюмэ, у субяседаваннях, сустрэчах і абяцаннях патэлефанаваць неўзабаве. Нарэшце

мне, крыху ўстурбаванаму досыць працяглым працаўладкаваннем, абяцаўся дапамагчы мой даўні сябар і таварыш Алесь Бяляцкі. Дык і тое ж не адразу звычайна робіцца.

Нечакана знайшлося для мяне «цёплае» месцейка ў невялікім калектыве часопіса, тэматыка якога была звязаная з ахowай працы. Кажуць жа, што часам і рак — рыба. Думалася, год-другі адпрацую тут, абвыкнуся ў сталіцы ды знайду нешта цікавейшае. Але ў першы працоўны дзень патэлефанаваў Алесь Бяляцкі: «Трэба сустрэцца».

А раніцай 3 сакавіка 2007 года мяне пазнаёмілі з калектывам «Вясны», патлумачылі абавязкі. У невялікім памяшканні — маладыя юнакі і дзяўчаты з асветленымі тварамі, вольна гучыць беларуская мова. У той дзень са мной здарылася яшчэ нешта, загадкавае і містычнае, якому зараз, праз гады, надаю асаблівую ўвагу.

Той старэнькі камп'ютар, за якім мне выпадала працаваць, быў пад паролем. На маё пытанне, што ж за пароль пакінула мая папярэдніца Паліна, адказалі: «Сыс». Значна пазней уцяміў, што не ў мой гонар прозвішча; гаворка пра майго земляка, паэта-трыбуна Анатоля Сыса. Але тады гэтая акалічнасць зрабіла на мяне вялікае ўражанне.

Казаць, што я ўвогуле нічога не ведаў пра дзейнасць «Вясны» раней, — казаць няпраўду. Раз-пораз я сустракаўся з Алесем Бяляцкім у час ягоных прыездаў у Гомель ці маіх у Мінск, ведаў, што ён не толькі літаратуразнаўца і былы музейшчык, але і праваабаронца і бароніць правы чалавека. Ведаў я таксама пра стаўленне ўладаў да арганізацыі, пра пераслед яе сяброў. Узгадваецца нават, як у 1999 годзе, позняй восенню ці на самым пачатку зімы, па нейкіх сваіх клопатах прыехаў вечаровым цягнікам у Мінск, падаўся да Бяляцкага ў «Вясну». Выйшаў з метро каля Акадэміі навук

і схамянуўся: бягуць людзі, паўсюль міліцыя і крыкі праз мегафон: «Разыходзьцеся, акцыя несанкцыянаваная!» Да мяне, з дарожнымі валізамі, «органы» не чапляліся, і праз некалькі хвілінаў я пераступіў парог праваабарончага цэнтра. Тут было яшчэ болей тлумна, чым на праспекце, — адзін за адным заходзілі ўсхваляваныя людзі, нехта тэлефанаваў, хтосьці складаў доўгія спісы, у пакункі складваліся прадукты харчавання. «Гэта для затрыманых», — коратка патлумачыў мне Алесь і прапанаваў забіцца ў які-небудзь куток і не перашкаджаць іхняй працы. Паразмаўляць змаглі мы толькі каля апоўначы. А нанач мне паслалі офісную канапку.

З першых дзён новай працы аказалася, што веды мае пра дзейнасць праваабарончага цэнтра «Вясна» вельмі павярхоўныя. Мне, які аддаў журналістыцы пару дзясяткаў гадоў і лічыў сябе дасведчаным у розных сферах жыцця, было сорамна за сваю дрымучасць у сферы абароны правоў чалавека — я ўпершыню адкрываў для сябе гэтыя белыя старонкі.

Але побач былі «вясноўцы», якія, нягледзячы на свае справы, цярпліва і падрабязна тлумачылі мне пра грамадзянскія і палітычныя правы, пра міжнародныя інстытуты абароны правоў чалавека, пра спецыфіку беларускага заканадаўства. А яшчэ і правільна пісаць пра гэта трэба было, каб не нашкодзіць, каб даць праўдзівую і граматную ацэнку падзеям. Адной з такіх настаўніц была на той час і мая старэйшая калега па працы Алена Лапцёнак.

Праз нейкі час я патрапіў у Летнюю праваабарончую школу па правах чалавека для настаўнікаў, што дазволіла мне глыбей пазнаёміцца з гісторыяй і філасофіяй правоў чалавека, магчымасцямі іх абароны на нацыянальным і міжнародным узроўнях, знайсці новых сяброў і аднадумцаў.

Штодня я адкрываў для сябе новых цікавых лю-

дзей, аўтарытэтных спецыялістаў у розных сферах праваабарончай дзейнасці, знаёміўся з партнёрскімі арганізацыямі. Паколькі ў грамадзянскім і праваабарончым асяродку Мінска я быў чалавекам практычна невядомым, часта даводзілася адказваць на простае пытанне: «Прабачце, а вы адкуль?»

— З «Вясны», — ціха казаў я, заўважаючы пры гэтым павагу да сябе з боку субяседніка. Гэтая павага, безумоўна, сведчыла пра вялікі аўтарытэт арганізацыі і важнасць той справы, якую робіць яна. Гэтае разуменне наклала адбітак на маё асабістае ды грамадскае жыццё, я зразумеў і прыняў як крэда, што не мусіць з майго боку быць аніякіх учынкаў, слоў, дзеянняў, якія б маглі кінуць хоць невялікі цень на аўтарытэт «Вясны», заваяваны шматгадовай карпатлівай дзейнасцю яе сяброў.

У верасні 2007 года я ўпершыню адчуў на сабе, чым ёсць насамрэч праваабарончая і журналісцкая салідарнасць. У Нясвіжы тады разглядалася крымінальная справа актывісткі «Маладога фронту» Насты Азарка, якую вінавацілі ў дзейнасці ад імя незарэгістраванай грамадскай арганізацыі. Я таксама быў на судзе ў якасці журналіста, асвятляў працэс, рабіў фотаздымкі. Толькі за гэта мяне і затрымалі супрацоўнікі міліцыі. Упершыню ў жыцці. Некалькі гадзінаў давялося пасядзець у камеры для затрыманых, затым зайшоў афіцэр і загадаў пакінуць РАУС, маўляў, паколькі там, у Мінску, многія СМІ ўжо распісалі пра затрыманне журналістаў. Выпадкаў такіх было некалькі, але да складання адміністрацыйных пратаколаў не даходзіла, паколькі кожны факт гвалтоўнага захопу журналіста адразу ж станавіўся вядомы многім праз салідарнасць калегаў.

«Вясна» шмат дае і шмат забірае. Няма ў праваабаронцаў у звыклым разуменні абсалютна вольных выходных, вольнага часу пасля працы. Можа здарыцца ўсялякае, і ты мусіш выканаць сваю справу. Не, гэта

не столькі навязаны зверху працоўны абавязак, гэта проста лад жыцця, стан душы, калі хочаце.

Зараз модным стала казаць аб прафесійным выгаранні, аб тым, што з гадамі чалавек стамляецца ад руціннай працы, згарае, яму патрэбныя перамены. Асабліва калі амаль штодня сутыкаешся з праявамі гвалту, несправядлівасцю, зламанымі чалавечымі лёсамі ды іншым негатывам. Я таксама задумваўся: ці надоўга хопіць мяне ў «Вясне»? Калі ўжо трэсне мая абалонка і я расцякуся бурбалкамі па гэтай зямлі? Але пытанне гэтае вяртаецца да мяне бумерангам: «А наколькі мяне самога хопіць без “Вясны”?»

Мае дзевяць «вясноўскіх» гадоў былі насычаныя не толькі разнастайнымі творчымі момантамі, цікавымі мерапрыемствамі, сустрэчамі. Траплялiся ў гэтай «кнізе падзей» і змрочныя старонкі.

Найбольшым выпрабаваннем для мяне, і, безумоўна, для кожнага з нас, з’явіўся суд і зняволенне старшыні арганізацыі Алеся Бяляцкага. Часам навальваўся адчай, хацелася кусаць локці ад безвыходнасці, аднойчы нават праступілі на вачах слёзы. Я не саромеюся іх. Як сцятая спружына, мы ўсе разам працавалі больш пругка, дынамічна і трошкі са злосцю і — выстаялі, дачакаліся вызвалення Алеся.

Аднойчы напрыканцы дня, стомлены працаю, я адмахнуўся ад просьбы свайго калегі Уладзіміра Лабковіча. Уладзя падышоў і коратка мне адказаў: «Сяргей, тут нельга бранзавець, на “Вясне” не бранзавеюць». Сапраўды, гэта так, і сёння я ганаруся, што амаль палову юбілярных дваццаці гадоў я пражыў разам з «Вясною». Спадзяюся, што гэта ўзаемна.

*Сакавік 2016 года*




**2013.**

У чэрвені сябры ПЦ «Вясна» разам наведалі знакамітыя могілкі «Росы», дзе пахаваны вядомыя дзеячы беларускай культуры і нацыянальнага адраджэння, і сфатаграфаваліся каля магілы беларускага драматурга і літаратара Францішка Аляхновіча (на здымку на заднім плане).

Вільня.

*Наста Лойка*

# 6/20, альбо Як ужываюцца праваабарончыя пакаленні

Нешта з гісторыі «Вясны» я ведаю па арганізацыйных легендах і чутках, нешта заспела сама. І за 20 год шмат што змянілася, як звонку, так і ўнутры. Я ў гэтым эсэ хачу пагаварыць пра змену пакаленняў праваабаронцаў, пераемнасць і канфлікт паміж імі, пра тое, чаму яны вучаць нас, а мы іх. Бо хто, калі не я.

Пэўныя пакаленчыя асаблівасці ў межах нават адной арганізацыі відавочныя. Мой калега Валянцін Стэфановіч часам кажа: «Добра вам, моладзі. Вы можаце зараз лёгка атрымаць інфармацыю і навучанне па правах чалавека, у пачатку маёй працы нічога такога не было, усё даследавалі самі...» Не магу не пагадзіцца. Мне, напрыклад, вельмі пашанцавала: на мой праваабарончы досвед паўплывалі розныя школы і падыходы, я магла згенераваць сваё разуменне, правяраць яго практыкай і потым нават трансляваць іншым.

У 21 год, калі мне прапанавалі працу юрысткі ў вясноўскай грамадскай прыёмнай, сумневы пра бліжэйшыя планы на жыццё зніклі, хутка зніклі. Гэта было тое, чым хацелася займацца, але трэба было налаўчыц-

ца пераймаць досвед у больш «прашараных» праваабаронцаў, тлумачыць маці, чаму да мяне прыходзяць з вобшукам, і ўвогуле вывучыць на памяць артыкул $193^1$ Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь*. Ці тлумачыць іншым, што ты не робіш нічога злачыннага, а проста спрабуеш трошкі змяніць свет да лепшага.

Першыя пару гадоў мне былі проста незразумелыя гісторыі пра тое, што «супрацоўніца звольнілася ў выніку псіхалагічнага выгарання». А потым адчула: шмат гадоў робіш адно і тое, але сістэмна нічога не змяняецца, ты толькі змякчаеш наступствы рэпрэсій і агучваеш іх... Некаторыя мае калегі фантастычна ўмеюць прагаворваць свае працоўныя перажыванні ўслых. Так, наш каардынатар кампаніі супраць смяротнага пакарання Андрэй Палуда ўсім распавядае асаблівасці кожнага новага кейса, усе самыя страшныя моманты, ад якіх хочацца проста збегчы ці схавацца пад стол. Але яму мо хоць трошкі становіцца лягчэй...

Асобным досведам быў час зняволення Алеся Бяляцкага, калі хапала палітвязняў у прынцыпе, а мы мусілі працаваць яшчэ лепш, каб яму было спакайней у тым нялёгкім турэмным выпрабаванні. У той жа час з лістоў Алеся я магла даведацца, паспрачацца, зразумець нешта пра яго праваабарончы падыход, бо на волі нам звычайна не ставала часу гэта абмеркаваць.

Канешне, часам у агульнай камунікацыі я сутыкалася з праблемамі і непаразуменнем, але гэта не абавязкова праз пакаленчыя асаблівасці, а часам проста праз гарачы характар і імклівасць. Напрыклад, пару разоў я вельмі хацела паспрабаваць аб'яднаць праваабарончыя намаганні розных людзей і арганізацый па асобных праблемах, але гэта мне аказалася не па сілах.

Праваабарончыя падыходы старэйшай і маладзейшай генерацый праваабаронцаў часам істотна розняцца,

* Незаконныя арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі ці фонда альбо ўдзел у іх дзейнасці — да двух гадоў пазбаўлення волі.

і мы спрачаемся. Напрыклад, я заўжды транслюю прынцыповую адасобленасць палітыкі і правоў чалавека. Бо не разумею, як інакш можна выканаць сваю праваабарончую функцыю і прымусіць дзеючую ўладу выконваць узятыя на сябе абавязкі ў галіне правоў чалавека.

Асноўнае адрозненне праваабаронцаў і палітыкаў — у канчатковай мэце. І калі для першых правы чалавека — канчатковая мэта, для другіх жа — толькі сродак. У той час, як уся дзейнасць палітыкаў скіраваная на дасягненне ўлады. Галоўная ж задача праваабаронцаў — кантраляваць, як улада выконвае свае абавязкі ў галіне правоў чалавека. Быць «шчытом» у стасунках паміж чалавекам і дзяржавай, уплываць на абодва бакі, рабіць іх больш гуманнымі і чалавечнымі. І прасцей гэта рабіць з палітычна нейтральных пазіцый.

Але калі прыгадаць гісторыю ўзнікнення той жа «Вясны», то ў яе складзе былі і апазіцыйныя палітыкі, і дзеючыя дэпутаты, і шмат для каго праваабарончая дзейнасць успрымалася як працяг пратэстнага руху. На жаль, не ўсе гэтую пазіцыю пераасэнсавалі дасюль.

Раней я сутыкалася з тым, што для старэйшага пакалення правы чалавека не заўжды былі паняткам універсальным. Можна было пачуць гамафобныя, расісцкія альбо сэксісцкія выказванні. Аднак зараз заўважаю гэтага ўсё менш. Такія рэчы ўсё больш робяцца прыкметай людзей, што займаюцца каляправаабарончай дзейнасцю, але па сутнасці не зусім нашых аднадумцаў.

І на завяршэнне антытытунёвая гісторыя вясноўцаў. Калі напрыканцы 2005 года прымалі змяненні ў Крымінальны кодэкс і ўводзілі артыкул $193^1$, была інфармацыя, што яго ледзь не наўмысна пісалі пад «Вясну». Была вялікая верагоднасць «пасадак», а паліць на зоне эканамічна невыгодна, як вядома. Для некаторых з калег гэта стала добрым стымулам, каб назаўсёды кінуць паліць. Які з рознай паспяховасцю, але перадаецца ў пакаленнях.

*Красавік 2016 года*



**2014.**

Родныя, калегі, сябры, журналісты і паплечнікі сустракаюць на пероне старшыню ПЦ «Вясна» і віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага, нечакана вызваленага з бабруйскай калоніі ў першы дзень правядзення амністыі. За кратамі палітвязень правёў 1052 дні — амаль тры гады.

21 чэрвеня.

*Фота Максіма Гацака.*

*Алена Лапцёнак*

# Наблiжэнне вясны, альбо Вясна на маёй вулiцы

О, весна без конца и без краю —
Без конца и без краю мечта!
Узнаю тебя, жизнь! Принимаю!
И приветствую звоном щита!

*А. Блок*

Вясна! Адразу хочацца пачаць чытаць вершы. І, як былой навуковай супрацоўніцы музея Максіма Багдановіча, мне найперш прыгадваюцца радкі, напісаныя класікам беларускай літаратуры, паэтам Страцім-лебедзем:

Холадна. Вецер па полі гуляе,
Вые, як звер,
Снег узрывае, нуду наганяе, —
Кепска цяпер!
Але мне сэрца пяе: не нудзіся!
Прыйдзе вясна!
Гукне: «Прачніся, зямля! прабудзіся
З цяжкага сна!»

Сонца прагляне, зазелянее
Траўка ў лугу,
Гукне вясна і, як ветрам, развее
Гора-нуду!

Гэта адзін з першых вершаў, напісаны Максімам Багдановічам і надрукаваны ў «Нашай Ніве». Таго ж 1908 года і верш іншага класіка, песняра беларускага народа Янкі Купалы «Яшчэ прыйдзе вясна!»:

Не пужайся, што здрадныя хмары
Неба ўслалі з канца да канца,
Што свае цемната ўнесла чары,
Закружыўся груган над папарам:
Яшчэ прыйдзе вясна!

Поўныя аптымізму радкі двух паэтаў, дзе адчуванне надыходу светлага лепшага дня грунтуецца на заканамернай змене адной пары года другой: пасля зімы абавязкова надыходзіць вясна. І вера ў гэткую непазбежнасць надае сілы ў чаканні жаданых пераменаў, а вобраз вясны — сімвал адраджэння і вызвалення роднага краю, абуджэння нацыянальнай свядомасці, імкнення да свабоды.

Разам з тым мне даволі блізкі ўзнёслы, у нечым нават ваяўнічы настрой узятага за эпіграф верша Аляксандра Блока, калі гаворка заходзіць пра вясну, — такі гімн жыццю, якое прымаецца ў любых яго праяўленнях: «Принимаю тебя, неудача, и удача, тебе мой привет!», «И смотрю, и вражду измеряю, ненавидя, кляня и любя… все равно: принимаю тебя!» А ў звоне шчыта гучыць непахіснасць перад выпрабаваннямі і намер супрацьстаяць ім да самага канца.

Гэты верш напісаны Аляксандрам Блокам на год раней за беларускіх класікаў, у кастрычніку 1907-га. Не ведаю, наколькі паўплываў на паэта тагачасны агульны рэвалюцыйны настрой, але я прымаю эмацыйны пасыл, адчуваю моцны імпульс, і мне вельмі падабаецца такі лірычны герой.

Ну вось, вершы пачыталіся пры згадцы пра вясну ў якасці пары года — ой, далёка ж не ўсе! Тым не менш лірычнае адступленне аб'яўляю завершаным.☺

А цяпер уласна пра «Вясну» як арганізацыю актывістаў-праваабаронцаў, людзей, што аказваюць падтрымку іншым у адстойванні чалавечай годнасці. Бо правы чалавека, на маю думку, якраз і ёсць усведамленне каштоўнасці менавіта самога чалавека, яго годнасці — жыцця, свабоды, магчымасцяў самарэалізацыі і ўласнага выбару. Калі «чалавек — гэта гучыць годна». І калі дзяржава спрыяе захаванню правоў сваіх грамадзян, бо правы чалавека парушаюцца паўсюль, няма ідэальных краінаў, у дзяржаве мусіць працаваць сістэма, праз якую можна аднавіць свае парушаныя правы. У Беларусі існуюць суды, пракуратуры, іншыя дзяржаўныя органы, якія нібыта могуць выконваць падобную функцыю, але, як паказвае практыка, гэтая сістэма не бароніць парушанае права канкрэтнага чалавека, яна, як правіла, займае супрацьлеглы бок.

«Вясна» зарадзілася ў сценах музея Максіма Багдановіча, дзе працаваў дырэктарам на той час Алесь Бяляцкі. «Вясна» выспявала не адзін год, спачатку гэта была гарадская арганізацыя «Праваабарончы цэнтр "Вясна-96"», якая з цягам часу аформілася ў рэспубліканскае аб'яднанне з філіяламі ў розных рэгіёнах краіны. Тады праваабаронцаў у чыстым выглядзе і не было, былі партыйныя актывісты, грамадскія, культурныя дзеячы, адраджэнцы беларускай нацыянальнай ідэі. І калі ў незалежнай Беларусі пачаліся масавыя рэпрэсіі, трэба было камусьці ўзяць на сябе арганізацыю дапамогі ахвярам палітычнага супрацьстаяння. Вось яны і ўзялі. Ужо потым сябрамі арганізацыі паступова засвойвалася тэорыя правоў чалавека, на семінарах вывучаліся міжнародныя механізмы і працэдуры.

Мой шлях да нашай «Вясны» абсалютна закана-

мерны. Так, шмат у жыцці здаралася нібыта розных выпадковых сустрэч, быццам бы не звязаных паміж сабой падзей, але за ўсім гэтым хавалася непазбежная воля лёсу. Здаецца, так было ад самага пачатку.

Калі ў дзяцінстве я запыталася ў бабулі, чаму мяне назвалі Аленай, яна распавяла казку пра жудаснага звера, што хаваўся ў гародзе і пыхкаў, не даючы бабе з дзедам вырваць рэпу, і іх смелую ўнучку Алёнку, якая не спалохалася гэтага страшыдлы, а ім аказаўся ўсяго толькі вожык Пых. Прыемна было адчуваць сябе такой адважнай і кемлівай дзяўчынкай, што не пасуе перад абставінамі. Безумоўна, гэта ўсяго толькі казка, а не гераічная гісторыя, якая вяла мяне па жыцці.

А па жыцці мяне з сямігадовага ўзросту павялі два школьныя настаўнікі з больш чым 35-гадовым стажам, якім прыйшлося з пэўных прычын узяць на сябе такі клопат. Бабуля выкладала хімію, а дзядуля біялогію, на той час яны абое ўжо выйшлі на пенсію і ў школе не працавалі. Я па характары зусім не падарунак, але ім не прыйшлося прыкладаць асаблівых намаганняў, каб выгадаваць мяне прыстойным чалавекам, бо асноўным прынцыпам быў уласны прыклад. І для мяне гэта аказаўся своеасаблівы бонус у жыцці, хоць зразумела я гэта нашмат пазней, калі аддзячыць спазнілася назаўсёды. І цяпер часта ў думках прашу прабачэння за тыя моманты, калі рабіла балюча.

Кожны з нас так ці інакш мусіць рабіць уласны выбар — з кім сябраваць, на каго вучыцца, з кім жаніцца, дзе працаваць, каму давяраць, дзеля чаго гатовы ахвяраваць і г. д. Выбар залежыць ад тваіх мэтаў, каштоўнасцей, чаканняў, жаданняў, мараў, і толькі мёртвая рыба плыве па плыні. А калі ты пагаджаешся, што толькі ты сам нясеш адказнасць за свае паводзіны і ўчынкі, за свой выбар, тады не будзеш наракаць на лёс, абставіны ці іншых людзей.

Абвостранае пачуццё справядлівасці, напэўна,

якасць любога з тых, хто звязаны з праваабаронай і рознымі шляхамі дайшоў да «Вясны», плюс жаданне дзейнічаць, не змаўчаць. Аднойчы ў школе я арганізавала забастоўку супраць школьнай сталоўкі. Прычынай паслужыла гарбата, якую зусім немагчыма было піць на працягу некалькіх дзён з-за брыдкага прысмаку. Я магла змірыцца са зліплымі макаронамі ці з хлебнымі катлетамі, якія можна проста не есці, а набыць у буфеце коржык, бублік ці булачку. Але абысціся без гарбаты ну ніяк не магла ні тады, ні цяпер. І я ўчыніла акцыю пратэсту, нягледзячы на тое, што была бясплатніцай і харчавалася ў школе задарма. Гэта, трэба сказаць, была падзея.

Пазней з-за пэўных непаразуменняў з маладым спецыялістам — настаўніцай матэматыкі, якую прыслалі ў школу па размеркаванні і далі ёй да таго ж класнае кіраўніцтва ў нашым выпускным класе, я пайшла вучыцца на філфак. Маладая матэматычка, здаецца, з чырвоным дыпломам скончыла інстытут, але без адпаведнага педагагічнага вопыту, а магчыма і таленту, а таксама з-за невялікай розніцы ў гадах паміж намі, дзесяцікласнікамі, і ёй. Адносіны не вельмі складваліся. Яна здавалася занадта высакамернай, не разумела, што прыехала працаваць у сельскую школу, што тут свае асаблівасці. На той час я вельмі любіла геаметрыю: даказваць тэарэмы, шукаць невядомае, а вось алгебру — так сабе. Вучылася добра, была камсоргам школы. Але калі пасля атрымання атэстата мне прапанавалі мэтавае накіраванне на філалагічнае аддзяленне Белдзяржуніверсітэта, я, павагаўшыся, усё ж вырашыла ім скарыстацца, хоць у прыёмнай камісіі нейкі час хадзіла паміж сталамі матэматычнага і філалагічнага факультэтаў.

Так амаль выпадкова я апынулася ў беларускамоўным асяродку. Не адразу, канешне, бо ўвесь курс не быў беларускамоўным, але тым не менш спецыялізацыя вымагала

пагружэння ў нацыянальна-культурна-літаратурны кантэкст. На беларускім аддзяленні таксама навучаліся маладыя творцы, паэты, дзеці пісьменнікаў, а сярод выкладчыкаў — Ніл Гілевіч, Алег Лойка, Вячаслаў Рагойша, Любоў Тарасюк. З аспірантамі Сяргеем Кавалёвым і Паўлам Навуменкам нашы студэнты ездзілі на бульбу.

Дагэтуль памятаю сваё ўражанне ад лекцыі Алега Лойкі пра Францыска Скарыну, як ён паўшэптам пявуча прамаўляў — Францi-і-шак, Цi-іша. Вельмі эмацыйна Алег Антонавіч чытаў лекцыі — паэт.

Мае студэнцкія гады — гэта другая палова 80-х, досыць цікавы час, прадвесне будучых вялікіх пераўтварэнняў, развалу СССР і абвяшчэння незалежнасці Беларусі. У краіне ўжо поўным ходам разгортваўся нацыянальна-адраджэнскі рух, быў створаны аргкамітэт Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». Моладзь слухала «Мрою», спявала песні Данчыка, Сержука Сокалава-Воюша.

З трэцяга курса я жыла разам з сяброўкай-аднагрупніцай Палінай Качатковай, дачкой выкладчыкаў Гомельскага ўніверсітэта. Яшчэ школьніцай яна пазнаёмілася з беларускамоўнымі студэнтамі Алесем Бяляцкім і Анатолем Казловым, якія бывалі ў іх дома. Падчас нашага студэнцтва і Алесь, і Анатоль навучаліся ў Мінску ў аспірантуры Акадэміі навук, жылі ў інтэрнаце, дзе ўжо мы былі частымі гасцямі. Каб завітаць, асаблівай нагоды і шукаць не варта было: канцавы прыпынак 20-га аўтобуса, адкуль мы ехалі дадому, знаходзіўся проста насупраць акадэмічнага інтэрната.

Захаваліся здымкі, як восенню 1989 года пяцёра нас, сябровак-аднагрупніц, паехалі на экскурсію ў Львоў, дзе ўсё паветра было прасякнута п’янкім водарам свабоды, — як-ніяк Заходняя Украіна! Там мы адразу адшукалі месца збору нацыянальна арыентаваных украінцаў і паехалі з імі ў Чарнаўцы на песенны фестываль «Червона рута». Недзе праз месяц ужо яны прыехалі да нас на «Дзяды», а пасля мітынгу мы вярталіся дахаты праз увесь горад на

вуліцу Ілімскую, ускраіну ў Заводскім раёне, дзе жылі, пад сіне-жоўтым фанам і бел-чырвона-белым штандарам.

Студэнцкія гады ў прынцыпе згадваеш з асаблівай прыемнасцю — столькі розных падзеяў, прыгодаў, знаёмстваў. Такое насычанае было жыццё!

Летам пасля чацвёртага курса таксама з Палінай па рэкамендацыі Алеся мы паехалі ў археалагічную экспедыцыю на Палессе, арганізаваную аспірантам-гісторыкам Міколам Крывальцэвічам. Калі не памыляюся, жылі непадалёк ад Давыд-Гарадка, назва вёскі не засталася ў памяці. Мы з Палінай размяшчаліся ў будынку школы, спалі на сцэне, адгароджаныя занавесам ад астатняй прасторы актавай залы. Мікола з аспірантам-напарнікам жылі ў іншым будынку насупраць. Кожную раніцу Мікола будзіў нас і, пакуль мы збіраліся, гатаваў на ўсіх сняданак, а потым разам з мясцовым памагатым Грышам мы на пароме пераплывалі магутную Гарынь і некалькі кіламетраў ішлі да старажытнага гарадзішча, месца раскопак. Увечары тым жа шляхам вярталіся дахаты. Гаспадаркай мы ўвогуле не займаліся, усё было на аспірантах. Загарэлі, паздаравелі, а вось пра вынікі нашых раскопак таксама ўжо не прыгадаю, што канкрэтна мы там знаходзілі. Затое памятаю, як некалькі начэй запар мой механічны пазалочаны гадзіннік, які мне падаравала радня на 16-годдзе, спыняўся ў адзін і той жа час, хоць кожную раніцу я яго аднолькава заводзіла. Мы бачылі ў гэтым містычны знак, спрабуючы знайсці тлумачэнне своеасабліваму пасланню паляшуцкіх продкаў, бо Паліна — вялікі аматар таямнічасці.

Палессе такое незвычайнае, цёплае. Шкада, толькі адзін здымак і застаўся ў мяне з той паездкі студэнцкага перыяду. Увогуле з тых часоў такі прагрэс адбыўся ў сферы інфармацыйных тэхналогій! Падумаць толькі, тады камп’ютар — гэта было дзіва дзіўнае! А нашы дзеці нават не ўяўляюць жыццё без інтэрнэту, смартфонаў, планшэтаў і

г. д., ды і мы ўжо самі не ў стане расстацца з падобнымі камунікацыйнымі прыладамі. Зараз праз спадарожнік можна ўбачыць любую кропку свету, кантактаваць з чалавекам, дзе б ён ні знаходзіўся ў цывілізаванай прасторы, выкладваць фота, відэа проста з месца падзеяў. Часам проста губляешся ў віры інфармацыйнага шквалу.

Яшчэ студэнткай 5-га курса аддзялення беларускай і рускай мовы і літаратуры ў лютым 1990 года я была прынята на працу ў Літаратурны музей Максіма Багдановіча, якім на той час кіраваў Алесь Бяляцкі. Ён стаў першым дырэктарам гэтай установы, абраным калектывам супрацоўнікаў, а не прызначаным Міністэрствам культуры зверху. Больш дэмакратычную атмасферу, якая панавала на той час у музеі, цяжка сабе нават уявіць. Давер і разуменне, любоў да беларускага слова, беларускай паэзіі, культуры.

Пасля атрымання дыплома ў музей уладкавалася ўжо і Паліна. Было такое адчуванне, што ты ідзеш не на працу, а ў клуб па інтарэсах. Мы сапраўды працавалі адной камандай, музей рыхтаваўся да адкрыцця экспазіцыі, прымеркаванай да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча ў снежні 1991 года. Працавалі нават у дзве змены, бо не мусілі пакідаць мастакоў адных у памяшканні, а яны часам сыходзілі пасля дзясятай гадзіны вечара. Таму нашыя сямейныя кабеты выбіралі сабе працу зранку, а нас з Палінай задавальняла другая палова дня.

Акрамя асноўнага музея планавалася адкрыццё філіяла — «Беларускай хаткі», дзе паэт пражыў пяць месяцаў у 1916 годзе, фактычна перад самай смерцю, і дзе ім была напісана «Пагоня». Сёлета вось круглая дата з тых часоў — 100 год, а «Хатка», як і цэнтральны музей, стаяць зачыненыя для наведвальнікаў. Страшэнна прыкрая, балючая сітуацыя, бо той перыяд, калі мы ўсе разам працавалі ў музеі, згадваецца з асаблівай цеплынёй і, па вялікім рахунку, ён так і застаўся адзі-

ным месцам майго афіцыйнага працаўладкавання. Пра той час можна доўга і шмат згадваць: пра збор новых экспанатаў, навуковыя канферэнцыі, літаратурныя вечарыны, сумесныя Каляды, паездкі ў Ракуцёўшчыну, купанне ў возеры Сялява, пра кожнага з супрацоўнікаў музея і загадчыкаў «Беларускай хаткі», якімі былі Сяржук Вітушка і Эдуард Акулін, пра мастака Эдуарда Агуновіча, які за праект мастацкага ўвасаблення экспазіцыі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

На пачатку 90-х музей быў асяродкам свабоды і прытулкам «бяздомным»: у ім сапраўды месцілася пару гадоў рэдакцыя газеты «Свабода». Я, дарэчы, і асабісты лёс праз гэта ўладкавала,☺ пабраўшыся шлюбам з журналістам выдання. Калі «Свабода» выехала, яе месца заняла «Наша Ніва», мноства розных грамадскіх арганізацый і суполак атрымалі ў музеі для рэгістрацыі юрыдычны адрас.

Ужо «няма таго, што раньш было», засталіся толькі ўспаміны: Храм Паэта зруйнаваны, экспазіцыя дэмантавана! Няўжо яна магла так безнадзейна састарэць за 20 год? Неверагодна, але факт, і хтосьці ж прыняў такое рашэнне! Сёння на сайце ўстановы разам з паведамленнем пра капітальны рамонт па-ранейшаму змешчана апісанне музейных залаў з фотаздымкамі, а «экспазіцыя Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ўяўляе сабой адзінае гістарычнае, літаратурнае, архітэктурна-мастацкае і эмацыянальнае цэлае».

Між тым маё знаёмства з музеем пачалося раней за ўладкаванне туды на працу. У сакавіку 1990 года праходзілі першыя альтэрнатыўныя выбары народных дэпутатаў Беларускай ССР — у мясцовыя Саветы і Вярхоўны Савет 12-га склікання. Выбары праводзіліся па новым заканадаўстве, якое ўзяло курс на дэмакратызацыю. Мы з Палінай увайшлі ў ініцыятыўную групу Алеся, які тады вылучаўся кандыдатам у гарсавет па

месцы працы. Амаль штовечар мы з іншымі сябрамі ініцыятыўнай групы збіраліся ў музеі, для кожнай групы, якая складалася з двух чалавек — хлопца і дзяўчыны, вызначаліся адрасы дамоў, па якіх мы хадзілі агітаваць: вуліцы Максіма Горкага (зараз Максіма Багдановіча), Кісялёва, Камуністычная, Куйбышава, увесь раён Асмалоўкі. У Вярхоўны Савет па нашай акрузе вылучаўся дэмакратычным кандыдатам Яўген Будзінас, за яго мы таксама агітавалі. Хадзілі па кватэрах. Сустракалі нас у асноўным прыязна, слухалі, выказвалі зацікаўленасць. У дзень выбараў мы назіралі непасрэдна на ўчастках за ходам галасавання, празрыстасцю падлікаў, пасля чаго да самай раніцы, сабраўшыся разам на кватэры Алеся Сушы, які таксама выстаўляў сваю кандыдатуру, чакалі вынікаў. Яўген Будзінас не здолеў перамагчы свайго суперніка мітрапаліта Філарэта, Алесь Бяляцкі ў гарсавет прайшоў. А ў маім жыцці тая агітацыйная кампанія скончыліся палкім каханнем, якое захапіла мяне з усёй сілай першага ўсёпаглынальнага пачуцця насуперак неспрыяльным абставінам і ад якога я доўга і пакутліва пазбаўлялася.

Калі ў 1998 годзе з музея сыходзіў Алесь, разам з ім у «Вясну» пайшлі Паліна Сцепаненка і Таццяна Рэвяка, я засталася і пратрымалася год. Не было ўжо той каманды, той сяброўскай атмасферы, я пачувалася ніякавата. Заставацца ў некамфортных умовах я не хацела, а тут і мая загадчыца фондаў Бяляўская Валянціна Францаўна надумала змяніць месца працы. Я паступіла ў аспірантуру на дзённае аддзяленне.

У 2001 годзе напярэдадні другіх у гісторыі краіны прэзідэнцкіх выбараў па замове Асамблеі НДА мой муж Андрэй Лапцёнак разам са сваім сябрам мастаком Віктарам Корзунам распрацоўвалі агітацыйныя матэрыялы для мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай», а таксама візуальную прадукцыю для грамадзянскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне». Амаль штодня збіраліся ў нас

дома, праводзілі мазгавыя штурмы і выпрацоўвалі ідэі. Памятаю, як нараджаўся выдатны слоган «Хочам! Можам! Пераможам!», які ў 2006 годзе трансфармаваўся ў «Верым! Можам! Пераможам!». Над мастацкім увасабленнем з імі працаваў таксама Міхал Анемпадыстаў. А я даследавала мемуарны жанр у беларускай літаратуры, пакуль не нарадзіла другое дзіця. З праваабаронцамі-музейшчыкамі падтрымлівала адносіны, з Палінай мы шчыльна сябравалі. Далучылася я да «Вясны» ў 2005 годзе, калі сын пайшоў у садок. Арганізацыя тады ўжо была пазбаўлена легальнага статусу, але я пра гэта нават не думала, мне радасна было зноў трапіць у калектыў аднадумцаў, сяброў і быць карыснай пасля трох гадоў хатняй адсідкі.

Я не загадвала, што і як будзе далей, мне цікава было павучыцца журналістыцы, бо пісала не толькі прэс-рэлізы пра затрыманні і суды і не толькі на праваабарончы сайт. Цікава было наведаць розныя семінары, атрымаць новы досвед. І вось ужо 11 гадоў, як «Вясна» са мной. За гэты час арганізацыя значна ўмацавала свае пазіцыі не толькі ў Беларусі, але і за мяжой, стала адной з самых вядомых і аўтарытэтных, нягледзячы на адсутнасць юрыдычнай рэгістрацыі. Пражыты цяжкія моманты як у асабістым жыцці, так і ў нашым супольным. Зняволенне Алеся Бяляцкага аказалася выпрабаваннем для яго самога, для яго родных, сям’і і тэстам для ўсіх нас. У крытычных сітуацыях кожны чалавек выяўляе сваю сутнасць, аднак магу сказаць, што не зрабіла для сябе ў сувязі з гэтым нейкіх адкрыццяў, бо мае ўласныя меркаванні пра людзей, якіх ведаю, хіба толькі пацвердзіліся.

Калі казаць пра надыходзячую падзею, 20-годдзе «Вясны», то 20 — гэта салідная дата, гэта відавочны поспех тых, хто пачынаў ісці па вузкай праваабарончай сцежцы і выйшаў на шырокі шлях. Так трымаць!

*Красавік 2016 года*




**2015.**

За два з паловай летнія месяцы ў межах ініцыяванай ПЦ «Вясна» Беларускай праваабарончай гуманітарнай місіі ва Украіне больш за 20 беларускіх валанцёраў паспелі дапамагчы арганізацыі «Станцыя Харкаў» у працы з вымушанымі перасяленцамі з зоны АТА. На фота злева ўкраінскія валанцёры, справа Алесь Капуцкі (першы), Алег Пашкевіч (другі).

*Алесь Бяляцкі*

## Дапамагаючы іншым, мы баронім сваю ўласную годнасць

Напярэдадні дваццатых угодкаў «Вясны» ў сацыяльных сетках быў запушчаны фотапраект, дзе выстаўляліся фотаздымкі чальцоў «Вясны» ды нашых сяброў у нашыя 20 гадоў жыцця. Такім чынам прапаноўвалася сімвалічна падтрымаць «Вясну». Такі сучасны сеткавы праект, сэнс якога ў тым, каб прыцягнуць увагу да таго, што 26 красавіка 1996 года пасля падзеяў Чарнобыльскага шляху была фактычна створана новая праваабарончая ініцыятыва. Мая калега, якая рыхтавала гэты праект, зрабіла пад ім рамантычны подпіс: «20 год — час маладосці, спадзяванняў і мараў, вясна чалавечага жыцця». На здымку я выглядаю старэйшым за свае 20 гадоў, ды і адчуваў я сябе тады сталейшым за свае гады. Калі быў школьнікам, дык заўсёды хацеў вырасці як найхутчэй. А зараз, калі азірнуцца назад, дык вось банальнасць: апошнія 20 гадоў праляцелі як імгненне...

Але вяртаюся да «Вясны». Пэўна, што кожны год жыцця «Вясны» можна залічыць за два, а то і за тры,

як гэта рабілі некалі на вайне, залічваючы такім чынам вайсковы «працоўны стаж». У гэтыя гады нас уздымала ў нябёсы і кідала ўдол, нам давалі праваабарончыя прэміі і ўламваліся ў офіс і забіралі камп’ютары, нас га́нілі па дзяржаўнай тэлевізіі і намі захапляліся на еўрапейскіх тэлеканалах, нас арыштоўвалі і з намі сустракаліся прэзідэнты і нобелеўскія лаўрэаты. Што за фантастычная карціна! Нашая «Вясна» размаляваная крывёю збітых і слязьмі арыштаваных, яна пахне спецпрыёмнікам і турмой. Народжаная пад дубінкамі на Чарнобыльскім шляху, «Вясна» аказалася надзіва жывучай істотай. Ото ж, гэта сапраўдная беларуская вясна!

У гэтыя два дзесяцігоддзі лёс «Вясны» быў вельмі моцна звязаны з лёсам Беларусі. Ён такі ж. У 1997 годзе я хадзіў рэгістраваць «Вясну» яшчэ як гарадскую арганізацыю ў Мінскі гарвыканкам і зайшоў да юрыстаў, адзін з якіх быў сумнавядомы «афганец» з прозвішчам Бацян. Гэта ён шчыраваў у 1986 годзе, быўшы яшчэ студэнтам юрфака, на Траецкім прадмесці і кіраваў збіццём і разгонам дзяцей з мастацкай школы, якія прыйшлі ў нацыянальных строях гукаць вясну. Тады ён разганяў вясну, а зараз ён мусіў даць іншай «Вясне» праваабарончае жыццё.

Юрысты выпівалі. Убачыўшы мяне і выслухаўшы маё жаданне зарэгістраваць праваабарончы цэнтр, прапанавалі выпіць і мне. Я адмовіўся. Тады другі, старэйшы за Бацяна праўнік спытаўся, як я хачу зарэгістравацца — «хутка ці па закону». «А што гэта значыць?» — спытаўся я. «Хутка — за два тыдні і за дзве пляшкі каньяку, — адказаў юрыст, — а па закону — бясплатна, але праз месяц». — «Па закону», — адказаў я, бо не хацелася пачынаць гісторыю рэгістрацыі «Вясны» з хабару.

Першая кватэра, дзе мы размясціліся ў 1998-м, была двухпакаёўка на вуліцы Дарашэвіча. На першым паверсе ў гэтым самым пад’ездзе месцілася памяшканне Задзіночання беларускіх студэнтаў і «Супольнасці», а на другім — мы. Доўга мы там не прабылі. Неяк міліцыянты абклалі офіс студэнтаў, ужо не памятаю, з якой нагоды, ды так, што яшчэ ледзь не нарад каля пад’езда паставілі, не прайсці спакойна. Стала горача, і мы перабраліся з хрушчоўкі ў сталінку на вуліцу Кісялёва.

У кватэры ляжаў паркет і былі высокія столі, адзіны мінус — была яна на самым верхнім, чацвёртым паверсе. У траўні 1999 года адбылася трагедыя на Нямізе, калі ў даўцы ў метро загінулі 53 чалавекі, а ў верасні гэтага ж года ўзарвалі чатыры шматпавярховікі ў Расіі. Дзве гэтыя падзеі перасекліся дзіўным чынам у памяшканні «Вясны». Увосень 1999 года падчас сходу бацькоў і родных загінулых на Нямізе ў нашым офісе, бо тады мы рыхтавалі кнігу ўспамінаў пра гэтую трагедыю, у кватэру ўварваліся міліцыянты. Убачылі яны не тое, на што спадзяваліся. «Што ж вы на Нямізе не былі такімі спрытнымі?» — сарамацілі іх бацькі загінулых дзяцей. «Нам сказалі, што тут можа быць гексаген», — няўмела апраўдваліся міліцыянты. Гексагену яны не знайшлі, але ўсё ж забралі нашыя камп’ютары і стос вясноўскага бюлетэня «Права на волю».

Сапраўднай прычынаю вобшуку была трэцяя падзея, якая набліжалася ў той час, — «Марш свабоды», заяўку на які падпісаў і я. У гэтым годзе ў Лукашэнкі скончыліся першыя пяць гадоў праўлення, у турме сядзелі дэпутаты, якія галасавалі за імпічмент Лукашэнкі, — Уладзімір Кудзінаў і Андрэй Клімаў, а таксама былы прэм’ер-міністр Міхаіл Чыгір, які сышоў у адстаўку ў знак пратэсту супраць антыканстытуцыйнага рэферэндуму 1996 года. Альтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары, у якіх вёў рэй былы старшыня ЦВК Віктар Ганчар, выклікалі адчуванне нейкай фантасмагорыі.

Увесну 1999 года я сядзеў на «сутках» на Акрэсціна ў прыёмніку-размеркавальніку ў той самы час, калі сядзеў там і Віктар Ганчар. Мы былі ў адной камеры разам з Барысам Гюнтарам і чулі, як ён крычаў, калі яго кармілі гвалтам, бо Віктар Ганчар трымаў сухую галадоўку. У траўні перад гэтымі «выбарамі» знік Юры Захаранка, а ў верасні знік і «архітэктар» паралельных прэзідэнцкіх выбараў Віктар Ганчар разам са сваім сябрам Анатолем Красоўскім.

17 кастрычніка 1999 года «Марш свабоды» ўсё ж адбыўся, прыйшлі дзясяткі тысяч чалавек, пратэставалі супраць саюзных памкненняў Аляксандра Лукашэнкі, які тады рваўся ў Крэмль, бо спадзяваўся, здаўшы Беларусь Расіі, замяніць на крамлёўскім троне хворага Ельцына. Я вёў кароткі мітынг, на якім Вінцук Вячорка, выступаючы, казаў: «Саюз з Расіяй — гэта вайна, саюз з Расіяй — гэта смерць, саюз з Расіяй — гэта галеча, але — жыве Беларусь!» Я ж у гэты час на вачах ва ўсіх паліў дамову аб саюзе з Расіяй. Тады ж уголас было абвешчана пра знікненне апазіцыйных палітыкаў. А потым была дэманстрацыя і былі сутычкі з міліцыяй, і мой сябра-вясновец, калі бачыў, як міліцыянты падбіралі каменне і кідалі ў натоўп, крычаў ад бяссілля: «Сукі! Блядзі! Прастытуткі!» Каманда, якая тады арганізоўвала гэты Марш, была баявітая. Пяцёра з яе ў наступныя гады паспыталі турэмнай баланды.

Міколу Статкевіча пасля «Марша свабоды» арыштавалі, я ж два тыдні хаваўся на іншых кватэрах, пакуль улёгся шум, а ў лістападзе на офіс «Вясны» патэлефанавалі з міліцыі і прапанавалі забраць канфіскаваныя ў нас камп’ютары. Я пайшоў забіраць, але забралі мяне, склалі пратакол за «Марш свабоды» і адправілі на Акрэсціна. Назаўтра прывезлі, як звычайна, на суд, але суддзя аддала пратаколы міліцыянтам на дапрацоўку, і мяне нечакана адпусцілі. Аказалася, што ў гэты самы дзень праходзіў саміт АБСЕ ў Стамбуле, дзе быў Лука-

шэнка, а таксама сярод іншых апазіцыйных палітыкаў і Вінцук Вячорка. Вось ён і дагрукаўся да нейкага з амерыканскіх палітыкаў. Тыя ў сваю чаргу запыталіся ў Лукашэнкі пра мой выпадак, і ў выніку мяне адпусцілі. Такім быў гэты нялёгкі 1999 год.

З кватэры на вуліцы Кісялёва гаспадыня папрасіла нас выбрацца пасля таго, як з ёй паразмаўляла міліцыя. Таму мы пераехалі ў падсуседзі да ТБМ (ТБМ — Таварыства беларускай мовы) на вуліцу Румянцава. Сядзець там было нязручна — прахадны двор, таму і там мы надоўга не затрымаліся. Адное запомнілася, як разбіў аднаму з тэбээмаўцаў наш юрыст даляравую купюру, а затым пайшоў здаваць яе ў абменнік, мяняць на беларускія рублі. Вярнуўся ўвесь натапыраны, як верабей. Аддаў адну з паменяных паперак касірцы, тая праверыла — фальшыўка — і патаемна выклікала міліцыю. Пакуль наш юрыст стаяў і цярпліва чакаў, прыляцелі двое операў і добра-такі пакатурхалі яго, пакуль высветлілі, што і як. Добра, што паверылі і адпусцілі. «І дзе ж, ты сказаў, атрымаў гэтую фальшыўку?» — спыталіся мы. «Ну не ў ТБМе ж, — адказаў ён, — на Камарах».

Затым мы перабраліся ў кватэру каля Акадэміі навук. І гэта ўжо быў сапраўдны наш офіс. Света — дызайнерка, якая дапамагала нам зрабіць там рамонт, — прапанавала брутальна-яркія колеры пліткі ў ваннай, якія нагадвалі чырвоным колам у белым чатырохкутніку хінамару — японскі сцяг. Гэта каб зайшоў і ахнуў, смяяліся мы. А чым яшчэ было лячыцца, калі амаль штодзень мы мелі справу з арыштамі, затрыманнямі, судамі, збіццём, з людзьмі, якія супрацiўляліся, імкнуліся адстаяць свае правы і цярпелі за гэта, калі, здавалася, уся несправядлівасць, якую ад імя дзяржавы чыніла гэтая кодла хцівых і бязлітасных ваўкоў, якая

дарвалася да ўлады, сцякалася да нас на нашыя галовы? Чым было нам лячыцца, як не смехам? Мы багата смяяліся на офісе і ўпарта рабілі сваю працу, «газавалі», не зважаючы на пагрозы, як быццам бы кожны дзень нашай працы быў апошнім.

У 2001 годзе адбываліся чарговыя прэзідэнцкія выбары па знявечанай Канстытуцыі 1996 года. На той час старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына ўжо зманціравала сістэму выбарчых камісій ад участковай і да цэнтральнай. Адбор сяброў камісій на ўсе сто кантраляваўся прэзідэнцкай вертыкаллю. Туды прызначаліся толькі свае людзі, што дазваляла фальсіфікаваць выбары і забяспечваць хоць дэпутатам ад улады, хоць дзеючаму прэзідэнту «элегантную» перамогу.

Мы супраціўляліся, як маглі, спрабавалі маральна паўплываць на камісіі праз назіральнікаў, стварылі кааліцыю з 14 няўрадавых арганізацыяў па назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі, толькі ад «Вясны» вылучылі амаль тры тысячы чалавек, а ўсяго — больш за 10 тысяч назіральнікаў, стварылі сістэму паралельнага падліку галасоў, якая давала магчымасць хутка даведацца пра рэальныя вынікі галасавання. Ды і ўлады не спалі ў шапку. Напачатку Лукашэнка сказаў штосьці пагрозлівае ў бок незалежных назіральнікаў, у якіх як быццам бы ляжыць пад ложкамі зброя. Затым падчас папярэдняга галасавання некалькі тысяч нашых назіральнікаў па надуманых прычынах не атрымалі акрэдытацыі і нашая сістэма назірання моцна паслабела і парадзела. І, урэшце, назіральнікаў амаль паўсюль не дапусцілі да сталоў, дзе падлічваліся бюлетэні. Выбары былі нахабна сфальсіфікаваныя, і мы былі бяссільныя што-небудзь супрацьпаставіць ці змяніць.

А як жа баяўся Лукашэнка гэтых выбараў! У Сербіі толькі як скінулі Мілошавіча. Я шукаў у інтэрнэце ягоную цытату пра зброю пад ложкамі назіральнікаў, а

натыкнуўся на іншую, не менш яркую, якую, я спадзяюся, яшчэ прыйдзе час, ён павінен будзе патлумачыць больш падрабязна: «Не будзе Каштуніцы ў Беларусі. Не будзе. Гэта павінны ведаць усе, хто на гэта разлічвае. Але яны цудоўна ведаюць мой характар. Я буду абараняцца. Я ў бункеры сядзець, як Мілошавіч, не буду. Я нікога не баюся. Я нічога не скраў у свайго народа і буду абараняцца. Хто будзе абараняць? Армія? Яе ва ўнутраныя справы не прыцягнеш. Умешвацца яна не будзе. Вядома, унутраныя войскі. Ёсць спецыяльная брыгада спецназа пад камандаваннем Паўлючэнкі. Сёння гэтая брыгада як бяльмо на воку ў радыкальнай апазіцыі. Яны цудоўна разумеюць, што спецпадраздзяленні «Альфа», «Алмаз» і прыгаданая брыгада будуць абараняць прэзідэнта. І ніколі не здадуцца».

Так. Гэтая тая брыгада і той Паўлючэнка, які падазраецца ва ўдзеле ў злачынствах супраць зніклых Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага, той Паўлючэнка, які самаручна збіваў кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна, якога не выкраслілі з санкцыйных спісаў Еўрасаюза і ЗША нават зараз, калі адтуль павыкрэслівалі амаль усіх.

Але ўсё, больш не буду я цытаваць Лукашэнку: ні пра яйцы, якія то знікаюць, то з'яўляюцца, ні пра валасы, якія ў яго ўстаюць дыбара, калі ён даведваецца пра стан у эканоміцы, ні пра вета, якое ён прапаноўваў накласці на табу, ні пра беларускую мову, на якой нічога выказаць немагчыма.

Выбары 2001 года мы сустрэлі ў рэдакцыі газеты «Рабочы», якую бліскуча цягнуў, пакуль хапала здароўя і энергіі ды пакуль не пасадзілі на «хімію», Віця Івашкевіч. Рэдакцыя гэтая была ў Верхнім горадзе, недалёка ад Палаца прафсаюзаў, які па-анархісцку захапілі нешматлікія пратэстоўцы. Выходзіць на плош-

чу за млявага Ганчарыка, суперніка на выбарах Лукашэнкі, нягледзячы нават на тое, што выбары былі сфальсіфікаваныя, асабліва ніхто не захацеў. Вось там, у офісе газеты «Рабочы», уначы нас аж калаціла ад нервовага напружання: адусюль прыходзілі звесткі, што назіральнікаў не дапускаюць да падліку галасоў, а тых, хто пратэставаў, затрымлівае міліцыя. І мы між іншага, неяк неўпрыкмет, выпілі літровую пляшку гарэлкі на траіх. І пілася тая фінская гарэлка, як звычайная з-пад крана вада.

Гэтае назіранне ў 2001 годзе ўлады нам не даравалі. Спачатку Мінюст вынес папярэджанне за «парушэнне заканадаўства» пры вылучэнні назіральнікаў, а крыху пазней, як паступіў загад, нас вырашылі зачыніць. У Вярхоўным Судзе мы размаўлялі па-беларуску, суддзя, мілая кабетка, таксама размаўляла па-беларуску, але арганізацыю забіла. Мы рыхталіся да такога фіналу, селі на падлогу і скандавалі: «Ганьба! Ганьба!» Прадстаўніца Мінюста, заказчыка забойства «Вясны», апасліва пераступала, перабіраючыся паміж нас, каб выскачыць з залы суда. Затым і суддзя сышла, а прыйшоў міліцыянт, начальнік аховы суда, доўга ўпрошваў нас, каб мы выйшлі з залы па сваёй волі. Мы ўпарта адмаўляліся, тады ён скрушліва ўздыхнуў і аддаў загад. Прыбеглі амапаўцы, заламілі нам рукі і вывелі нас подбегам з суда па адным, каб пасадзіць у аўтобус і завезці ў апарняк Партызанскага РУУСа.

Тады, у 2003–2004 гадах, адстрэлілі не толькі «Вясну», а яшчэ каля 400 іншых «нячэсных» незалежных ад улады няўрадавых арганізацый. Лукашэнка загадзя пачаў рыхтавацца да выбараў 2006 года.

Узгадваю гэтую выбарчую кампанію як найбольш хвалюючую. Хоць і відавочна было, што яшчэ не час, што народ яшчэ «спіць», а сіламі толькі актывістаў

рэчаіснасць у краіне не змяніць, але ж была нейкая адчайная захопленасць ва ўсіх яе ўдзельнікаў. Вось жа сапраўды, ідучыя на пакуты віталі волю.

У лютым урэшце асудзілі Сяргея Скрабца, які з траўня 2005 года таміўся на Валадарцы, чакаў суда, у калоніях сядзелі Міхаіл Марыніч ды Валеры Леванеўскі, на «хіміі» — Андрэй Клімаў, Мікола Статкевіч ды Павел Севярынец. Аляксандр Казакоў, Зміцер Зубро, Павел Красоўскі, Зміцер Касяровіч, Артур Фінкевіч, Уладзімір Хоміч ды Максім Кокараў, Сяргей Ляшкевіч, Яўген Сувораў, Наста Азарка ды Сяргей Марчык, Іван Крук ды Мікіта Сасім, Андрэй Панасік ды Эдвард Зелянкоў... Даруйце, тыя, каго не называю ў гэтым спісе «злачынцаў», супраць якіх былі ўзбуджаныя крымінальныя справы за грамадскую актыўнасць у 2006 годзе. Калі гляджу зараз на гэтыя прозвішчы ды справы, такое адчуванне, што ішла нябачная грамадзянская вайна, дзе ўлады рабілі ўсё, каб збіць актыўнасць людзей, якія патрабавалі змен.

21 лютага 2006 года кадэбісты разграмілі «Партнёрства», якое ў тыя выбары займалася назіраннем, Аляксандра Шалайку, Міколу Астрэйку, Эніру Браніцкую і Цімоха Дранчука пасадзілі ў «амерыканку». Старшыня КДБ Сцяпан Сухарэнка выступіў па тэлевізіі і абвінаваціў партнёрцаў у каардынацыі мяркуемых правакацыяў, захопу будынкаў, вакзалаў, перакрыцця чыгуначнага руху, якія ў дзень выбараў планавала зрабіць апазіцыя.

Па краіне пракацілася хваля вобшукаў у кватэрах актывістаў, якія актыўнічалі ў камандзе адзінага дэмакратычнага кандыдата ад апазіцыі Аляксандра Мілінкевіча. Падчас выбарчай кампаніі сотні рэгіянальных кіраўнікоў ды актывістаў у розных кутках Беларусі былі затрыманыя і сядзелі на «сутках». На свой страх і рызыку ў выбары ўлез і былы рэктар БДУ Аляксандр Казулін, які падчас выступу па тэлевізары задаў

Лукашэнку незабыўнае пытанне: «Дзе грошы, Аляксандр? Вярні народу гэтыя грошы!»

А потым была Плошча. Праглядаючы хроніку з розных акцыяў ды падзеяў за апошнія 25 гадоў, найбольш эмоцый я адчуваю ад кадраў з Плошчы 2006-га. Дзесяць гадоў мінула, і мы пастарэлі на дзесяць гадоў. Які моцны снег сыпануў тады на людзей! Як адчайна, сабраўшыся на Плошчы, людзі верылі ў цуд! Як назаўтра неслі намёты, сцягі, ежу і вопратку для тых, хто вырашыў стаяць да канца. А людзей усё затрымлівалі, і затрымлівалі, і затрымлівалі.

Другую ноч мы правялі на Плошчы і ледзь не пазамярзалі, на вуліцы быў добры мінус. Мы хадзілі грэцца ў пераход метро, дзе тупалі-грэліся таксама і «ціхары» ды яшчэ некалькі галубоў трывожна драмалі ў кутку. Спяваў на Плошчы Андрэй Хадановіч, хадзіў, падцягнуўшыся, Віця Івашкевіч, выступаў у бронекамізэльцы Лёша Янукевіч, моладзь спявала «Тры чарапахі» і гукала: «Верым! Можам! Пераможам!» І прайгралы кандыдат (хоць якая гэта была «гульня», у адну браму, бо Ярмошына «лічыла» галасы, дык у яго і шанцаў не было ніякіх выйграць) Аляксандр Мілінкевіч прамаўляў нейкія высокія і светлыя словы. А ўначы праз чатыры дні намётавы лагер на плошчы Каліноўскага «зачысцілі» — і скончылася свята пчалы.

Вось калі нам, беларусам, не хапіла ўпартасці і цвёрдасці ўкраінцаў, якія трымаліся за свае плошчы зубамі, вось калі прыгожыя словы і юнацкі імпэт не разліўся ў шырокую хвалю, а словы нашых гімнаў не былі падхоплены тысячамі і тысячамі новых і новых пратэстоўцаў, бо тыя не прыйшлі. Не АМАП і не спецназ тады перамаглі, не Лукашэнка з Паўлючэнкам, бо быў такі момант, я гэта адчуў на трэці дзень, як самі амапаўцы ды «ціхары» пачалі ўжо чмурэць ад гэтых бясконцых затрыманняў і хваляў упартай энергіі, якая

кацілася на іх. Забіты людзьмі быў спецпрыёмнік на Акрэсціна, арыштаваных павезлі ў жодзінскую турму, і яшчэ б, яшчэ б калі пашырыўся гэты мірны супраціў, непазбежна апусціліся б у іх усіх рукі і ніхто не стаў бы страляць у людзей, не знайшлося б ні камандзіраў, ані выканаўцаў, здольных на такі загад. Але пералому не адбылося. Нашыя людзі не вытрымалі гэты «бой з сабой». Беларусы перамаглі саміх сябе.

25 сакавіка арыштавалі Аляксандра Казуліна. Пры затрыманні яго моцна збілі, ледзь не зрабілі калекам, потым быў суд у судзе Маскоўскага раёна. Я быў там, акустыка ў судовай зале была кепскай, Аляксандр Казулін гаварыў шпарка і не заўсёды разборліва, прыходзілася напружвацца, каб зразумець, пра што ён гаворыць. Урэшце, гэта і не было самым істотным. І так было зразумела, што ідзе палітычная расправа. Але я ўлічыў гэты вопыт і праз пяць гадоў падчас суду нада мной у гэтай самай зале імкнуўся выступаць ужо гучна, выразна і не спяшаючыся.

Увосень 2006 года на Кастрычніцкай плошчы ладзіўся пікет у падтрымку Аляксандра Казуліна. Далучыліся да яго і мы. Прыйшлі з Валікам Стэфановічам, Алесем Калітой ды яшчэ адным валанцёрам, пранеслі (абматаў Каліта вакол сябе) вялікую расцяжку з надпісам «Казуліну свабоду!», нечакана раскруцілі і сталі ўздоўж праспекта. Побач стаялі іншыя пікетоўцы з невялікімі, у аркуш, партрэтамі Казуліна. Нашая расцяжка была для амапаўцаў як чырвоная ануча для быка. Неўзабаве яны накінуліся і пачалі вырываць яе. Мы ж учапіліся з усіх сілаў і не давалі. Пачалася валтузня. Па некалькі чалавек накінулася на нас, урэшце адарвалі і кінулі нас валяцца на мокрай плітцы. Мы ізноў падхапіліся і ўжо з малымі партрэтамі Казуліна ў руках упіраліся, былі адціснутыя з плошчы і з сінякамі на нагах ад амапаўскіх берцаў закінутыя ў аўтобус. На прыёмцы арыштаваных у аўтобусе сядзеў лейтэнант,

радавыя ж і сяржанты пакавалі пікетоўцаў, рассаджвалі па крэслах, шчодра раздаючы кухталі. Калі запіхнулі мяне, разгарачанага ад штурханіны на плошчы, без шапкі, у расшпіленай куртцы, лейтэнант загадаў: «Дедушку не трогать!» Было ж мне тады 45. Не сказаў бы, што надта стары, але сівая галава збіла лейтэнанта з панталыку, а мяне выратавала ад пары кухталёў.

А тады, у 2007 годзе, улады накінуліся на «Малады фронт». Адзінаццаць маладафронтаўцаў прайшлі па крымінальным артыкуле $193^1$, сямёра з іх былі асуджаныя за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. КДБ біла па дзецях, папярэджваючы ўсіх астатніх. Нейкія такія хмары хадзілі і вакол «Вясны». Мы атрымалі рашэнне Камітэта па правах чалавека аб тым, што ўлады павінны аднавіць нашую рэгістрацыю, і паспрабавалі зарэгістравацца наноў. Безвынікова. Тады мы адкрыта выступілі і абвясцілі, што будзем працаваць далей і без рэгістрацыі. Да офіса «Вясны» пад'язджала група бэтэшных тэлевізійшчыкаў, зняла сюжэцік, дзе казалася: куды глядзяць органы праваахоўвы, бо ж тут сядзіць і працуе незарэгістраваная арганізацыя. У паветры паграмыхвала, і мы гадалі, штурмануць нас ці не. Але граміць «Вясну» і пачынаць новы працэс па $193^1$ улады паасцерагліся.

Тады ж ездзілі мы на асамблею няўрадавых арганізацый Магілёўскай вобласці, і я заклікаў сяброў з іншых незарэгістраваных арганізацый таксама адкрыта выступіць з заявай пра дзейнасць нават без рэгістрацыі. Адваротнага энтузіязму я не адчуў. Грамадскія актывісты моўчкі і з пашанаю выслухалі мяне, а потым адзін коратка падсумаваў: «Гэта Бяляцкі можа сабе такое дазволіць. Хто ж яго пасадзіць?» Мы тады шчыра пасмяяліся. Я зразумеў, што нельга ад іншых патрабаваць ахвярнасці, калі не можаш гарантаваць людзям бяспеку. Але і той магілёўскі гумарыст памы-

ліўся. Сапраўды, як нядаўна сказаў Лукашэнка, у Беларусі дзяржава жартаваць не любіць. Прыйдзе яшчэ час, калі пасадзяць і мяне.

Тры гады пасля трагічных прэзідэнцкіх выбараў 2010 года выглядалі безнадзейнымі. Былі яны безнадзейнымі не толькі для тых палітзняволеных, хто сядзеў у турме, ды іхніх сем'яў, але і для ўсяго беларускага грамадства, здавалася б, маральна надламанага. Атмасфера нежыццёвай беспрасветнасці ахутала Беларусь. Улады гэта назвалі стабільнасцю. Ці дасягнуў Лукашэнка, творца гэтай «стабільнасці», таго, аб чым марыў? Я ўпэўнены, што не. Прыйшла такая пара, калі не слабыя безабаронныя людзі, а няўмольны час стаў супраць яго.

Адзін мой добры знаёмы серб, лідар няўрадавай арганізацыі, калі апісваў мне тое, што рабілася ў Сербіі перад сыходам Мілошавіча, сказаў, што былі такія моманты, калі самае лепшае, што можна было зрабіць, — гэта нічога не рабіць. Тады я не асэнсаваў гэты парадокс, а зразумеў яго думку ўжо ў гэтыя сумныя гады, калі сам сядзеў у турме і калі ад мяне патрабавалася менавіта гэта — нічога не рабіць, а проста сядзець. Самы дзейсны сродак барацьбы быў у бяздзейнасці. Урэшце, недарэмна кажуць, што турма — гэта зменшаная копія дзяржавы.

Ці пагодзіцца чалавек калі-небудзь з няволяй? Ці гатовы ён прадаць уласную свабоду за стойла з абярэмкам сена? Можа, і гатовы да пары да часу, але потым усё роўна яго пацягне да волі. Нястрымная прага да свабоды ёсць зарукай непазбежных зменаў у нашай краіне.

У жніўні 2015 года Лукашэнка вымушаны быў выпусціць палітзняволеных. Няма ніякага сумневу, што гэтае рашэнне — выпускаць ці не — прымаў асабіста

ён. Чарговая старонка гісторыі ў нашай краіне перагорнутая. Ці дойдзе справа да рэгістрацыі праваабарончага цэнтра «Вясна», да рэабілітацыі былых палітычных зняволеных, на чым зараз настойвае міжнародная супольнасць, ці мы зноў вернемся туды, дзе былі, — пабачым. У любым выпадку лёс «Вясны», як і ўсе гэтыя дваццаць гадоў, будзе шчыльна звязаны з лёсам нашага народа, нашых людзей.

За дваццаць гадоў супрацьстаяння мы пасталелі і пастарэлі. На заводах і фабрыках ад цяжкай працы людзі зношваюцца. У праваабароне мы хіба што сточваемся. Адыходзяць нашыя сябры. З розных прычынаў. Але прыходзяць новыя, пераважна моладзь. Некалі, гадоў дзесяць таму, калі нашыя дзяўчаты заводзілі размовы пра пенсію і журыліся, што няма ў іх працоўнага стажу, я смяяўся: «Не хвалюйцеся! Прыйдзе час, зменіцца гэтая ўлада — і ўсім нам дадуць персанальныя пенсіі і вялікія жэтоны з надпісам “Ветэран Адраджэння”, і будзем мы ездзіць у метро бясплатна». І хоць зараз пенсійныя гады ў Беларусі адсоўваюцца, але відавочна, што праваабарончай працы хопіць яшчэ надоўга, якая б улада ні была, таму пра пенсіі лепей пакуль не думаць зусім.

У справе абароны сотняў і тысячаў людзей, якія пацярпелі ад змагання за свае правы і за Беларусь, я заўсёды адчуваў два важныя для мяне моманты, дзве часткі аднаго цэлага. Першае, што мы баронім рэальнага чалавека, жывога і цёплага, з пачуццямі і эмоцыямі, са станоўчымі якасцямі і рэальнымі слабасцямі. Пэўна, што ідэальных людзей няма нідзе. Але мне цікавыя людзі самі па сабе. Я лічу, што не нашая справа судзіць людзей, нават калі ты не атрымліваеш падзякі за тое, што нешта зрабіў для іх. У рэшце рэшт, праваабарончая праца — гэта твой асабісты выбар. Пачуццё спагады — гэта тое, што робіць нас адрознымі ад прафесійных юрыстаў-адвакатаў, хаця і сярод іх багата

неабыякавых людзей. Падчас бясконцых кантактаў з людзьмі, калі ты штодзень бярэш да сябе ў душу частку іхніх праблемаў, вельмі важна захаваць, не растраціць гэты агеньчык шчырага спачування, які робіць праваабарончую працу жывой. У барацьбе за праўду важна самому не зачарсцвець.

І другі момант, гэта тое, што праваабарончая праца патрэбна не толькі тым, хто церпіць, але і тым, хто дапамагае. Дапамагаючы іншым, мы баронім сваю ўласную годнасць. Гэта наш мірны адказ на гвалт і несправядлівасць у нашым жыцці, якое, як і ва ўсіх людзей, непаўторнае і адно. Гэта нашае жаданне ды імкненне ў нашых умовах, якія б яны ні былі, звацца чалавекам.

Зараз можна пэўна сказаць, што «Вясна» — гэта больш чым проста пара года.

*Сакавік 2016 года*

20-Я ВЯСНА

Зборнік эсэ і ўспамінаў
сяброў Праваабарончага цэнтра «Вясна»

*Падрыхтоўка да друку* Алена Лапцёнак

*Камп’ютарная вёрстка* Віктар Корзун

*Вокладка* Віктар Корзун

*Ілюстрацыя на вокладцы* Воля Кузьміч

*На 4-й старонцы вокладкі*
верш Алега Мінкіна “Гуканне вясны”

*Карэктура* Алена Сяргейчык

Наклад 1000 ас.